18 снежня 2015 | № 48 (465)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Паважаныя чытачы!
Чарговы нумар
газеты выйдзе
8 студзеня 2016 года**

ISSN 2218-2144

9 772218 214401 10048



# З Калядамі і Новым годам!



Фота Andrzej Waszkewicz

Аксана КОЛБ

Я шчэ адзін год адлічвае апошнія дні. Для кожнага ён быў свой. Добры ці дрэнны, але свой.

Для кагосьці гэта быў год суцэльнага расчаравання. А хтосьці запомніць яго як час дасягнутых мэтаў.

Мы пасталелі яшчэ на адзін год. Магчыма, паразумнелі ці наадварот страцілі розум ад шчасця. Сталі больш чуллівымі да чужой бяды ці зусім зачарсцвелі.

Мы пражылі гэты год. Магчыма, не так, як хацелася, а можа лепш, чым марылася. Мы заглядаемся ў новы 2016 год і спадзяемся, што ён будзе хаця б не горшы. Кожны раз напрыканцы года мы становімся крыху дзецьмі і хочам верыць, што з апошняй секундай старога года мы адчынім дзверы ў казку, якая застанецца з намі назаўсёды.

«Кожны раз, калі мы расстаемся са старым годам, мы імкнёмся развітацца назаўжды з усім горшым, што ў ім было, што здарылася з намі, з нашымі роднымі і блізкімі. І марым забраць з сабой усё лепшае, чым год нас адарыў. З разлікам на працяг у годзе новым, у надзеі дадаць да старога добрага новае лепшае.

Такое жыццё. Такія мы. Спакон вякоў. Такія простыя і зразумелыя нашы чаканні-жаданні. І тады, калі ўсё ў нас добра, і калі не зусім. З лёгка-іранічным спадзяваннем на навагодні цуд. І прытоена-сур'ёзным спадзяваннем на літасць лёсу, на ўсмешку фартуны, на ўдачу і поспех. З гэтага і зыходзім у сваіх пажаданнях нашым чытачам», — гэта напісаў напрыканцы 2014 года Аляксей Кароль.

У гэтым годзе мы развіталіся з нашым галоўным рэдактарам. Яго спадзевам на літасць лёсу і ўсмешку фартуны не наканавана было споўніцца. Магчыма, ад таго так цяжка на душы і так хочацца казкі. Магчыма, ад таго яго простыя і шчырыя пажаданні гадовай даўніны так дарэчы сёння.

*Быць здаровымі!*
*Жыць у міры, ніколі не зведаць вайны і не пабачыць на сваёй зямлі аніякіх чужынскіх узброеных «зялёных чалавечкаў»!*
*Ладу і дабрабыту ў сям'і!*
*Працы па душы і інтарэсе!*
*Сяброў і добразычліўцаў поруч!*
*Поспехаў і ўдачы!*

*З надыходзячымі вас святамі, нашы дарагія чытачы!*

# Мы не будзем плаціць падаткі

**Сотні прадпрымальнікаў, якія прыехалі ў Мінск, вераць у станоўчыя вынікі новага дыялогу з уладамі.**

А часу застаецца зусім няшмат. Тым больш, што папярэднія перамовы з уладамі толькі на нейкі час перасунулі перспектыву банкрутства большасці ІП. Гэтак было сёлета ў сакавіку. Цяпер праблема вярнулася з новай сілай.

«Працаваць з 1 студзеня мы не зможам. Мы прыпыняем сваю працоўную дзейнасць. Мы не будзем плаціць падаткаў, мы не будзем плаціць арэнды. Дзяржава недаатрымае грошай як ад нас, гэтак і ад арэндадаўцаў», — распавядае Святлана Калачова, прадпрымальніца з Гомелю.

Галоўнай жа перашкодай для абсалютнай большасці індывідуальных прадпрымальнікаў застаецца ўказ прэзідэнта нумар 222. Паводле дакументу, гандляры абавязаныя мець суправаджальныя дакументы і сертыфікаты на тавар. У выпадку іх адсутнасці ІП чакаюць штрафы нават да 200 базавых велічыняў. Таму падчас сённяшняга форуму аб'яднанне «Перспектыва» запрапанавала ўладам свой антыкрызісны план. Праект прадугледжвае, між іншага, мараторый на дзеянне прэзідэнцкага ўказу.

«Мы спрабуем развязаць сітуацыю да 1 студзеня, каб не даводзіць да крайнасцяў. Мы вельмі гэтага хочам. Мы хочам больш за ўсіх», — тлумачыць Анатоль Шумчанка з аб'яднання «Перспектыва».

Ці атрымаецца дыялог, пакуль не вядома. На сустрэчы прадпрымальнікаў прысутнічаў прадстаўнік Міністэрства гандлю. Аднак з яго словаў стала зразумела, што саступаць чыноўнікі пакуль не збіраюцца.

«Цывілізаваны рынак прадугледжвае гандаль з дакументамі. Цывілізаваны рынак прадугледжвае арганізаваны гандаль. Да гэтага мы ішлі не адзін год», — маркуе Андрэй Мяшкоў, прадстаўнік Міністэрства гандлю.

Прадпрымальнікі кажуць, што атрымаць такія дакументы амаль не магчыма. Аптавікі на рынках Мытнага саюзу папросту іх не маюць. У такім выпадку адказнасць за якасць тавару кладзецца цалкам на плечы ІП. А яны лічаць гэта недапушчальным. Прапанова ж уладаў гандляваць айчыннай прадукцыяй не сустрэла аптымізму.

«Наш беларускі тавар, ён дарагі, ён непакупны, ён не заўсёды прыгожы, ён неканкурэнтаздольны. І яшчэ атрымліваецца, што будзем гандляваць адным і тым жа», — дадае прадпрымальніца Святлана Калачова.

Чакаць адказу ўладаў прадпрымальнікі збіраюцца да дваццаць восьмага снежня. У выпадку, калі ніхто не прыслухаецца да іхнага голасу, прадпрымальнікі не выключаюць арганізацыю сацыяльных пратэстаў ва ўсёй краіне.

**Паводле belsat.eu**

# Пенсіянерам забаранілі пікет

Марат ГАРАВЫ

**Мінгарвыканкам не дазволіў актывістам Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры правесці пікет у цэнтры сталіцы.**

Пра гэта паведаміў намеснік старшыні Мінгарвыканкама Ігар Карпенка. Сваю адмову ён матываваў тым, што заяўка «не адпавядае патрабаванням артыкулаў 5 і 9 Закону Рэспублікі Беларусь «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь».

У заяўцы за подпісамі 10 пенсіянераў зазначалася, што ў пікеце, запланаваным на 17 снежня за кошт асабістых сродкаў грамадзянаў, возьмуць удзел не больш за 15 чалавек.

Падчас пікета меркаваліся плакаты наступнага зместу: «Гульні ў дэмакратыю скончыліся з намі 11 кастрычніка», «Патрабуем ад чыноўніцтва выканання Канстытуцыі краіны!», «Чыноўнікі і дэпутаты схаваліся ад народа за плотам адпісак».

Заяўнікі звярнулі ўвагу чыноўніцтва на тое, што права на свабоднае выказванне свайго меркавання і правядзенне пікету дадзена грамадзянам артыкуламі 33 і 35 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і артыкуламі 19 і 21 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах. А механізм рэалізацыі гэтага права вызначаны Законам «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь». Мінгарвыканкам, як орган выканаўчай улады, павінен забяспечыць рэалізацыю права грамадзян на свабоднае выказванне меркавання ўдзельнікаў акцыі падчас яе правядзення, гаварылася ў заяўцы.

Яе аўтары адзначалі, што ў пікеце возьмуць удзел пенсіянеры, і што грамадскія парадак падчас акцыі будзе гарантаваны.

У каментары НЧ юрыстка Тамара Сяргей звярнула ўвагу на тое, што артыкулы 5 і 9 Закону Рэспублікі Беларусь «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь», на якія спасылаўся намеснік старшыні Мінгарвыканкаму, утрымліваюць шмат частак. «Паколькі ў адказе Ігара Карпенкі не названа канкрэтныя часткі гэтых артыкулаў, нам не вядомыя матывы адмовы. Вось чаму мы лічым, што адказ Ігара Карпенкі незаконны, неабгрунтаваны і парушае нашы канстытуцыйныя правы», — падкрэсліла юрыстка.

# Жыхарам паказалі дулю

Ксенія ЛІТВІНОЎСКАЯ

**«Рэйдарскі захоп», — вось што, на думку жыхароў, адбываецца з іх домам па праспекце Незалежнасці, 109.**

Суд Маскоўскага раёна Мінска не задаволіў іск жыхароў дома па праспекце Незалежнасці, 109 па адмене рашэння аб мансардным будаўніцтве. Аднак людзі не збіраюцца спыняцца і маюць намер змагацца далей.

Гарадскія ўлады паставілі ўльтыматум. Капітальны рамонт — толькі з умовай будаўніцтва яшчэ трох паверхаў. Прытым, што сам дом — трохпавярховы. Пабудаваны ў 1952 годзе, ён дагэтуль не зазнаў ніводнага капітальнага рамонту. Цяпер жа на стары будынак збіраюцца надбудаваць фактычна такі ж самы дом. Жыхары — у шоку.

«У мяне ў кватэры па столі пайшлі расколіны. І ў любы момант пры ўздрыгу ці пры правядзенні прац на даху не выключана, што ўсё можа абрынуцца», — распавяла пенсіянерка Таццяна Смірнова.

Забудоўшчык ТАА «Тэра Інжынірынг» не збіраецца адсяляць людзей. Адзінае, на што ён гатовы пайсці, — пры зносе даху перасяліць толькі на 20 дзён і толькі жыхароў верхніх паверхаў. Пры ўзвядзенні надбудоваў людзям, сярод якіх шмат пенсіянераў, давялося б жыць у пекле.

«На будаўніцтве рабочыя ж ходзяць у касках, у рэспіратарах, шумапаглынаючых слухаўках! А нам што? Сядзець пры грукаце і пыле ў кватэрах і чакаць, калі штосьці рухне?» — абураецца Таццяна Смірнова.

І прыклады такіх абвалаў ужо ёсць. Пры правядзенні падобных прац, якія запланаваны на Незалежнасці, 109, адбыліся разбурэнні ў доме № 25 па вуліцы К. Маркса. Аднак там людзей адсялілі з кватэраў.

Да таго ж дом на праспекце зазнае вібрацыю метро, фундамент абсыпаецца. Міжпавярховыя перакрыцці будынка — драўляныя!

Забудоўшчык «Тэра Інжынірынг» запэўнівае, што ўзвядзенне новых паверхаў з мансардамі не нясе бяспекі. Фундамент узмацняць, паверхі ўмацуюць, для «пагашэння» вібрацыі метро ўсталююць адмысловыя палі.

«Рэйдарскі захоп», — вось што, на думку жыхароў, адбываецца з іх домам. Пры наяўнасці гатовых камунікацый інвестар атрымае ад продажу новых кватэр звышпрыбытак. А калі ў выніку надбудовы дом пацерпіць, і яго прызнаюць аварыйным, вызваліцца дарагі кавалак зямлі ў цэнтры горада.

Рашэнне аб будаўніцтве прымала адміністрацыя Першамайскага раёна і Мінскі гарвыканкам. Суд Маскоўскага раёна разглядаў іск жыхароў на працягу некалькіх месяцаў. Людзі абураныя паводзінамі прадстаўнікоў улады на працэсе.

«Прадстаўніцы Першамайскай адміністрацыі абмяркоўваюць упакоўкі калготак, — распавяла Наталля Ермаловіч. — Прадстаўніца Мінгарвыканкама пад папкай «Дакументы аддзела юстыцыі Мінгарвыканкама» перыядычна лістае кніжку і фотаальбом аб Арнольдзе Шварцэнегеры. А Царык Алена Іванаўна, прадстаўнік ЖРЭА Першамайскага раёна, калі мы выступалі ў спрэчках, у наш адрас трымала дулю».

Жыхары збіраюцца падаць у гарадскі суд касацыйную скаргу на рашэнне раённага суда. «Мы маем намер ісці да Вярхоўнага суда. Калі спатрэбіцца — і далей», — заявіла Наталля Ермаловіч.

# Пад Маладзечнам пачалі будаваць свінакомплекс

**Яшчэ ў снежні 2014-га мясцовая кампанія «Вялес-Міт» задумала пабудаваць ажно два гіганцкія свінакомплексы на сто тысяч галоў кожны.**



Жыхары горада і раёна абурыліся, запатрабавалі праекты, прыйшлі на слуханні ў райвыканкам — у выніку запланаванае на студзень 2015 года будаўніцтва так і не пачалося (па чутках, у «пахучую» справу ўмешваўся сам «губернатар» Шапіра). Але на пачатку чэрвеня кіраўнік краіны дазваляе будаваць свінакомплексы сваім указам. Жыхары вёскі Лохаўшчына даслалі «Еўрарадыё» фота з месца будаўніцтва аднаго з комплексаў.

«Там такая цнатлівая беларуская тэрыторыя, узгоркі. І яны зрэзалі кавалак пагорка, сем метраў грунту знялі. Зрабілі пад'язныя дарогі да пляцоўкі. Там цяжкая тэхніка стаіць. Учора нядзеля была, таму працы не вяліся, мы не бачылі. Толькі вартаўнік быў», — расказвае Уладзіслаў з вёскі Лохаўшчына.

Лохаўшчына (як і яшчэ некалькі вёсак, размешчаных на адлегласці 1–2 кіламетры да будучага свінакомплекса) знаходзіцца не ў Маладзечанскім, а ў Валожынскім раёне. Уладзіслаў расказвае, што некалькі вёсак нават уваходзяць у афіцыйную ахоўную зону свінакомплекса. Але з іх жыхарамі пра будаўніцтва ніхто не размаўляў: «Ніякага абмеркавання з жыхарамі Валожынскага раёна не было. Мы пісалі ў райвыканкам, прасілі пра гэта. Аднак нам адказалі, што пытанне будаўніцтва ўжо абмяркоўвалася ў Маладзечанскім раёне. А ў Валожынскім могуць абмеркаваць, калі замоўца будаўніцтва сам да іх звернецца».

Па словах ахоўніка пляцоўкі, будаўнікі там з'явяцца бліжэйшым часам — трэба падрыхтаваць часовае жыллё для рабочых. Яны, чамусьці, павінны прыехаць з Расіі.

«Я хацеў бы, каб гэтая нарада прайшла дыпламатычна. Кароткія пытанні. Каб не было нейкіх дэбатаў і з месца выказванняў. Я папрасіў бы прадстаўніцца, калі ў некага ёсць пытанні. І тады ён атрымае дакладны і зразумелы адказ», — намеснік кіраўніка Маладзечанскага райвыканкама па пытаннях эканомікі Генадзь Актанаровіч крыху збянтэжана аглядае запоўненую амаль цалкам вялікую залу пасяджэнняў.

Год таму пасля грамадскіх слуханняў у Маладзечна было вырашана дапрацаваць дакументы, датычныя ўздзеяння будучых свінакомплексаў на навакольнае асяроддзе. І паказаць іх грамадскай камісіі, куды сярод іншых увайшлі эколагі з арганізацыі «Зялёная сетка». Яе юрыст Марына Дубіна кажа, што справаздачу ў грамадскай камісіі не бачылі дагэтуль.

«Нам сказалі, што дакументацыя пакуль недапрацаваная. А калі будзе апрацаваная, то яны нам павінны яе падаць для правядзення грамадскай экалагічнай экспертызы. Бо мы яе заявілі. Па законе яны павінны нам перадаць гэтыя дакументы да таго, як пашлюць іх на дзяржаўную экспертызу. Але дагэтуль, а ўжо паўгода прайшло, дакументы справаздачы аб уздзеянні на навакольнае асяроддзе нам ніхто не паказаў. Калі яны ўжо на дзяржаўнай экспертызе, то гэта незаконна», — расказвае Марына Дубіна.

Цяпер, калі будаўніцтва фактычна пачалося, прадстаўнікі грамадскай камісіі будуць звяртацца па неабходныя дакументы ў пісьмовай форме. Паводле раней агучанага плану, будаўніцтва павінна скончыцца да 2018 года.

**Паводле euroradio.fm**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Худы-худы год

Сяргей САЛАЎЁЎ



**У публіцыста, аналітыка, аглядальніка «Радыё Свабода» Юрыя Дракахруста ёсць кніжка пад назвай «Сем худых гадоў». І падаецца мне, што 2015-ы будзе калі не восьмым, дык ці не самым худым у гэтым шэрагу.**

Яшчэ напрыканцы мінулага, 2014-га года, НЧ праводзіў «круглыя сталы» з аналітыкамі і палітыкамі наконт будучыні — прэзідэнцкай кампаніі гэтага года. Тады палітыкі білі сябе ў грудзі, ірвалі на сабе кашулі і казалі, што «калі мы не дамовімся, мы страцім краіну».

Што ж, не дамовіліся. Абяцанага нам шмат разоў зацверджанага адзінага кандыдата ад апазіцыі на выбарах не атрымалася. Беларускія дэмакраты пайшлі на выбары ў некалькі калонаў.

У выніку, ніхто, апроч Тацяны Караткевіч, не сабраў неабходных сто тысячаў подпісаў для рэгістрацыі кандыдатам у прэзідэнты. Здавалася б, калі атрымалася такая сітуацыя, і Караткевіч стала адзіным дэмакратычным кандыдатам дэ-факта, усе астатнія павінны былі калі не аб'яднацца, то згуртавацца вакол яе. Інакш, «калі мы не дамовімся, мы страцім краіну».

Але ні аб'яднацца, ні згуртавацца не атрымалася. То Партыя БНФ кінула Караткевіч на паўдарозе, то астатнія прэтэндэнты пачалі казаць, што «Караткевіч — праект улады», і калі яна не здымецца, яна гэта пацвердзіць... Цікава, каб яны сабралі неабходныя подпісы для рэгістрацыі, яны б таксама былі «праектам улады»? І таксама б адразу пасля рэгістрацыі зняліся? То стваралася незразумелая камісія па «праверцы подпісаў», праца якой скончылася нічым.

Паспрабавала ў гэты раздрай усунуць свае пяць капеек і ўлада, нечакана вызваліўшы такую моцную фігуру, як Мікалай Статкевіч. Але сам Статкевіч, да свайго гонару, не даў сябе скарыстаць у гэтай гульні, і заняўся зусім іншымі рэчамі: адрадженнем вулічнай актыўнасці, не ўлазячы і ў без яго «ўдалы» апазіцыйны раздрай.

У выніку надзея на нейкія змены ў краіне раставала, як лёд вясною. Праўда, і надзеі не было, а так — спадзяванне на цуд. Цуду, зразумела, не адбылося.

Паколькі апазіцыя падчас передвыбарчай і выбарчай кампаніі нарабіла столькі памылак, колькі хапіла б на некалькі гадоў, яна пачала рабіць спробы ліхаманкава іх выправіць. А ліхаманкавасць заўсёды вядзе да новых памылак. І ўжо пасля выбараў тыя, хто казаў пра «дэлегітымізацыю Лукашэнкі», раптам звярнуліся да Еўропы з просьбай пасадзіць іх за круглы стол з той жа ўладай. Вызнаючы тым самым, як ні дзіўна, яе легітымнасць.

Карацей, гэты год стаў поўным правалам беларускай апазіцыі ў тым выглядзе, якім яна існуе зараз. Тым не менш, яна такая, якая ёсць, і іншай у нас няма. Адначасна пакуль не бачна і спробаў перафарматавання гэтай апазіцыі, і спробаў стварыць нейкі стратэгічны план дзеяннаў на якісьці працяглы час. Напрыканцы года ўзнікла праваэнтрысцкая кааліцыя, але яна па-ранейшаму толькі адказвае на выклікі, якія падкідвае ёй улада: ці то стварэнне расійскай авіябазы ў краіне, ці то наступная, парламенцкая кампанія.

Між тым, па плыні плыве не толькі апазіцыя, але і ўлада. У яе таксама няма адказу на выклікі, якія стварае час. Варта зазначыць толькі тое, што ў гэтым выбарчым годзе не было праведзена Усебеларускага нацыянальнага сходу, які б зацвердзіў передвыбарчую праграму Аляксандра Рыгоравіча.

Дый сам кіраўнік дзяржавы ў ёй не абяцаў амаль нічога, што можна было б назваць прарывам. Збядненне насельніцтва тлумачылася сусветным крызісам, нягледзячы на тое, што ніякага сусветнага крызісу, насамрэч, няма. ВУП Еўрасаюза ў 2014 годзе вырас на 1,3%, а ў 2015-м, па папярэдніх дадзеных, дасягне 1,9%. Нават «самыя крызісныя» Кіпр і Іспанія назалі ў гэтым годзе рост эканомік на 2,2% і 3,4% адпаведна. «Мінусам» застаецца, канешне, Грэцыя, у якой ВУП знізіўся на 0,4%.

Але параўнайце Грэцыю і Беларусь: у нас ВУП за 8 месяцаў знізіўся на 3,5%!

Нам столькі разоў казалі пра мадэрнізацыю прадпрыемстваў, новыя тэхналогіі і гэтак далей. Аднак усе гэтыя «мадэрнізуемыя» прадпрыемствы ў гэтым годзе адпраўлялі працоўных у вымушаныя адпачынкі, плацілі ім дзве трэціны заробку, пераходзілі на няпоўны працоўны тыдзень. Усё таму, што нашым асноўным гандлёвым партнёрам была і застаецца Расія. А ў яе нафтадолары скончыліся яшчэ ў 2014 годзе. Тады нафта патаннела з $100 да $60, а ў гэтым годзе — з $60 да $37. Адпаведна, на беларускую прадукцыю грошай не хапае.

Беларуская мадэрнізацыя не дала плёну па адной простай прычыне. Мы (дакладней, нашае кіраўніцтва) па інерцыі жывем у краіне дэфіцытаў. І думаем, што варта наладзіць тут якое-небудзь «мадэрнізаванае» прадпрыемства, і яго прадукцыю будзе раскупляцца, як гарачыя піражкі, па тых коштах, якія мы ўсталюем. А гэта цалкам нясслушная практыка.

Спачатку трэба было вывучыць рынак і знайсці кліентаў, якія б пагадзіліся набываць нашу прадукцыю. І высветліць, па якім коште яны згодныя яе набываць. А ўжо потым, зыходзячы з гэтага, праводзіць мадэрнізацыю, каб нашая прадукцыя гарантавана мела б рынак збыту.

А зараз мы ліхаманкава спрабуем знайсці рынкі збыту на прадукцыю. Якую ніхто не хоча набываць.

А калі мы не можам прадаць сваю прадукцыю, то нам застаецца толькі пазычаць грошы. У Расіі, як было сказана раней, для нас грошы скончыліся. На іх велізарным цяжарам ляжаць Крым, Усход Украіны, і зараз — Сірыя, затраты на вайну ў якой для Расіі, па некаторых падліках, ужо супастаўляльныя з сумай беларускага крэдыту — $2–3 мільярды. Нават сам Аляксандр Рыгоравіч, які на тыдні злётаў у Маскву, грошай адтуль не прывёз.

Што нас чакае ў наступным годзе? Ён будзе вельмі цікавым з нагоды эксперыменту ўладаў наконт грашовай рэформы і ўводзінаў у абарачэнне манетаў, — у той час, калі ніякай стабільнасці і перспектываў развіцця папросту няма. У наступным годзе нам трэба выплаціць $3,3 мільярда крэдытаў, калі золатавалютныя рэзервы зараз у нас складаюць толькі $4,6 мільярда. У наступным годзе трэба будзе патрацiцца і на парламенцкія выбары.

Карацей, наступны год таксама будзе годам эксперыментаў і выпрабаванняў. Асабліва цікавы будзе эксперымент з грашыма. Прынамсі, 2016-ы будзе шчаслівы для адной катэгорыі людзей па ўсім свеце. Нумізматы ўзрадуюцца.

ФІГУРЫ ГОДА

## Святлана Алексіевіч



**Беларуская пісьменніца ўпершыню атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры. Тое, пра што дзесяцігоддзе казаў кіраўнік дзяржавы, абяцаючы падтрымку праўдным пісьменнікам («Дайце мне «Вайну і мір», тады разлічвайце на падтрымку»), адбылося. Праўда, гэтая «Вайна і мір» уладзе не спадабалася.**

Улада вырашыла ігнараваць Алексіевіч, нават не паказаўшы цырымонію ўганаравання па нацыянальным (ці нацыянальнае яно пасля гэтага?) тэлебачанні. А міністр культуры Барыс Святлоў зазначыў, што ягонае ведамства павіншавала Алексіевіч тэлеграмай. І, на ягоную думку, гэтага дастаткова.

Але галоўнае, што сапраўднае значэнне гэтай падзеі імгненна ацанілі чытачы. Кнігі Алексіевіч зніклі з паліцаў крамаў. Выдавецтву, якому належаць правы на яе творы, давялося тэрмінова друкаваць новыя наклады. Чым, дарэчы, беларусы прадэманстравалі, што з'яўляюцца яшчэ і нацыяй чытачоў.

І самай удзячнай нацыяй. У аэрапорце, пасля вяртання са Стакгольма, Святлану Алексіевіч сустрэлі караваем, кветкамі, воклічамі «Дзякуй!» і «Віншуем!». Людзей было столькі, што супрацоўнікі ДАІ вымушаны былі пасоўваць іх з праезджай часткі. А сама лаўрэатка прызналася, што вельмі расчуленая, бо не чакала такой сустрэчы.

## Андрэй Кабякоў



**Беларускі прэм'ер-міністр адназначна становіцца «фігурай года» з боку ўлады. Кабякоў быў прызначаны кіраўніком урада 27 снежня 2014 года, і ўвесь год «руліў» эканомікай краіны.**

Асноўнае дасягненне за ягонае прэм'ерства — гэта, безумоўна, «падатак на дармаедства», які быў уведзены ў гэтым годзе. Улада дагэтуль не разабралася, як яго збіраць, і таму карэктуе адпаведны ўказ. Пры ім жа запрацаваў «падатак на заручальныя пярсцёнкі» — зараз трэба падлічваць, колькі і чаго вам падарылі на вяселле (у тым ліку і пярсцёнкі) і плаціць з гэтага падатак. Пры ім жа з'явіўся «падатак на пазыкі» — калі вы пазычылі нейкую буйную суму ў сваякоў альбо знаёмых, вы таксама мусіце сплаціць з яе падатак.

Пры Кабякове ж прайшла хуткая дэвальвацыя нацыянальнай валюты ў жніўні гэтага года. Нягледзячы на тое, што папярэдняя такая падзея адбылася ўсяго паўгады таму.

За ўсе гэтыя выбрыкі ўрад у нармальнай краіне даўно б сышоў у адстаўку. У нашай краіне ён і сышоў — традыцыйна пасля прэзідэнцкіх выбараў. Але кіраўнік краіны падпісаў загад пра тое, што стары ўрад працуе да прызначэння новага. А новы не прызначаны дагэтуль, ужо два месяцы.

Ці не шчаслівец Кабякоў?

## Тацццяна Караткевіч



**Ужо экс-кандыдатка ў прэзідэнты Беларусі паспрабавала даказаць, што «кухарка можа кіраваць дзяржавай».**

Канешне, Караткевіч — не кухарка. Але яна сталася першай жанчынай — кандыдаткай на вышэйшую дзяржаўную пасаду ў Беларусі. На жаль, яна не здолела стаць першай жанчынай — прэзідэнтам нашай краіны, але можна спадзявацца, што гэта яшчэ наперадзе.

Кандыдатка на прэзідэнцкую пасаду даказала, што жанчыны могуць дамагацца поспеху ў такой традыцыйна мужчынскай для Беларусі галіне, як палітыка. І зусім не таму, што для жанчынаў у парламенце выдзеленая квота ў 30%, а дзякуючы асабістым якасцям.

Што тычыцца выніку прэзідэнцкіх выбараў, то цяжка разлічваць на тое, што, каб замест яе дэмакратычным кандыдатам быў бы мужчына, то вынік быў бы іншы. Але за што мы павінны быць удзячныя Караткевіч — за тое, што менавіта яе асоба дадала квяцістасці і разнастайнасці гэтай выбарчай кампаніі. Каб не было на выбарах жанчыны, яны былі б зусім шэрымі і нецікавымі.

а | Азбука паліталогіі

# Беларускі кентаўр



Сяргей НІКАЛЮК

**Змена цывілізацыйнай ідэнтычнасці — гэта самае цяжкае выпрабаванне, якое толькі можа выпасці на долю культуры і яе носьбітаў.**

У папярэдняй «азбуцы паліталогіі» (глядзі «З «трэцяга» свету ў «першы» і назад») я паспрабаваў паказаць, што вайна за прыродныя рэсурсы сёння ідзе выключна ў галовах носьбітаў экстэнсіўнай культуры. На жаль, яе прадстаўнікі складаюць у Беларусі большасць. Але гэта яшчэ паўбяды. Яны дамінуюць сярод той часткі грамадства, якая прымае рашэнні. А гэта ўжо Бяда — Бяда з вялікай літары.

Класік цывілізацыйнага аналізу гісторык Арнольд Тойнбі звязваў сацыяльны прагрэс з наяўнасцю творчай меншасці. Кіруе заўсёды меншасць, але далёка не заўсёды яна з'яўляецца творчай. Цытую класіка: «Цвёрдасць пазіцыі, якую не ў сілах змяніць нават ход бітвы, што прайграецца, — характэрная прыкмета кіруючай меншасці ў грамадстве, якое распадаецца. Кантраст з рухомасцю і шматграннасцю творчых меншасцяў у грамадствах, што развіваюцца, ашаламляльны».

Кіруючая меншасць у Беларусі не толькі не здольная карэктаваць сваю пазіцыю ва ўмовах сістэмнага крызісу, але не можа ўсвядоміць сам факт прайгранай бітвы. Перачытайце выступ адзінага палітыка (АП) на цырымоніі прынясення прысягі: «Мяне перапаўняе пачуццё гонару за наша згуртаванае грамадства...»; «...Мы ішлі сваім шляхам, і гэты шлях паказаў правільнасць нашых дзеянняў»; «Чалавеку адкрытыя ўсе шляхі: спрыяльныя ўмовы для працы, адукацыі, раскрыцця талентаў, выхавання сапраўдных майстроў сваёй справы...» і інш.

Рух па правільным шляху да 2015 года павінен быў увасобіцца ў 1000 долараў сярэдняга заробку. Заўважце, гэта не я прапанаваў такі прыземлены крытэр для ацэнкі правільнасці шляху. Па факце ў верасні не атрымалася і 400 долараў, але на цвёрдасць пазіцыі АП гэта ніяк не паўплывала.

### З апорай на Хантынгтана

Тут варта прыгадаць доктара філасофскіх навук, прафесара Чэслава Кірвеле і яго артыкул «Усходнеславянскі свет: куды ісці?» (часопіс «Беларуская думка», № 8, 2015).

Зыходны пасыл філосафа — беларускі народ належыць да ўсходнеславянскай праваслаўна-хрысціянскай цывілізацыі. Думаю, далёка не ўсе чытачы НЧ з гэтым пагодзяцца. Але я пагаджуся. Мне запярэчаць і спашлюцца на Вялікае Княства Літоўскае. Безумоўна, ВКЛ было часткай заходне-хрысціянскай цывілізацыі. Але тут ключавое слова — «было».

Зыходзячы з цывілізацыйнага сваяцтва, філосаф прыходзіць да лагічнай высновы аб псеўданацыяналістычнай прыродзе нацыяналістаў-заходнікаў. Яны здрадзілі культурна-цывілізацыйнай ідэнтычнасці свайго народа. І таму грамадска-палітычная дзейнасць такіх людзей аб'ектыўна накіравана «на разбурэнне глыбінных асноў сацыяльнага быцця ўсходнеславянскага суперэтнасу».

Па сутнасці справы, такія дзеячы імкнуцца «здаць» сваю цывілізацыю іншай, увайсці ў «чужую хату», што, апроч усяго іншага, папросту непрыстойна ў чалавечым, маральным сэнсе.

Правамернасць пераносу маральных ацэнак са свету ўласна чалавека на свет культурных сістэм — тэма асобнай гаворкі. Але ідзем далей. Філосаф для надання вагі сваім аргументам заклікае на дапамогу аўтара «Сутыкнення цывілізацый» амерыканскага паліталога Самюэля Хантынгтана. Тут важныя дзве цытаты. Адна добра вядомая: «Еўропа заканчваецца там, дзе заканчваецца заходняе хрысціянства і пачынаюцца іслам і праваслаўе». Вышэй я ўжо адзначаў, што згодны з прыналежнасцю Беларусі да ўсходнеславянскай праваслаўна-хрысціянскай цывілізацыі (да расійскай цывілізацыі, калі хочаце).

Другой цытатай філосаф надае сваёй тэарэтычнай канструкцыі завершаны выгляд: «Палітычных лідараў, якія няўмела лічаць, што могуць кардынальна перакроіць культуру сваіх краін, непазбежна чакае правал. ...Палітычныя лідары могуць ствараць гісторыю, але не могуць пазбегнуць гісторыі. Яны спараджаюць разарваныя краіны, але не змогуць стварыць заходнія краіны. Яны могуць заразіць краіну шызафрэніяй культуры, якая надоўга застанецца яе вызначальнай характарыстыкай».

Украіна, на думку філосафа, — прыклад рэалізацыі прароцтва Хантынгтана ў чыстым выглядзе.

### Вынік перабудовы: від з акна

Калі б у мяне было не дзве, а тры рукі, а выпадак даў бы мне магчымасць прагаласаваць у падтрымку прыведзеных цытат, то ўсе тры рукі ў працэсе галасавання я б і задзейнічаў.

Беларусь не з'яўляецца часткай заходняй цывілізацыі, таму шлях у Еўропу запатрабуе ад яе змены цывілізацыйнай ідэнтычнасці. Гэта самае цяжкае выпрабаванне, якое толькі можа выпасці на долю культуры і яе носьбітаў. З Хантынгтанам тут не паспрачаешся. Прайсці гэты шлях без разбурэння «глыбінных асноў сацыяльнага быцця ўсходнеславянскага суперэтнасу» немагчыма, і ў гэтым сэнсе беларускія нацыяналісты-заходнікі з'яўляюцца псеўданацыяналістамі. Яны адштурхваюцца ад глебы, каб змяніць гэту глебу. Пры гэтым большасць з іх упэўненая, што вяртаецца да цывілізацыйных вытокаў. Адсюль Адраджэнне.




Але ўвайсці ў будучыню праз мінулае яшчэ ні ў кага не атрымлівалася. Пантэон герояў і абмежаваны набор сімвалаў — гэта ўсё, што можа рэальна спатрэбіцца сёння для будаўніцтва ідэалагічнага складніку будучыні.

Але якая альтэрнатыва ў самага цяжкога выпрабавання? Калі адказаць адным словам — ДЭГРАДАЦЫЯ.

Вернемся да Тойнбі. 12-томная праца гісторыка прысвечана вывучэнню жыццёвых цыклаў лакальных цывілізацый, г. зн. агульным заканамернасцям іх зараджэння, развіцця і смерці. Апошні этап такі ж непазбежны, як першы і другі.

А на якім этапе сёння знаходзіцца ўсходнеславянская праваслаўна-хрысціянская цывілізацыя? Я мяркую, што на заключным. А мой высокі апанент? Прамога адказу ў сваім артыкуле філосаф не дае, што не перашкодзіла яму нашпігаваць тэкст прыкладамі, што дапускаюць неадназначную трактоўку.

«Заходніцтва, прыўнесенае палякамі ў асобе Ілжэдзмітрыя (Смутны час), забрала жыцці амаль траціны насельніцтва Расіі, перш чым рускі народ змог яго канчаткова адкінуць». У лічбах я не вельмі дасведчаны, але што ў прыведзеным прыкладзе з'яўляецца прычынай, а што — следствам? Дапытлівым прыводжу цытату з лекцыі XLIII гісторыка Васіля Ключэўскага: «Гэта быў цяжкі, поўны тупога недаўмення настрой грамадства, што створаны быў відавочнымі бязладдзямі апрычніны і цёмнымі гадуноўскімі інтрыгамі». Прычым тут палякі?

Але ідзем далей. «Пятроўская рэформа не ператварыла Расію ў Галандыю, але паменшыла падатнае насельніцтва краіны на 20%». Наконт лічбаў спрачацца не буду. Але Пётр праводзіў рэформы не дзеля павышэння жыццёвага ўзроўню падатнага насельніцтва, а для ўмацавання самадзяржаўнай улады. Такі тып улады і ёсць апорным элементам усходнеславянскай праваслаўна-хрысціянскай цывілізацыі. Перабудаваўшы войска на заходні манер, Пётр падоўжыў жыццё дынастыі Раманавых на два стагоддзі.

«Апошняя (перабудовачная) рэформа расійскага грамадства па заходніх узорах забірала, да нядаўняга часу, амаль па мільёну жыццяў грамадзян краіны ў год». Ад такога пераканаўчага прыкладу двума сказамі не адкараскацца. Можна, зразумела, прыгадаць чэргі за каўбасой, можна парэкамендаваць паглядзець у акно і палічыць колькасць аўтамабіляў у двары. Цікава, які сярод іх працэнт аўтамабіляў айчыннай зборкі?

### У гэтай логікі няма будучыні

Мой апанент мае рацыю, калі абвінавачвае нацыяналістаў-заходнікаў у разбурэнні глыбінных асноў сацыяльнага быцця ўласнага народа. Але ў аснове гэтага быцця, як ужо было адзначана вышэй, ляжыць самадзяржаўе, што ў перакладзе на агульнадаступную мову азначае звышцэнтралізацыю ўлады. ВКЛ такой звышцэнтралізацыі ўлады не ведала. А як наконт Рэспублікі Беларусь?

Канстытуцыя 1994 года, паводле ўласнага прызнання АП, давала яму «царскія паўнамоцтвы». Але вельмі хутка высветлілася яе дэфектнасць у выглядзе незалежнага Канстытуцыйнага суда, незалежнай Цэнтральнай выбарчай камісіі і г.д. Паўнамоцтвы апынуліся з заходнім прысмакам, несапраўднымі. Давялося праводзіць палітычную надбудову ў адпаведнасць з цывілізацыйным базісам, што і было зроблена з дапамогай трох канстытуцыйных рэферэндумаў.

Гістарычна звышцэнтралізацыя нарадзілася не праз чыйсьці капрыз. Палітолаг Уладзімір Пастухоў разглядае самадзяржаўе ў якасці эвалюцыйнага адказу Рускай імперыі на гістарычныя выклікі. Гэтыя выклікі, у першую чаргу, былі сфармаваныя велізарнай тэрыторыяй з нізкай шчыльнасцю насельніцтва. Рынкавы абмен у такіх умовах не змог канкураваць з цэнтралізаваным размеркаваннем рэсурсаў.

Працэс звышцэнтралізацыі, як сказаў бы АП, «ішоў ад жыцця», і на працягу стагоддзяў ён сябе апраўдваў. Але наступова пачаў выяўляцца яго галоўны дэфект — няздольнасць да развіцця. Пакуль Еўропа гібела ў сярэднявеччы, самадзяржаўнаму прынцыпу арганізацыі ўлады на прасторах Еўразіі нічога не пагражала. Але эпоха Адраджэння дала старт гістарычнай дынаміцы. І пайшло-паехала: Рэфармацыя, Асветніцтва, буржуазная і прамысловая рэвалюцыя.

Не дзеля прыроднай цікаўнасці высякае Пётр акно Еўропу. Няздольнасць імперыі да развіцця ён быў вымушаны кампенсаваць запазычаннямі, што спараджала «лёсавызначальнае пытанне: ці можа хто-небудзь пазычаць чужую цывілізацыю часткова, не рызыкуючы быць паглынутым ёй цалкам» (А. Тойнбі).

Гэтае пытанне сёння спрабуе вырашыць і АП. Ён гатовы завозіць заходнія станкі, але рашуча выступае супраць «рэлігійнага фанатызму», з якім «нам спрабуюць звонку навязаць нібыта ўніверсальныя мадэлі развіцця».

У выніку атрымаўся гібрыд (кентаўр), чыя жыццяздольнасць наўпрост залежыць ад расійскіх датацый. Філосаф гэта разумее. Таму будучыні Беларусі без наданні нетрам Сібіры статусу агульнага рэсурсу ён не ўяўляе.

Па-свойму (у рамках логікі ўсходнеславянскай праваслаўна-хрысціянскай цывілізацыі) ён мае рацыю. Вось толькі ў гэтай логікі няма будучыні нават у сярэднетэрміновай перспектыве. Яе гістарычны час сышоў.

# Новая кааліцыя: пачакаем плёну

Сяргей ПУЛЬША

**Апазіцыйныя палітыкі абвясцілі пра стварэнне новай правацэнтрысцкай кааліцыі. Праўда, пакуль яны не называюць гэта аб'яднанне сапраўднай кааліцыяй, а хутчэй, пляцоўкай для супольных дзеянняў. Але Аб'яднаная грамадзянская партыя, аргкамітэт па стварэнні партыі БХД, Рух «За Свабоду» і, у перспектыве, Партыя БНФ заявілі, што падпісалі пагадненне пра супольныя дзеянні.**


Фота www.novychas.by

## Што рабіць?

Дзеля чаго гэтыя структуры пачалі сумесную працу? Па словах намесніка кіраўніка Руху «За Свабоду» Юрася Губарэвіча, зараз трэба скарыстаць момант своеасаблівай лібералізацыі, каб націснуць на рэжым. Найперш, супольная праца будзе тычыцца міжнародных дзеянняў, якія наўпрост павінны адбіцца і на Беларусі. Засталося толькі два месяцы да лютага, у якім Еўропа будзе разглядаць, ці дала плён частковая «размарозка» санкцыяў супраць беларускіх чыноўнікаў.

За гэты час, па меркаванні Губарэвіча, лідара АГП Анатоля Лябедзькі і сустаршыні аргкамітэта па стварэнні БХД Віталя Рымашэўскага, улады краіны павінны зрабіць тыя рэчы, якіх даўно і беспаспяхова ад іх патрабуе міжнародная і беларуская дэмакратычная супольнасці. А менавіта: змяніць выбарчае заканадаўства і правапрымяняльную практыку ў галіне празрыстага падліку галасоў, рэальна забяспечыць свабоду асацыяцыяў, зарэгістраваўшы ўсе партыі і рухі, не рэгістраваныя дагэтуль, і забяспечыць свабоду СМІ, стварыўшы роўныя ўмовы дзяржаўным і недзяржаўным медыя — у тым ліку, у пытанні рэгістрацыі, акрэдытацыі і распаўсюду.

Яны будуць выходзіць на еўрапейскія пляцоўкі, каб менавіта з гэтых крытэраў ЕС надалей прымаў рашэнне пра зняцце ці вяртанне санкцый.

Што тычыцца ўнутрыбеларускай працы, то супольныя дзеянні прадугледжваюцца ў пытаннях абароны незалежнасці краіны, супрацьдзеянні з'яўленню тут расійскіх вайсковых базаў і такое ж супрацьдзеянне расійскай прапагандзе. У прынцыпе, тое, што зараз з'яўляецца стратэгічным кірункам працы Партыі БНФ. У перспектыве — стварэнне дэмакратычнага спісу кандыдатаў у дэпутаты на парламенцкіх выбарах 2016 года і арганізацыя адзінай сістэмы назірання на выбарах.

## Партыя БНФ не спяшаецца

Прыяднанне да кааліцыі Партыі БНФ было пададзена як факт, які амаль адбыўся. На падставе таго, што прадстаўнік ПБНФ паставіў попіс пад праграмным пагадненнем аб супрацы. Але журналісты заўважылі: Сойм ПБНФ вырашыў устрымацца ад гэтага аб'яднання.

Як паведаміў «Радыё Свабода» лідар Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, «магчыма, калі з'явяцца новыя абставіны, мы вернемся да разгляду пытання ўдзелу ў гэтай кааліцыі». Але пакуль ПБНФ, апёкшыся з падтрымкаю Таццяны Караткевіч на прэзідэнцкіх выбарах–2015, не спяшаецца яднацца з кімсьці. «На сённяшні момант у партыі ёсць досыць цвёрдае перакананне, што дзеля таго, каб было больш карысці ад нашай працы, важна, каб нашае пасланне было данесенае да людзей менавіта ў тым выглядзе, якім мы яго бачым. А ўзгадняць і нешта дадаваць з боку БХД, АГП і «За Свабоду» ў нашае пасланне — гэта не паспрыяе таму, каб яно стала лепшым і больш прывабным», — лічыць старшыня ПБНФ.

Да таго ж Сойм прыняў рашэнне, што партыя пойдзе на парламенцкую кампанію са сваім спісам кандыдатаў. Што ж тычыцца патрабаванняў наконт выбараў, то «ўмовы, пры якіх выбары можна было б лічыць свабоднымі і справядлівымі, неаднаразованазываліся, і мы не бачым сэнсу прымаць нейкі новы дакумент з гэтай нагоды», зазначыў Янукевіч.

Так што ўдзел ПБНФ у правацэнтрысцкім аб'яднанні застаецца ўсё ж пад пытаннем.

## Куды падзець «Талаку»

Аб'яднаная грамадзянская партыя, як вядома, удзельнічае яшчэ ў адной кааліцыі пад назвай «Талака». «Талака» аб'ядноўвае грамадскія арганізацыі і дзве партыі: уласна АГП і былых камуністаў — партыю левых «Справядлівы свет» на чале з Сяргеем Калякіным. А зараз у дадатак АГП аб'ядналася і з БХД, якая Калякіна на дух не пераносіць, і ўвесь час патрабуе ад сучасных камуністаў пакаяння за сталінскія рэпрэсіі.

Сябра Бюро ЦК партыі «Справядлівы свет» Сяргей Вазняк заўважыў, што «Талака», у прынцыпе, не партыйнае аб'яднанне. Гэтая структура стваралася дзеля арганізацыі назірання за выбарамі, і літаральна 29 лістапада нават адбыўся чарговы ўстаноўчы сход па рэгістрацыі «Талакі» ў Мінюсце. «Так што ўваход АГП у правацэнтрысцкую кааліцыю зусім не азначае смерці альянсу «Талака». Тым больш, што пакуль гэтая кааліцыя — толькі дэкларацыя аб намерах. А як гэта адаб'ецца на існаванні і дзейнасці «Талакі», будзе залежыць ад паводзінаў і дзейнасці Аб'яднанай грамадзянскай партыі і яе сябраў», — адзначыў Вазняк.

Але ў тым і справа, што стваральнікі правацэнтрысцкай кааліцыі ўжо абвясцілі аб супольным назіранні за выбарамі. БХД і Рух «За Свабоду» з'яўляюцца ўдзельнікамі кампаніі назірання «Права выбару», а «Справядлівы свет» і АГП — стваральнікі сеткі партыйнага назірання «За справядлівыя выбары». З кім у гэтым плане застанецца АГП?

## Супраць Караткевіч?

Было заяўлена, што правацэнтрысцкая «не-кааліцыя» заснаваная на каштоўнасных прынцыпах і адназначна супраць крокаў па «ўбудоўванні ва ўладныя структуры», а парламенцкія выбары некаторымі яе суб'ектамі будуць разглядацца не як выбары, а як чарговая «палітычная кампанія». Канешне, у тым выпадку, калі не адбудуцца змены, якіх патрабуюць правацэнтрысты і ЕС.

Зразумела, што гэта чарговая шпілька ў бок кампаніі «Гавары праўду» і экс-кандыдаткі ў прэзідэнты Тацціны Караткевіч, якая правяла шэраг сустрэчаў с сябрамі Палаты прадстаўнікоў. З чаго некаторыя эксперты (палітолаг Юрый Чаўсаў, палітычны аглядальнік Паўлюк Быкоўскі) зрабілі высновы, што «не-кааліцыя», — усяго толькі спроба пасунуць Тацціну на міжнароднай арэне.

Ініцыятары «не-кааліцыі» паабяцалі, што хутка мы пабачым іхнія дзеянні ў краіне.

# Першы год ЕАЭС: правальныя вынікі

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Першы год працы Еўразійскага эканамічнага саюза, створанага як супрацьвага Еўрапейскаму саюзу, атрымаўся па-сапраўднаму правальным.**




## Саюз падзення гандлю

Амаль год таму — 1 студзеня 2015 года — пачала дзейнічаць Дамова аб стварэнні Еўразійскага эканамічнага саюза (ЕАЭС). Галоўнай задачай новага ўтварэння на постсавецкай прасторы было наладжванне ўзаемавыгаднага гандлю паміж краінамі былога Мытнага саюза (Беларусь, Расія, Казахстан), да якіх дадаліся Арменія і Кыргызстан. Аднак вось парадокс: лідары гэтых краін нашмат больш казалі пра ЕАЭС у 2013–2014 гадах, чым пасля пачатку працы Еўразійскага саюза. Верагодна, таму, што ён не апраўдаў чаканняў, якія на яго ўскладаліся.

ЕАЭС павінен быў стаць далейшым развіццём Мытнага саюза. Яго стваральнікі былі ўпэўненыя, што ЕАЭС дазволіць нацыянальным вытворцам выводзіць тавары на новыя рынкі хутчэй, танней і ў большым маштабе. Аднак прайшоў год, і статыстыка, і бягучыя эканамічныя падзеі зрабілі відавочным, што эканамічная сітуацыя ў кожнай асобна ўзятай краіне-ўдзельніцы пагоршылася, а ўзаемны гандаль — скараціўся.

Напрыклад, Камітэт па статыстыцы Міністэрства нацыянальнай эканомікі Казахстана сцвярджае, што са студзеня па верасень 2015 года абарот знешняга гандлю знізіўся на 36,4% у параўнанні з тым жа перыядам 2014-га. Экспарт краіны знізіўся на 42,5%, а імпарт — на 3,8% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года.

Падобную карціну мы назіраем у Беларусі. Па дадзеных Белстата, абарот знешняга гандлю нашай краіны са студзеня па верасень 2015-га склаў $42,7 мільярда. Знешнегандлёвы абарот за той жа перыяд 2014-га — $57,9 мільярда, гэта значыць падзенне склала 26,7%. Адмоўнае сальда гандлёвага балансу — $1,7 мільярда. У студзені-кастрычніку 2015 года экспарт беларускіх тавараў у Расію ў параўнанні з аналагічным перыядам 2014-га паменшыўся на 33,6%, імпарт з РФ у РБ — на 6,5%.

Сюды ж і Арменія: за студзень-верасень 2015 года Арменія экспартавала ў Расію тавараў на суму $158,5 мільёна, у той час як аналагічны паказчык 2014 года — $219,5 мільёна. Падзенне склала 27,8%. Расія за дзевяць месяцаў 2014 года імпартавала з Арменіі тавараў на суму каля $795 мільёнаў, а ў 2015-м — ужо на $712,7 мільёна. Падзенне склала каля 11%. У студзені-верасні 2014-га Арменія экспартавала ў Беларусь тавараў на суму $6,5 мільёна, а сёлета — толькі на $4,1 мільёна (падзенне на 37%).

Але найвялікшае падзенне прадэманстравала Расія. Яе знешнегандлёвы абарот са студзеня па верасень 2015-га склаў $403,7 мільярда — гэта ўсяго 65,7% ад паказчыку за аналагічны перыяд мінулага года (дадзеныя «Банка Расіі»). Сума экспарту склала $260 мільярдаў (68,2% ад паказчыкаў 2014 года); сума імпарту — прыкладна $143,7 мільярда (61,5% ад узроўню 2014 года).

Праблема ў тым, што менавіта Расія — галоўны дзелавы партнёр для ўсіх без выключэння краін Еўразійскага саюза, асноўны спажывец іх экспартнай прадукцыі. Атрымліваецца, што ва ўмовах санкцый і падзення цэнаў на нафту краіны ЕАЭС у выніку падзення расійскай эканомікі засталіся ля пабітага карыта. Таму што, адна справа — будаваць саюз на фоне высокіх цэнаў на нафту (нагадаю, дамова аб ЕАЭС падпісвалася ўвесну 2014 года), і зусім іншая — развіваць саюз, калі галоўны гандлёвы партнёр вядзе гібрыдную вайну, знаходзіцца пад дзеяннем санкцый і на вачах губляе сваю эканоміку з-за фатальнага падзення цэнаў на нафту.

Варта ўспомніць, што ў сярэдзіне гэтага года Расія прапанавала адмовіцца ў рамках ЕАЭС ад гандлёвых разлікаў у доларах і еўра і перайсці на разлікі толькі ў нацыянальных валютах краін-удзельніц. Спачатку справа пайшла, але ва ўмовах падзення гандлю ўнутры ЕАЭС гэтая прапанова ўжо не падаецца практычнай. Гандаль са знешнім светам для ўсіх краін ЕАЭС становіцца больш важным, а ён намінуецца якраз у доларах і еўра.

## Саюз, які не знайшоў сябе

Пакуль усё выглядае так, што Еўразійскі эканамічны саюз апынуўся арганізацыяй з нявызначанай і неэфектыўнай канцэпцыяй. Кіраўнікі краін-удзельніц імкнуцца як мага радзей згадваць ЕАЭС проста таму, што іх эканомікі выглядаюць як ахвяры Еўразійскага саюза. У выніку сёння ніхто не можа дакладна сказаць, ці будзе ЕАЭС існаваць і далей, і калі так — то ў якой якасці: як паўнавартасная бізнес-платформа для паляпшэння эканомікі, або як геапалітычная дэкарацыя.

**Арменія абвясціла, што аднаўляе перамовы з Еўрапейскай камісіяй пра падпісанне дамовы аб вольным гандлі з Еўрасаюзам**

«ЕАЭС за год працы пашырыўся да пяці дзяржаваў. Падпісана дамова аб зоне свабоднага гандлю з В'етнамам, на чарзе Ізраіль, Егіпет, Пакістан, Індыя. ЕАЭС шмат у чым падобны на ЕС і грунтуецца на забеспячэнні «чатырох свабодаў»: свабоды руху тавараў, паслуг, працоўнай сілы і капіталаў, — кажа Зміцер Балкунец, эксперт Вышэйшай школы эканомікі (Масква). — Пакуль Беларусь не з'яўляецца самадастатковай краінай, і без расійскіх энергетычных рэсурсаў яна не здольная да паўнавартаснага развіцця. Удзел краіны ў Еўразійскім эканамічным саюзе — гэта непазбежны варыянт, і ў тых умовах, якія склаліся, не мае альтэрнатыў у кароткатэрміновым і сярэднетэрміновым перыядзе. Са з'яўленнем ЕАЭС абвастрылася канкурэнцыя паміж Захадам і Расіяй за права дамінавання на постсавецкай прасторы. Некаторыя ўдзельнікі саюза, у тым ліку Беларусь, спрабуюць паразітаваць на гэтых супярэчнасцях і здабываюць выгаду. Але пакуль Еўразійскі саюз з'яўляецца ў першую чаргу палітычным праектам. Яму яшчэ трэба шмат што прайсці, каб давесці сваю эканамічную значнасць».

Сведчанне таго, наколькі моцныя сёння супярэчнасці паміж чальцамі ЕАЭС, — цяперашнія праблемы Беларусі з атрыманнем новага крэдыту ад Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцці (ЕФСР) на $2 мільярды. Аб тым, што гэты крэдыт пакуль не дадуць, паведаміў у Маскве 8 снежня расійскі міністр фінансаў Антон Сілуанаў. «Мы жадалі б атрымаць пэўныя вынікі ад рэалізацыі праграмы мер эканамічнага развіцця, якія былі закладзеныя ў план дзеянняў пры атрыманні гэтага крэдыту. Пакуль неабходных рашэнняў па рэалізацыі гэтых планаў мы не ўбачылі, таму адклалі прыняцце рашэння аб аказанні фінансавай дапамогі да таго, як убачым пэўны вынік», — сказаў Сілуанаў журналістам.

## Што далей?

Што зараз застаецца рабіць у рамках ЕАЭС Беларусі, Казахстану, Арменіі ды Кыргызстану, якія працягваюць губляць расійскі рынак і расійскую падтрымку? Пакуль, калі меркаваць па тым, што адбываецца, гэтыя краіны выбіраюць развіццё без Еўразійскага саюза. Вось першы званок крызісу ЕАЭС: Арменія абвясціла, што аднаўляе перамовы з Еўрапейскай камісіяй пра падпісанне дамовы аб вольным гандлі з ЕС. Год таму яна адмовілася ад распрацоўкі такой дамовы дзеля ўдзелу ў ЕАЭС. Зараз — адыгрывае назад. Казахстан робіць стаўку на развіццё супрацоўніцтва з Кітаем і актывізуе гандаль з краінамі Сярэдняй Азіі.

Беларусь актыўна спрабуе наладзіць супрацоўніцтва з Еўропай, за што атрымлівае крытыку ад Расіі. Акрамя таго, Беларусь актыўна карыстаецца ўнутранымі нормамі ЕАЭС, каб зарабіць на канфлікце Расіі з усім светам. Пачалося ўсё з паставак праз нашу краіну ў Расію заходніх прадуктаў, якія трапілі пад санкцыі. На фоне вайны Расіі з Украінай Беларусь прапанавала ўкраінскаму бізнесу выкарыстаць нашу тэрыторыю як новую пляцоўку для выхаду на расійскі рынак. Пачаўся канфлікт Расіі з Турцыяй — і Беларусь ужо выказала гатоўнасць стаць пасярэднікам для турэцкіх прадпрымальнікаў, якія працуюць на расійскім рынку.

Наўрад ці ў 2016 годзе ЕАЭС паспрые росту гандлю Беларусі з Расіяй. Расійскія вытворцы цяпер на ўсю моц выкарыстоўваюць эфект ад дэвальвацыі расійскага рубля і моцны гандлёвы пратэкцыянізм свайго ўраду. І зараз таварам беларускіх канкурэнтаў у Расіі не рады. Так што аднавіць аб'ёмы экспарту ў РФ хоць бы да ўзроўню 2014-га ў наступным годзе не атрымаецца. У лепшым выпадку, можна будзе спыніць падзенне. У горшым (працяг падзення цэнаў на нафту) — нашы традыцыйныя тавары працягнуць губляць расійскі рынак.

Свабодная гандлёвая зона, дзеля якой і ствараўся ЕАЭС, была закліканая забяспечыць рост гандлю паміж партнёрамі, велізарны рынак для краін-удзельніц і падвышэнне эканамічнай актыўнасці, але нічога з гэтага не атрымалася.

# TV

## 21 снежня, панядзелак

### Беларусь 1

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Меладрама «Здрада» (Расія).
**11.00** 90 секунд.
**11.45** Меладрама «Заезджы маладзец» (Расія).
**12.00** Навіны.
**13.00** 90 секунд.
**13.35** Драма «Зводная сястра» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.50** Драма «Зводная сястра» (Расія).
**16.00** 90 секунд.
**17.40** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Арэна.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Прыгодніцкі дэтэктыў «Ваенная разведка. Заходні фронт» (Расія).
**23.10** Навіны.
**23.30** Дзень спорту.
**23.45** Меладрама «Марыць не шкодна» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здарова!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Модны прысуд».
**12.15** «Смак».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.05** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа». Працяг.
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**18.55** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Справа прынцыпу».
**22.15** Фільм «Нашчадкі».
**23.55** Драма «Ператварэнне».
**01.25** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.25** «Вялікі сняданак».
**10.00** «Далёкія сваякі».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Эліксір маладосці».
**14.45** «Такі лёс».
**15.35** Самая карысная праграма.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Вялікі горад».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Самыя шакавальныя гіпотэзы».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Ваенная таямніца».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Тыдзень спорту».
**23.30** «Паляванне».
**01.25** «Дакументальны праект».

### Беларусь 2

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае стайл-шоў (Украіна).
**10.10** Тэлебарометр.
**10.40** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» (Італія).
**11.20** Азбука густу.
**11.50** Разбуральнікі міфаў.
**12.55** Вулічная магія.
**13.55** Панаехалі.
**15.10** Лірычная гісторыя «Папялушка 4х4. Усё пачынаецца з жаданняў».
**17.00** Перазагрузка.
**17.55** Сімвал веры.
**18.15** Людзі добрыя.
**18.35** АртКод.
**18.55** Кулінарная камедыя «Кухня» (Расія).
**19.55** Камедыйная меладрама «Васьмідзесятыя» (Расія).
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.05** КЕНА.
**22.10** «Арол і рэшка». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**23.10** Рэпарцёр.
**00.00** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**00.50** Меладраматычны серыял «У эфіры» (Паўднёвая Карэя).

### Беларусь 3

**07.15** «Дабраранак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «Размаўляем па-беларуску».
**08.15** «Край». Гістарычная драма (Расія, 2010 г.).
**10.20** Хіт-парад «Сто песень для Беларусі».
**11.10** «Наперад у мінулае».
**11.40** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**12.15** «Святыні Беларусі».
**12.40** «Калейдаскоп».
**12.55** «Марыя, Мірабэла». Музычная казка (Румынія-СССР, 1981 г.).
**14.05** «Раман з лёсам». Спыніся і глядзі. Пра лёс вядомага фотамастака Георгія Тэр-Ванесава.
**14.30** «Таямніцы палацавых пераваротаў». Гістарычная драма. Фільм сёмы «Віват, Ганна!» (Расія, 2008 г.).
**17.35** «Калейдаскоп».
**17.50** «Размаўляем па-беларуску».
**18.00** «Брэсцкая крэпасць». Ваенная драма (Беларусь, 2010 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**21.30** «Галасы часу». Юбілейны вечар заслужанага артыста Беларусі Анатоля Кашапарава.
**23.00** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**23.30** «Калейдаскоп».
**23.45** «Геапалітыка: свет за тыдзень».

### Беларусь 5

**07.05** PRO спорт. Навіны.
**07.15** Авертайм.
**07.40** Баскетбол. Адзіная Ліга ВТБ. Цмокі-Мінск - Хімкі.
**09.20** Хакей. Славакія - Беларусь.
**11.10** Хакей Ароса-чэлендж.
**13.00** Спорт-мікс.
**13.20** Баскетбол. НБА. Кліўленд - Філадэльфія.
**15.10** Біятлон. Этап Кубка свету. Паклюка. Спрынт. Жанчыны.
**16.50** Біятлон. Этап Кубка свету. Паклюка. Спрынт. Мужчыны.
**18.25** Спорт, спорт, спорт. Зоя і Барыс Бальшаковы.
**18.50** PRO спорт. Навіны.
**18.55** Змешаныя адзінаборствы.
**21.30** PRO спорт. Вынікі.
**22.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**22.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Арсенал - Манчэстар Сіці.
**00.55** Еўрапейскі покерны тур.

### Белсат

**07.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.35** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.10** Форум (ток-шоў): Сеціўны натоўп.
**08.55** Два на два (тэледыскусія).
**09.25** Праведнікі, тэлесерыял.
**10.15** Эксперт (сатырычная праграма).
**10.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**11.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**11.55** Невядомая Беларусь: Чарга. Гісторыя пытання ці пытанне гісторыі?, д/ф.
**12.35** Нэлсан Мандэла: жыццё дзеля свабоды, д/ф.
**13.30** Анна Карэніна, драма.
**15.15** Сведкі: «Паходня» гарадзенскіх патрыётаў.
**15.25** Сенсацыі XX стагоддзя, серыял: Бункеры Трэцяга райху: ч. 2, 3.
**16.15** Прыстойны, д/ф.
**17.50** Мова нанова.
**18.10** Беларусы ў Польшчы.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.45** Форум (ток-шоў): Сеціўны натоўп.
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**22.05** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**22.30** Кінаклуб: «Кавярня Любові».
**22.40** Кавярня Любові, м/ф.
**00.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.

## 22 снежня, аўторак

### Беларусь 1

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**11.00** Меладрама «Здрада» (Расія).
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-6» (Украіна).
**13.00** 90 секунд.
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладрама «А шчасце дзесьці побач» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыў «Асобы, якіх ахоўваюць» (Расія).
**16.00** 90 секунд.
**16.30** Серыял «Сямейныя меладрамы-6» (Украіна).
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Прыгодніцкі дэтэктыў «Ваенная разведка. Першы ўдар» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Спецыяльны рэпартаж.
**22.05** Прыгодніцкі дэтэктыў «Ваенная разведка. Заходні фронт» (Расія).
**23.10** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.30** Сфера інтарэсаў.
**23.50** Навіны.
**00.10** Дзень спорту.
**00.35** Дэтэктыў «Асобы, якіх ахоўваюць» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Модны прысуд».
**12.15** «Смак».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.05** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа». Працяг.
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Петля Несцерава». Шматсерыйны фільм.
**23.00** Драма «Давай зробім гэта па-хутказму».
**00.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Любоў да сабак абавязковая».
**10.10** «Далёкія сваякі».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Наша справа».
**14.05** «Краіна 03». Серыял.
**14.55** «Белыя ваўкі». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Цэнтральны рэгіён».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Самыя шакавальныя гіпотэзы».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Тэрыторыя памылак».
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Простыя пытанні».
**23.20** «Аўтапанарама».
**23.40** «Белыя ваўкі». Серыял.
**01.20** Разумней не прыдумаеш.

### Беларусь 2

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.10** Моладзевы трылер «Закрытая школа» (Расія).
**11.15** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.15** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**13.20** Камедыйная меладрама «Васьмідзесятыя» (Расія).
**14.25** Кулінарная камедыя «Кухня» (Расія).
**15.30** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**16.20** Моладзевы трылер «Закрытая школа» (Расія).
**17.55** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**18.55** Кулінарная камедыя «Кухня» (Расія).
**19.55** Камедыйная меладрама «Васьмідзесятыя» (Расія).
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.05** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**22.10** «Арол і рэшка». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**23.15** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**00.05** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**00.55** Меладраматычны серыял «У эфіры» (Паўднёвая Карэя).

### Беларусь 3

**07.15** «Дабраранак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «Патоп». Гістарычная эпапея. 1-я і 2-я серыі (Польшча, 1974 г.).
**12.55** «Музеі Беларусі». Брэсцкі абласны краязнаўчы музей. Музей выратаваных мастацкіх каштоўнасцей.
**13.20** «Калейдаскоп».
**13.35** «Размаўляем па-беларуску».
**13.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава.
**14.10** «Святыні Беларусі».
**14.35** «Галасы часу». Юбілейны вечар заслужанага артыста Беларусі Анатоля Кашапарава.
**16.10** «Турандот». Драма (Грузія, 1989 г.).
**17.45** «Гітара па крузе». Аўтар-выканаўца Аляксандр Сафронаў.
**18.40** «Калейдаскоп».
**18.55** «Размаўляем па-беларуску».
**19.00** «Купальская ноч». Камедыя (СССР, 1983 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра мову».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Песні навагодніх начэй». 30-я гады.
**21.30** «Канец аперацыі Рэзідэнт». Шпіёнскі дэтэктыў (СССР, 1986 г.).
**23.45** «Дыя@блог». «Пра мову».
**00.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава.
**00.40** «Калейдаскоп».

### Беларусь 5

**07.10** PRO спорт. Вынікі.
**07.30** PRO спорт. Навіны.
**07.55** Баскетбол. НБА. Аклахома - Лэйкерз.
**09.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**10.44** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Арсенал – Манчэстар Сіці.
**12.35** Спорт-мікс.
**12.50** Формула Е. Гран-пры Уругвая.
**14.05** Снукер. Адкрыты кубак Беларусі.
**16.05** Біятлон. Гонка пераследу. Мужчыны.
**17.00** Біятлон. Гонка пераследу. Жанчыны.
**17.50** Спорт, спорт, спорт. Зігмунд Мінейка.
**18.20** Спорт-кадр.
**18.50** PRO спорт. Навіны.
**18.55** Хакей. Тарпеда - СКА.
**21.25** Хакей. КХЛ. Слован - Дынама.
**23.40** PRO спорт. Навіны.
**23.50** Еўрапейскі покерны тур.

### Белсат

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.15** Форум (ток-шоў): Сеціўны натоўп.
**07.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.05** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**10.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**10.55** Кінаклуб: «Кавярня Любові».
**11.05** Кавярня Любові, м/ф.
**13.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**13.20** Форум (ток-шоў): Сеціўны натоўп.
**14.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**16.15** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**16.40** Я люблю дэмакратыю. Расія, д/ф.
**17.35** Эксперт (сатырычная праграма).
**18.00** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**18.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.00** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Два на два (тэледыскусія).
**22.10** Сваё месца, рэпартаж.
**22.30** Блакада Ленінграда, д/ф.
**23.25** Нэлсан Мандэла: жыццё дзеля свабоды, д/ф.
**00.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.

# TV

## 23 СНЕЖНЯ, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**11.00** Меладрама «Здрада» (Расія).
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-6».
**13.00** 90 секунд.
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладрама «А шчасце дзесьці побач» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыў «Асобы, якіх ахоўваюць» (Расія).
**16.00** 90 секунд.
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-6».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Прыгодніцкі дэтэктыў «Ваенная разведка. Заходні фронт» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.05** Прыгодніцкі дэтэктыў «Ваенная разведка. Заходні фронт» (Расія).
**23.10** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.30** Сфера інтарэсаў.
**23.50** Навіны.
**00.10** Дзень спорту.
**00.25** Дэтэктыў «Асобы, якіх ахоўваюць» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Модны прысуд».
**12.15** «Смак».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.05** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа». Працяг.
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Часова недаступны». Шматсерыйны фільм.
**23.00** Фільм «Мой зводны брат Франкенштэйн».
**01.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Жанчына для ўсіх».
**10.05** «Далёкія сваякі».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Эліксір маладосці.
**14.45** «Белыя ваўкі». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Мінск і мінчане».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Самыя шакавальныя гіпотэзы».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Белая ноч, пяшчотная ноч».
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Простыя пытанні».
**23.20** «Белыя ваўкі». Серыял.
**01.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.10** Моладзевы трылер «Закрытая школа» (Расія).
**11.15** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.10** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**13.15** Камедыйная меладрама «Васьмідзесятыя» (Расія).
**14.20** Кулінарная камедыя «Кухня» (Расія).
**15.30** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**16.20** Моладзевы трылер «Закрытая школа» (Расія).
**17.55** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**18.55** Кулінарная камедыя «Кухня» (Расія).
**19.55** Камедыйная меладрама «Васьмідзесятыя» (Расія).
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.05** Спортлата 5 з 36, КЕНА.
**22.15** «Арол і рэшка». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**23.15** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**00.05** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**00.50** Меладраматычны серыял «У эфіры» (Паўднёвая Карэя).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «Канец аперацыі Рэзідэнт». Шпіёнскі дэтэктыў (СССР, 1986 г.).
**10.30** «Беларускае вяселле». Музычны фільм з удзелам Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г.І. Цітовіча.
**10.55** «Купальская ноч». Камедыя (СССР, 1983 г.).
**12.10** «Калейдаскоп».
**12.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага артыста Беларусі Міхаіла Пятрова.
**12.50** «Святыні Беларусі».
**13.15** «Турандот». Драма (Грузія, 1989 г.).
**14.50** Творчы вечар народнага артыста СССР Льва Дурава.
**16.05** «У гасцях у Барыса Аверына». Сустрэча з гісторыкам культуры, мастацтвазнаўцам, доктарам філасофскіх навук, прафесарам Лідзіяй Стародубцавай.
**16.35** «Развод па-італьянску». Трагікамедыя (Італія, 1961 г.).
**18.15** «Калейдаскоп».
**18.30** «Размаўляем па-беларуску».
**18.35** «Дом на Англійскай набярэжнай». Сямейная драма (Расія, 2007 г.).
**20.15** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Песні навагодніх начэй». 40-я гады.
**21.30** «Прастадушны». Музычная камедыя. Часткі 1-я і 2-я (Расія, 1994 г.).
**23.10** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**23.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага артыста Беларусі Міхаіла Пятрова.
**00.05** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.35** PRO спорт. Навіны.
**07.50** Баскетбол. НБА. Таронта - Далас.
**09.45** Спорт-кадр.
**10.15** Хакей. КХЛ. Тарпеда – СКА.
**12.05** Спорт-мікс.
**12.25** Футбол. Відэачасопіс.
**12.55** Снукер. Адкрыты кубак Беларусі.
**15.00** Хакей. КХЛ. Слован - Дынама.
**16.50** Біятлон. Этап Кубка свету. Паклюка. Масстарт. Мужчыны.
**16.50** Біятлон. Этап Кубка свету. Паклюка. Масстарт. Жанчыны.
**17.45** Біятлон. Этап Кубка свету. Жанчыны.
**18.30** Гісторыя беларускага футболу.
**19.05** Козел пра футбол.
**19.20** PRO спорт. Навіны.
**19.25** Хакей. КХЛ. ЦСКА -Ак Барс.
**21.40** Баскетбол. НБА. Таронта - Далас.
**23.20** PRO спорт. Навіны.
**23.40** Міжнародны турнір па муайтай.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**08.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.10** Два на два (тэледыскусія).
**10.40** Сваё месца, рэпартаж.
**11.00** 25 Стамбул ад золку да змяркання, д/ф.
**11.40** Мова нанова.
**12.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**12.55** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**13.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**15.40** Два на два (тэледыскусія).
**16.10** 25 Стамбул ад золку да змяркання, д/ф.
**16.45** Мова нанова.
**17.10** Невядомая Беларусь: Чарга. Гісторыя пытання ці пытанне гісторыі?, д/ф.
**17.45** Беларусы ў Польшчы.
**18.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**18.55** Асабісты капітал.
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальчая праграма): Песня пра зубра.
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**22.05** Чорным па белым.
**22.35** Форум (ток-шоу): Сеціўны натоўп.
**23.20** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.45** Праведнікі, тэлесерыял.
**00.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.

## 24 СНЕЖНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**11.00** Меладрама «Здрада» (Расія).
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-6» (Украіна).
**13.00** 90 секунд.
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладрама «А шчасце дзесьці побач» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыў «Асобы, якіх ахоўваюць» (Расія).
**16.00** 90 секунд.
**16.30** Серыял «Сямейныя меладрамы-6».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Прыгодніцкі дэтэктыў «Ваенная разведка. Заходні фронт» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Святочнае набажэнства ў Мінскім кафедральным саборы.
**23.45** Калядная служба з Ватыкана.
**00.45** Дэтэктыў «Асобы, якіх ахоўваюць» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Модны прысуд».
**12.15** «Смак».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Фільм «Карусель на базарнай плошчы».
**14.50** Фільм «Госць з Кубані».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Фільм «Госць з Кубані». Працяг.
**17.00** Прэм'ера. «Час, наперад!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Часова недаступны». Шматсерыйны фільм.
**23.30** «Калядны анёл». Мастацкі фільм.
**00.45** Фільм «Страчаныя Каляды».
**02.20** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Белая ноч, пяшчотная ноч».
**10.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Краіна 03». Серыял.
**14.45** «Белыя ваўкі». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Ведай нашых!».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Самыя шакавальныя гіпотэзы».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Настаўнік года».
**21.50** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Простыя пытанні».
**23.20** «Аўтапанарама».
**23.40** «12 Калядных жаданняў». Фільм.
**01.10** Дакументальны праект.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.10** Моладзевы трылер «Закрытая школа» (Расія).
**11.15** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.10** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**13.15** Камедыйная меладрама «Васьмідзесятыя» (Расія).
**14.25** Кулінарная камедыя «Кухня» (Расія).
**15.30** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**16.20** Моладзевы трылер «Закрытая школа» (Расія).
**17.55** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**18.55** Кулінарная камедыя «Кухня» (Расія).
**19.55** Камедыйная меладрама «Васьмідзесятыя» (Расія).
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** «Рэд-2». Баявік.
**22.00** Спортлата 6 з 49, КЕНА.
**22.10** «Арол і рэшка». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**23.50** Разбуральнікі міфаў.
**00.25** Камедыя «Навагоднія мужчыны».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «Дом на Англійскай набярэжнай». Сямейная драма (Расія, 2007 г.).
**09.50** «Раман з лёсам». Гісторыя вострых прыпраў.
**10.15** «Развод па-італьянску». Трагікамедыя (Італія, 1961 г.).
**12.00** «Калейдаскоп».
**12.15** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнай артысткі СССР Галіны Макаравай.
**12.40** «Дзівакі». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М.Горкага.
**15.05** «Святыні Беларусі».
**15.35** «Сіла веры».
**16.00** «Прастадушны». Музычная камедыя. Часткі 1-я і 2-я (Расія, 1994 г.).
**17.45** «Калейдаскоп».
**18.00** «Зорку за сцінгер». Дакументальны фільм.
**18.45** «Нага». Драма (СССР, 1991 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Песні навагодніх начэй». 50-я гады.
**21.30** «Свежына з салютам». Фальклорная камедыя (Беларусь, 2001 г.).
**22.45** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**23.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнай артысткі СССР Галіны Макаравай.
**23.35** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.35** PRO спорт. Навіны.
**07.50** Баскетбол. НБА. Клівленд - Нью-Ёрк.
**09.40** Хакей. КХЛ. ЦСКА -Ак Барс.
**11.35** Змешаныя адзінаборствы.
**14.05** Спорт-мікс.
**14.25** Снукер. Адкрыты кубак Беларусі.
**16.25** Спорт, спорт, спорт.
**16.55** Хакей. КХЛ. Медвешчак - Дынама.
**19.20** PRO спорт. Навіны.
**19.25** Хакей. Нёман - Юнацтва.
**21.45** Баскетбол. НБА. Клівленд - Нью-Ёрк.
**23.45** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальчая праграма): Песня пра зубра.
**08.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.35** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**11.05** Праведнікі, тэлесерыял.
**11.55** Форум (ток-шоу): Сеціўны натоўп.
**12.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**13.10** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**13.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальчая праграма): Песня пра зубра.
**13.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**15.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.15** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**16.50** Невядомая Беларусь: Чарга. Гісторыя пытання ці пытанне гісторыі?, д/ф.
**17.30** Сваё месца, рэпартаж.
**17.50** Невядомая Беларусь: Заходнікі, д/ф.
**18.30** Два на два (тэледыскусія).
**19.00** Ноч святога Мікалая, м/ф.
**20.00** Чэслаў Немэн, д/ф.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**22.10** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**22.35** Я з табою, м/ф, 2010 г., Італія.
**00.20** Каляды, Каляды, святочны канцэрт: ч. 1, 2.
**01.10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.

Новы Час | 18 снежня 2015 | № 48 (465) | «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 12 (112)




# Літаратурная Беларусь

Выпуск №12 (112)
(снежань)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by


## Змест



# «Свабода — гэта доўгі шлях»

## Прамова Святланы Алексіевіч на ўрачыстым банкеце з нагоды атрымання Нобелеўскай прэміі

**10 снежня ў Стакгольме адбылося ўручэнне найпрэстыжных у свеце Нобелеўскіх прэмій. Шведская акадэмія ўганаравала ёй беларускую пісьменніцу Святлану Алексіевіч. У той жа дзень адбылося ўрачыстае ўзнагароджванне і банкет у Блакітнай зале Стакгольмскай ратушы, дзе першая беларуская нобелеўская лаўрэатка выступіла з прамовай, у якой з удзячнасцю згадала Алеся Адамовіча і Васіля Быкава, расказала (парасійску) свету пра Беларусь і звярнулася да беларускай мовы.**



© Reuters/J. Ekstromer

«Мне здаецца, што галоўнае, як у яе Нобелеўскай лекцыі, так і ў банкетнай прамове, — гэта акцэнты, — адзначыў у інтэрв'ю радыё «Свабода» «беларуска-шведскі» пісьменнік і перакладчык Дзмітры Плакс. — Тут шмат чаго, на што можна звярнуць увагу. Пачну з таго, што яна адрэчыла агульнапрынятый дрэс-код і прыйшла на Нобелеўскі банкет не ў вечаровым строі, а так, як ёй было больш зручна. Я не ведаю, ці такое калі-небудзь раней было. Тое, што яна не звярнулася да караля, пачынаючы сваю прамову, — гэта таксама нешта, што наўрад ці здаралася раней. Ну і яшчэ яна парушыла рэгламент, прамаўляючы даўжэй, чым прапісана. Што тычыцца зместу — там усё было прадумана... Банкетныя прамовы мусяць быць кароткімі, лёгкімі, тыпу "дзякуй каралю", "дзякуй Швецыі", "дзякуй усім гасцям банкета", "мне тут так прыемна", і ў дадатак нейкі анекдот з уласнага жыцця... Яна ж выбрала, на мой погляд, вельмі канцэптуальны падыход. У Нобелеўскай лекцыі яна гаварыла пра сябе, а ў банкетнай прамове — пра ўсё астатняе, што для яе важна».

*«Літаратурная Беларусь» знаёміць сваіх чытачоў са знакамітай прамовай беларускай нобелеўскай лаўрэаткі.*

Я дзякую Шведскай акадэміі за высокую ўзнагароду, якую не маю права сабе прысвоіць, я разумею яе як паклон многім пакаленням савецкіх людзей, якія яшчэ нядаўна жылі разам у велізарнай краіне СССР — марксісцкай лабараторыі светлай будучыні. Як паклон іх пакутам і іх болю. Яны сыходзілі ў нябыт у сталінскіх лагерах, на шахтах Магадана і Варкуты, атрымлівалі кулю ў патыліцу ў катавальнях НКВД, гінулі на франтах Другой сусветнай вайны ды іншых войнаў, якія вяла імперыя. Вялікая ідэя бязлітасна пажырала сваіх дзяцей. Ідэям не бывае балюча. Шкада людзей.

У перабудову мы марылі пра свабоду, а апынуліся ў зусім іншым пункце гісторыі. На постсавецкай прасторы замест свабоды расквітнеў аўтататалітарызм розных масцяў — расійскі, беларускі, казахскі... Павольна і няўпэўнена выбіраемся мы з-пад абломкаў «чырвонай» імперыі. Адна з гераіняў маёй кнігі «Час second-hand», у якой уся сям'я была высланая ў Сібір і там загінула, са слязамі на вачах спявала, калі мы сядзелі ў яе на кухні:

*Утро красит нежным светом*
*Стены древнего Кремля,*
*Просыпается с рассветом*
*Вся советская земля...*

*Кипучая,*
*Могучая,*
*Никем не победимая*
*Страна моя,*
*Москва моя,*
*Ты самая любимая...*

Мінуўшчына не выпускала яе са сваіх драпежных абдымкаў. Яе навучылі верыць, у ёй усё яшчэ жыла тая дзяўчынка, у якой Сталін калісьці забраў усё, а яна ўсё роўна верыла. У што?..

Я хачу расказаць пра маю краіну — Беларусь. У Мінску ў аэрапорце, калі я ляцела ў Варшаву, да мяне падышлі дзве маладыя дзяўчыны, яны плакалі: «Дзякуй вам! Разумееце, мы цяпер ёсць! Цяпер усе ведаюць, дзе Беларусь!» Гэтую падзяку я перадаю ўсім вам. Пасля жнівеньскага путча 1991 года, калі Беларусь атрымала незалежнасць, ужо вырасла некалькі пакаленняў. У кожнага з іх была свая рэвалюцыя, яны выходзілі на Плошчу, яны хацелі жыць у вольнай краіне, іх збівалі, адпраўлялі ў турмы, выганялі з інстытутаў, звальнялі з працы. Наша рэвалюцыя не перамагла, але героі рэвалюцыі ў нас ёсць.




Свабода — гэта не хуткае свята, як мы марылі. Гэта — шлях. Доўгі шлях. Цяпер мы гэта ведаем.

Мы ўсе жывем у агульным свеце. Ён называецца — Зямля. У гэтым нашым свеце зрабілася няўтульна. Уключаеш тэлевізар, і там, захлынаючыся ад захаплення, дыктар расказвае пра новыя вайсковыя самалёты, караблі... На расійскай, ангельскай і іншых мовах. Зноў наступіла эпоха варварства. Эпоха сілы. Дэмакратыя адступае. Узгадваюцца 90-я гады... Тады ўсім нам здавалася — і вам, і нам — што мы ўступілі ў бяспечны свет. Я памятаю дыялогі Гарбачова з Далай-Ламам пра будучыню, пра канец гісторыі... Сёння ўсё гэта здаецца прыгожай казкай. Цяпер мы сведкі новай бойкі дабра і зла. Сведкі і ўдзельнікі.

Што можа мастацтва? Мэта мастацтва — назапашваць чалавека ў чалавеку. Але калі я была на вайне ў Афганістане і цяпер, калі размаўляла ва Украіне з уцекачамі з Данбаса, я чула, як хутка злятае з чалавека культура і выпаўзае пачвара. Раскрываецца звер... Але я пішу... працягваю пісаць... Пішу, як вучылі мяне мае настаўнікі, беларускія пісьменнікі Алесь Адамовіч і Васіль Быкаў, якіх у гэты дзень я хацела б прыгадаць з удзячнасцю. Як вучыла мяне мая ўкраінская бабуля, якая ў дзяцінстве чытала мне «Кабзара» Тараса Шаўчэнкі на памяць. Пішу, навошта? Мяне называюць пісьменнікам катастрофаў. Гэта няпраўда, я ўвесь час шукаю словы любові. Нянавісць нас не ўратуе. Нас уратуе толькі любоў. Я спадзяюся...

На развітанне я хацела б, каб у гэтай цудоўнай зале прагучала беларускае слова, мова майго народа:

У адной беларускай вёсачцы старая жанчына праводзіла мяне са словамі: «Хутка мы разыдземся з табой у розныя бакі. Дзякуй табе, што ты слухала мяне і панясеш маю больку людзям. Прашу цябе, калі пойдзеш, азірніся на маю хатку. Азірніся не адзін, а два разы. Другі раз чалавек азіраецца не па чужынцы, а ўжо з сэрцам...»

Я хачу падзякаваць вам за вашае сэрца, за тое, што вы пачулі наш боль.

# Новая «Жырандоля»

**У выдавецтве «Кнігазбор» пабачыў свет сёмы нумар літаратурнага альманаха «Жырандоля» Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Выпуск «прысвечаны 70-годдзю Перамогі ў Другой сусветнай вайне.**



Том берасцейскага гадавіка атрымаўся даволі складаным паводле сваёй структуры, ён падзяляецца на 11 рубрык.

У раздзеле «Паэзія» з вершамі выступаюць Алена Белая, Аляксей Белы, Лявон Валасюк, Святлана Варонік, Аляксей Ганчук, Яніна Грыгаровіч, Мікола Горба, Алена Ігнацюк, Уладзімір Данілюк, Уладзімір Лебедзеў, Ірына Ляшкевіч, Мікола Пацяюк, Уладзімір Тураў, Генадзь Мішчук, Людміла Ярмалюк, Наталля Сацута, Валянціна Клачковіч. Пераважна гэта невялікія падборкі на пяць-сем вершаў. З 17 аўтараў паэзіі толькі адзін прадстаўляе рускамоўныя творы — Уладзімір Тураў.

Аддзел «Проза» рэпрэзентуюць шэсць пісьменнікаў: Сяргей Белаяр, Валерый Гапееў, Генадзь Мішчук, Людміла Хмялеўская, Вадзім Жылко і Марыя Якімук. Яны выступаюць з «малафарматнай» прозай — апавяданнямі, абразкамі, замалёўкамі.

У рубрыцы «Нашы юбіляры» рэдкалегія альманаха вырашыла адзначыць Віктара Вабішчэвіча, якому ў ліпені споўнілася 55 гадоў, а ў раздзеле «Память» калегі ўспамінаюць добрым словам і публікуюць творы спачылых Кастуся Жмінько, Івана Лагвіновіча, Міколы Арахоўскага і Сцяпана Крываля.

«Рэха вайны», якому і прысвечаны выпуск, змяшчае партызанскія вершы Міколы Засіма з колішняй прадмовай Уладзіміра Калесніка, рускамоўныя вершы франтавікоў Аляксея Бакуменкі і Мікалая Цялічкі, а таксама фрагменты ўспамінаў згаданага прафесара Калесніка «Доўг памяці».

Аддзел «Крытыка. Краязнаўства» прадстаўлены эсэ-ўспамінам Вячаслава Бурдыкі «Палескі валацуга» пра Міколу Купрэева і краязнаўчым артыкулам Ніны Марчук «Жыць і помніць», прысвечаным вёскам Глінянкі, Песценькі, Лышчыкі і Ластаўкі.

«Маладыя галасы» друкуюць вершы і пераклады паэтаў і паэтак моладзевага аб'яднання студэнтаў «МАЛ»: Марыны Кавалевіч, Хрысціны Леснік, Кірыла Азімкі, Ганны Івашчанкі, Антона Чайніца, Алёны Папко, Марты Мартынюк, Вольгі Кот, Таццяны Кананович, Аляксандры Фагот, Яўгенія Азгіра (Яўгена Бодака).

«Для дзетак-малалетак» Анатоль і Васіль Дэбішы прапануюць паэму-казку «Прыгоды Жыжа», а Іван Мельнічук — нізку апавяданняў.

Перакладная частка альманаха «Пад небам адзіным» публікуе замалёўкі Васіля Гэя і Івана Чарнецкага, перакладзеныя з украінскай мовы Іванам Мельнічуком, а таксама вершы польскага паэта Веслава Казанэцкага, перастворана па-беларуску Міколам Аляхновічам.

Завяршае выпуск рубрыка «Гумар» з вершамі Алеся Корнева і кнігапіс «Нашы новыя выданні», дзе анатуюцца 15 кніжак, выпушчаных берасцейскімі літаратарамі цягам года.

У рэдкалегію альманаха «Жырандоля», акрамя галоўнага рэдактара Лявона Валасюка і яго намесніка Васіля Дэбіша, уваходзяць Мікалай Аляксандраў, Сяргей Амяльчук, Іван Мельнічук і Мікола Сянкевіч.

# Трэцяя «Брама»

**Выйшаў трэці выпуск літаратурна-мастацкага альманаха «Брама» Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Нумар гадавіка змяшчае вершы, прозу, пераклады і артыкулы мясцовых аўтараў ды іх землякоў.**

Паэтычныя і празаічныя творы па чарзе (менавіта так структураваны раздзел) прадстаўляюць Сяргей Целеш, Сяргей Украінка, Таццяна Барысік, Тамара Аўсяннікава, Віталь Еўмянькоў, Лідзія Андрэева, Валерый Казакоў, Базыль Камароў, Фелікс Шкірманкоў, Надзея Палубінская, Анатоль Санаценка, Валянціна Вараб'ёва, Міхась Карпечанка, Алесь Макрацоў, Юрый Несцярэнка, Аляксей Карпенка, Аляксей Бацюкоў, Мікола Яцкоў, Васіль Аўраменка, Міхась Калясянец. Рубрыка «Пераклады» змяшчае перастварэнні тэкстаў Эдуарда Мядзведскага, Навума Сандамірскага і Губерта Грывэла.

Раздзел «Спадчына» ўтрымлівае ўспаміны Сяргея Панізьніка да 95-годдзя з дня нараджэння магілёўца Аляксея Пысіна, аздобленыя рэдкімі фотаздымкамі і рэпрадукцыямі аўтографаў. Пра раннюю лірыку Пысіна піша нататкі і Сяргей Украінка. Уладзімір Ліўшыц прапануе біяграфічны артыкул пра пісьменніка міжваеннага часу Васіля Каваля. На аснове архіўных дакументаў і неадназова згаданай у тэксце «Справы №10898 па абвінавачванні гр-на Каваля Васіля Пятровіча па арт.арт. 72 і 76 КК БССР, 59-7, 58-8, КК РСФСР» распавядаецца біяграфія рэпрэсаванага літаратара. Артыкул Валерыя Васілеўскага «Рэха незабыўнай сустрэчы» прысвечаны Сяргею Грахоўскаму з магілёўскага Глуску.

У рубрыцы «З літаратурнай спадчыны» з артыкулам выступае слонімскі краязнаўца Сяргей Чыгрын, які распавядае пра знакавую і легендарную для Магілёўшчыны постаць — Машэку. Толькі гаворка ідзе не пра купалаўскага ці караткевічаўскага героя, а пра аднайменную маладомую паэму заходнебеларускага літаратара Аўгена Бартуля.



Крытыка і літаратуразнаўства ў альманаху прадстаўлены артыкуламі Тамары Аўсяннікавай, якая аналізуе кнігу Ніла Гілевіча «У віры быцця», што выйшла ў серыі «Кнігарня пісьменніка»; Яраслава Клімуця — пра літаратурна-крытычны талент Алеся Адамовіча; Алены Быкавай пра паэтычны зборнік Тамары Аўсяннікавай «Скрыжалі». Сёлетняя прызёрка прэміі імя Ежы Гедройца Таццяна Барысік публікуе артыкул «Уюн на пяску трохлітровага возера» пра кнігу «Белы бусел, чорнае пяро» Сяргея Украінкі. Віталь Еўмянькоў аналізуе пакручастую гісторыю газеты 1563 года «Навіны грозныя…», якая ў гісторыі журналістыкі лічыцца першым беларускім перыёдыкам.

«Нахінецца магілёўская брама, пахіснецца брамнік — не ўтрымаецца наш нябесны Ерусалім, наша Беларуская Рэч паспалітая. Так яно было, але так не павінна быць сёння. Не павінна! Бо, дзякуй Богу, ёсць у Магілёве «Брама», і стаяць у ёй сякія-такія брамнікі… Няхай будзе так і надалей» — піша ў прадмове сябра Рэдакцыйнай рады альманаха Віталь Еўмянькоў. З ім нельга не пагадзіцца…

# «Пэтсан і Фіндус святкуюць Каляды»

**Цёплыя і смешныя гісторыі пра прыгоды дзядулі Пэтсана і коціка Фіндуса, створаныя шведскім пісьменнікам і мастаком Свэнам Нурдквістам, — вядомыя і любімыя дзецьмі і іх бацькамі ў многіх краінах света, перакладзеныя больш як на 30 моў. А цяпер дзядуля і коцік упершыню загаварылі па-беларуску дзякуючы Саюзу беларускіх пісьменнікаў. Пераклала кнігу Надзея Кандрусевіч.**




Кнігі Свэна Нурдквіста ўжо сталі класікай шведскай літаратуры, а яго незвычайныя ілюстрацыі, адначасова насычаныя колерам і дэталямі, прывабліваюць і дзетак, і дарослых.

Аўтар нарадзіўся ў 1946 годзе ў Хельсінборгу, працаваў у розныя часы архітэктарам, настаўнікам, ілюстратарам, але толькі маляванне цікавіла яго найбольш цягам усяго жыцця.

Распачынаецца чароўная казка так: «Нарэшце хоць крыху пацяплела! Ужо некалькі дзён было так холадна, што Пэтсан не мог носа высунуць за дзверы, нават у краму не хадзіў. У хаце няма ні кавалачка ежы, а заўтра ўжо Каляды. Трэба абавязкова набыць што-небудзь да святочнага стала, ссекчы ялінку ў лесе і прывезці яе дахаты, напячы імбірнага печыва і зрабіць яшчэ шмат чаго.

Фіндус стаяў ля дзвярэй і чакаў Пэтсана. Падстаўку пад ялінку ён ужо адшукаў.

— Пэтсан! — паклікаў Фіндус. — Хадзем ужо ў лес па ялінку!»

І тут здарылася тое, што не мусіла здарыцца — Пэтсан падвярнуў нагу. Як жа яны дойдуць да крамы, як набудуць ежы, як прынясуць з лесу ялінку?! Пра прыгоды герояў чытайце ў кнізе, якая ўжо ёсць у кнігарнях.

Казка «Пэтсан і Фіндус святкуюць Каляды» пабачыла свет у адмыслова створанай серыі для дзяцей «Каляровы ровар» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў.

# «Гісторыі ў прыцемках»

**Першай кнігай «Гісторыі ў прыцемках» дэбютаваў Зміцер Дзядзенка. Яна сталася шэсцьдзясят сёмым выпускам Бібліятэкі Саюза пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка».**




Творы Зміцера Дзядзенкі, якія ўвайшлі ў кнігу, вызначаюцца цікавасцю да таямнічага і неспазнанага, а таксама вострасюжэтнасцю. Героі твораў спрабуюць разгадаць загадкі, паходжанне якіх губляецца ў прыцемках гісторыі.

Гэта характэрна як для містычнага апавядання «Яйкі птушкі Рух», так і для дэтэктыўных аповесцяў «Голем з Малой Мар'ямпольскай» і «Вуаерыст».

Гісторыя «Голема з Малой Мар'ямпольскай» сюжэтна пераплятаецца з біяграфіяй беларускага першадрукара Францішка Скарыны. Злачынства, якое адбываецца задоўга пасля смерці вялікага палачаніна, здараецца пры ўдзеле невядомых сілаў, а на месцы злачынства знаходзяць след гліны. Голем з пражскіх легендаў працягвае помсціць нашчадкам Скарыны за нейкія даўнейшыя правіны…

Зміцер Дзядзенка нарадзіўся ў 1972 годзе ў Оршы. У 1994 годзе скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пасля паспеў папрацаваць, сярод іншага, рэдактарам на БТ і журналістам у «Нашай Ніве».

Друкаваўся ў часопісах «Першацвет», «Дзеяслоў», «Полымя», «Паміж», «Спадчына». Аўтар краязнаўча-генеалагічнага даведніка «Аршанская шляхта», зборніка інтэрв'ю «Беларусь: Ні Еўропа, ні Расія», адзін з суаўтараў кнігі «Наша страва».

**Прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў**

# «Плебейскія гульні»

**У выдавецтве «Логвінаў» выйшла новая кніга празаіка Франца Сіўко — зборнік аповесцяў «Плебейскія гульні». Гэта вынік працы літаратара за апошнія пяць гадоў.**




Не прэтэндуючы на валоданне ісцінай у апошняй інстанцыі, пісьменнік, які жыве ў Віцебску, падае і аналізуе падзеі сучаснага жыцця так, як яны яму бачацца ў звязку з яго асабістым жыццёвым досведам, уласнымі маральнымі прыярытэтамі.

З трох змешчаных у выданні твораў у перыядычным друку раней з'яўляліся аповесць «Цымант» (у «Дзеяслове») і ўрыўкі з аднайменнай з назваю кнігі аповесці «Плебейскія гульні» (друкаваліся ў «Літаратурнай Беларусі»). Аповесць «Дзве вясны дзяцей Прыяпа» апублікаваная ўпершыню.

**Настасся Лазебная, старшыня Віцебскага абласнога аддзялення СБП**

# Кавыль — сімвал нязломнасці

**Даволі дзіўнае адчуванне ўзнікае, калі набіраеш на кампутары верш 1932 года і ў той жа час ведаеш, што аўтарава дыханне яшчэ грэе свет жывых. Міхась Кавыль, Язэп Казіміравіч Лешчанка адзначае свой 100-гадовы юбілей...**



Нарадзіўся паэт, адпаведна, у 1915 годзе ў адной з сялянскіх хатаў случанскай вёскі Покаршаў. Хадзіў вучыцца ў школкі большых за родную вёсак — у Грэск і Грозава. У тым самым славутым Грозаве, за які год да таго як выправіцца будучы паэт на вучобу, арганізуецца Грозаўскі полк слуцкіх паўстанцаў.

1930 год стане для беларускай гісторыі чорным часам — разгорнецца справа «Саюза вызвалення Беларусі», будзе арыштавана і зацяганая на допыты фактычна ўся нацыянальная інтэлігенцыя: дзясяткі й дзясяткі паэтаў, празаікаў, крытыкаў, навукоўцаў атрымаюць неўзабаве першыя тэрміны высылкі і лагероў. Для случака Язэпа Лешчанкі гэты год стане шчаслівым; пазней, у сваіх успамінах, будзе ён прыгадваць, як маліўся, укленчыўшы перад абразом Багародзіцы, аб тым, каб паступіць у менскі Белпедтэхнікум, і як мара ягоная спраўдзілася. Вучыцца ён разам з беларускімі літаратарамі Сяргеем Астрэйкам, Уладзімірам Гуцькам (Дудзіцкім), Францам Гінтаўтам, Лукашом Калюгам, Уладзімірам Сядурам. Уступае ў літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Маладняк» і друкуе ў аднайменным часопісе свае першыя вершы.

Разам з тым надыходзяць і дні смутку: недзе зусім побач адбываюцца арышты, ходзяць чуткі пра тэхнікумаўскіх сэксотаў, урэшце яго самога заводзяць у дом ГПУ і змушаюць да вярбоўкі і стукацтва на сваіх сяброў. Пасля адмовы Міхася Кавыля станавіцца сэксотам праходзіць зусім няшмат часу, і 23 лютага 1933 года на святочных танцах у клубе да яго звяртаецца вайсковец і патрабуе выйсці на двор. Паэт нават не збіраецца браць паліто, але «дабрачы» чэкіст пераконвае яго апрануцца, бо «можна прастудзіцца». За гэтым — агаламшальнае паведамленне пра арышт, сухая галадоўка, «амерыканка», камера, поўная напаўзвар'яцелых смяротнікаў, падступнае ілжывае следства і — тры гады канцэнтрацыйных лагероў.

Збылося прароцтва цыганкі, якая зайшла ў хату Лешчанак перад ад'ездам Язэпа ў Менск: сапраўды чакалі яго «казённы дом і далёкая дарога». 30 дзён у прадзіманым вятрамі і дарэшты запоўненым вагоне, без дроваў для печкі, з пайкай селядцоў, але без вады. Урал, Сібір, Новасібірск, Нікольск-Усурыйск, Сядан. Далёкі Усход, дзе, дзякуючы маладукаванай сакратарцы ГУЛАГа не разабраліся: 74 артыкул крымінальнага кодэкса БССР азначаў «контррэвалюцыю», а Міхася Кавыля запісалі па ўсесаюзным 74 артыкуле — «хуліганства».

Амаль тры гады «маладняковец» валіў лес, рабіў дошкі на пілараме, будаваў дамбы на рэках Далёкага Усходу, вывозіў тачкамі зямлю, вырабляў цэглу для ваданапорных станцый,



**Сям'я Міхася Кавыля: стогадовы юбіляр, жонка Соня, сыны Жорж (справа) і Міхась, нявесткі Дэбора (справа ў вышыванцы) і Сіндзі і ўнучка Даніка.**
Фота svaboda.org

якую даводзілася выцягваць з пякельных лагерных печаў рукамі, абернутымі ў старыя рукавіцы; закладаў аманал ва ўладзівастоцкія сопкі, вісячы ў паветры на «чэсным слове» турэмнай вяроўкі. Аднойчы нават змушаны быў намаляваць тушшу 18 партрэтаў наркама ўнутраных спраў Генрыха Ягоды. Урэшце, не адбыўшы да канца свайго тэрміну, быў вызвалены.

Далей чакала кароткае падарожжа на Радзіму, адзін дзень у роднай вёсцы і пасяленне ў Варонежы, далей ад Беларусі. Адным вокам убачыў Міхась Кавыль на сцэне варонежскага тэатра ў 1936 годзе ссыльнага Восіпа Мандэльштама. Паслухаць выступ расійскага класіка не ўдалося: зала была запоўненая цалкам. У Варонежы вучыўся на настаўніка, працаваў на заводзе, а неўзабаве быў прызваны на фронт, дзе трапіў у палон і вярнуўся ў Беларусь працаваць у беларускіх арганізацыях пад нямецкай акупацыяй. Як і тысячы іншых беларусаў, з веданнем, што яго чакае пасля вайны, вырашыў не заставацца ў Беларусі і падаўся ў эміграцыю. Дзе, зрэшты, і нарадзіўся нанова як паэт.

> Паэт Міхась Кавыль (Язэп Лешчанка) нарадзіўся на Случчыне 1 снежня 1915 года, а бальшыню жыцця пражыў у амерыканскім горадзе Саўт-Рывер (штат Нью-Джэрсі).
>
> Сям'я і сябры Міхася Кавыля ўрачыста адзначылі стагоддзе ягонага жыцця, плённага на ніве роднага слова і грамадскай дзейнасці. Юбіляр атрымаў віншаванне з Белага Дома ад прэзідэнта Барака Абамы і спадарыні Мішэль Абамы...

Блуканне па пакутах, вечнае вандраванне, цяжкая фізічная праца ўспрымаліся ўжо як этапы паэтычнага шляху. Першая кніжка вершаў «Ростань» (1947) выйшла ў лагеры для перамешчаных асобаў у Рэгензбургу. Другая, «Пад зорамі белымі» (1954), у Нью-Ёрку, трэцяя ,«Першая рана» (1960), у Манчэстэры. Чацвёрты тамок вершаў, «Цяжкія думы» (1961), складзены з цвёрдых паэтычных формаў, пабачыў свет у Саўт-Рыверы. У сярэдзіне 1950-х крытык і ідэолаг амерыканскай эміграцыі Антон Адамовіч намаўляе Міхася Кавыля на складаную паэтычную форму, нечуваную для беларускай паэзіі — вянок санетаў. У 1956 годзе Міхась Кавыль, у супрацы і пад шчыльнай рэдактурай Адамовіча, заканчвае свой першы вопыт у гэтай форме — твор «Цяжкія думы», спаборнічаючы ў гэтым з Алесем Салаўём, які дасылае з Аўстраліі фрагменты свайго «вянка». Але і без увагі на класічныя вершаваныя памеры Міхась Кавыль становіцца адным з самых цікавых паэтаў эміграцыі, што выразна засведчыў аднатомны збор яго твораў «Міжагнёўе», выпушчаны Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Н'ю-Ёрку ў 1990 годзе.

100 гадоў Язэпу Лешчанку, Язэпу Маёваму, Міхасю Кавылю! Шчыра віншуем беларускага чытача і беларускую літаратуру з гэтай сапраўды знакавай датай. Ніжэй прапануем выбраныя вершы апошняга беларускага «маладнякоўца», праўдзівага патрыярха беларускай паэзіі.

# Не стыгне войная адвага

Міхась КАВЫЛЬ

## Ідзі, ідзі...

*Упала ноч.
Як эдэльвайсы, зоры
Цвітуць над Альпамі.
Аскепак-маладзік
У неба ўрэзаўся.
Блакітнае на горы
Імжыць святло.
А ты ідзі, ідзі...
Якая ноч!
Як у святыні, ціха
І урачыста.
На калені упадзі.
Вунь там агонь міргае...
Шчасце з ліхам
Кладуцца спаць...
А ты ідзі, ідзі...
Трывожыць ноч,
як смерці жах мінулы,
І прышласць мроіцца,
як недабіты дзік.
Нібы агонь,
няўсподзеў шуганула
жаданне жыць.
Каб жыць,
ідзі, ідзі...
Разбілась ноч,
і зазвінелі зоры.
Прамень, як штых, бліснуў...
І маладзік
зблякнеў,
самлеў.
Ружовае на горы
імжыць святло.
А ты ідзі, ідзі...*

**1944–1952**

## Маўкліня

*Баюся ў моўкны мой пакой заходзіць,
Хто скажа — трус...
А я прайшоў агні.
І супакой — знаходзіў у прыгодзе,
Чакаў, бы вязень волі, маўкліні.*

*Тады, як неба на зямлю йшло
ў наступ,
Хрысцілі высь пражэктараў
нажы, —
Я прабіраўся, што вужака, пластам
У тыл варожы... Вось тады я жыў.*

*Тады затоеным я жыў дыханнем
І прагна піў маўклівасць зораў, ніў.
Ды перажыў раз маўкліню канання...
Маўклівіць ноч. Баюся маўкліні.*

**21 траўня 1955 г.**

## Не стыгне войная адвага

***Уладзіміру Пелясе***

*Не стыгне войная адвага,
паходаў дальніх сняцца сны;
жыцця няўтоленая смага
прыгодаў гойдае чаўны.*

*Вятры сустрэчныя скуголяць,
грымотны блізіцца уздых...
Ці штормy буйная сваволя
спраможа поступ маладых?*

*Ад смелых рызыкі, натугі
скрыгочуць крыкі леднікоў...
Крывёй абмытыя ратугі
пад ногі вымасцім вякоў.*

*Паходні жужлай не сатлелі,
наш гарт змагарны не асмяг;
шрапнэллю шытыя шынэлі
не кінем з ганьбай у кустах.*

*Мы не шукаем Тропік Рака —
на штурм уснадзім караблі,
і кінем зноў вандроўны якар
у бухце Сонечнай Зямлі.*

## У акіяне

*Вецер-смык
на струнах-тросах
грае дзікія факстроты.
Як дазоры, альбатросы,
нібы здані, шчоглы-гроты.*

*Акіяну й неба шэрасць,
маракі наўкол паселі.
Дзень і ноч калоціць мэрам
на шалёнай каруззлі.*

*Раптам кіне, нібы з кручы,
скрыгане, як сталь у жорнах.
Як у пекле тым кіпучым,
круціць, верціць, бела, чорна...*

*Паўтарацьмеш безупынна,
як вар'ят той загайданы —
ўсе пяскі збяру з пустыняў
і засыплю акіяны...*

**27 лютага 1950 г.
Атлантычны акіян.**

## Нож

*Не з нягнуткай сталі, з серабра
ён адліты. Год яму ці мала.
Колькі раз яго у рукі браў,
над сталом схіліўшыся, Купала.*

*Разразаў пяшчотна «Кабзара»,
вершы Гётэ, томікі Лангфэла...
За вакном крывавая зара
над зямлёй спалоханай зырэла.*

*Здрыгануўся. Смерць у тыя дні
і касой махала, і сякерай.
Але нож не можам мы вініць:
ён не быў і сведкай хаціры.*

*Зазвінеў і змоўкнуў на стале.
Шуганулі шэрыя шынэлі...
Як паэт скрываўлены самлеў,
серабра ўсхліпы патускнелі.*

*З той пары лагодная рука
яго доўга, доўга не кранала.
На ліхую долю наракаў,
над сталом схіліўшыся, Купала.*

*Серабро свяцілася зырчэй,
як, бывала, моладзь завітае
і віно ў кілішкі пацячэ...
О, бурштыну песня залатая!*

*Толькі ў тую чэрвеньскую ноч,
як пярун быў дзваргнуў
перад раннем
і Купала выбіраўся ўпроч, —
не прыйшоў ніхто на развітанне.*

*Кінуў дом паэт і серабро
і пайшоў ад смерці ў рукі смерці.
Толькі нож мо й бачыў, як дабро
узнялося ў неба чорным смерчам.*

*Шмат чаго ён бачыў.
Не прасем —
ні аб чым не здрадзіць
да скананія;
таямніцы ў невядзь панясе
у сваім сярэбраным маўчанні.*

**1953**

**Прадмова і ўкладанне вершаў
Ціхана Чарнякевіча**

# Адзін дзень на абломку

Юрка КОПЦІК

**Імперыі проста так не знікаюць. А вялікія імперыі тым больш.**

Да таго, як знікнуць, яны разломваюцца на некалькі частак. І часам некаторыя з іх адчайна хочуць быць хаця б копіяй той імперыі.

Я задумаўся над гэтым 8 верасня 2007 года. І зразумеў: мы ўсё яшчэ жывем на тым самым абломку савецкай імперыі, якому надта ж хочацца быць часткай таго, чаго няма. Мы сёння бадай ці не больш СССР, чым была ў свой час БССР. Мы адзіныя, хто захавалі ўсе ейныя атрыбуты: тую ж дзяржсімволіку, тыя ж назвы і функцыі сілавых ведамстваў і спецслужбаў, тыя ж інстытуты ўлады. З той жа перыядычнасцю праходзяць з'езды КПСС (цяпер усенародныя сходы), гэтаксама ж на іх са справаздачным спавешчаннем выступае генсек (цяпер кіраўнік дзяржавы). Па тэлебачанні вядучыя грамадска-палітычных праграм тым жа самым голасам ката-баюна 40-гадовага шабалаўскага ўзору займаюцца прафесійным прамываннем мазгоў сваіх даверлівых слухачоў. Выбары ў нас такая ж нічога невызначальная фармальнасць, як і ў СССР. Практычна ўсе круглыя даты ў нас адлічваюцца толькі пачынаючы з савецкага часу. У нас тая ж сацыялістычная планавая эканоміка з той жа разбіўкай на пяцігодкі, а ўся больш-менш значная прамысловасць належыць дзяржаве. Хаця замест «план» і ўвялі неалагізм «прагнозныя паказчыкі», але па сутнасці гэта тое самае. Як і СССР, мы адна з самых мілітарызаваных краін. І былі б яшчэ больш мілітарызаванай, ды не дазваляюць магчымасці бюджэту. Як і раней, паўсюдна стаяць незлічоныя нікім помнікі Леніну. У нас тая ж савецкая ідэалогія, толькі замест галоўнай інвектывы «любіць партыю» цяпер паставілі «любіць кіраўніцтва».

Ёсць, ёсць папраўкі на час (прыватная ўласнасць, бізнес-структуры ды яшчэ месцамі недаскасаваныя незалежныя медыі). Але ўсё пад кантролем. Апазіцыя? Калі ўсе нашы АДС разам узятыя не здольныя вывесці на вуліцы сталіцы больш за 3 тысячы чалавек, то такая апазіцыя не ўяўляе для ўлады абсалютна ніякай небяспекі. У нас не проста максімальна захоўваецца ўсё СССРаўскае, але ўсё гэта, паводле дыялектыкі, яшчэ само па сабе развіваецца ды ўдасканальваецца. Ва ўсялякім разе, імкнецца да гэтага. І як усё, адарванае ад сілкуючых імперскіх каранёў, развіваецца ў яскрава скажонай і звыроднай форме. Тады не вісела па ўсіх кабінетах і кабінецiках, аж да капцёркі майстра самага забытага людзьмі і богам ЖЭУ, такая процьма партрэтаў і партрэцікаў ніводнага з правадыроў. У гэтым плане мы зраўняліся з такой злой карыкатурай на СССР, як Паўночная Карэя. Гэтаксама ж тады не насаджвалася з такой істэрычнай настойлівасцю дзяржсімволіка. Тады не было на адзінку насельніцтва такой колькасці міліцыі, унутраных спецвойскаў ды рознага роду спецслужбаў. РБ у гэтым плане сёння ў непараўнальна большай ступені паліцэйская дзяржава, чым была савецкая Беларусь. Тады гэтак пільна, на ўзроўні адмыслова і загадзя распрацаваных маштабных спецаперацый, не ахоўвалася першая асоба дзяржавы. Тады не апяваліся з такой настойлівасцю рознага роду СМЕРШы ды іншыя карныя органы.




Пад знакам сярпа і молата

**Як і раней, паўсюдна стаяць незлічоныя нікім помнікі Леніну. У нас тая ж савецкая ідэалогія, толькі замест галоўнай інвектывы «любіць партыю» цяпер паставілі «любіць кіраўніцтва»**

У нашага абломка імперыі ёсць знешнія і ўнутраныя ворагі. І сяброўства толькі з тымі краінамі, якія больш-менш падобныя на гэты абломак. І нават калі ты далёкі ад палітыкі, а проста любіш нешта чыста гуманітарнае, то, як і тады, ты ўсё адно патрапляеш у абойму ворагаў. Таму што ў абломка свая шкала гуманітарных каштоўнасцяў ды ідэалаў. І калі твае гуманітарныя густы не ўпісваюцца ў зацверджаную той жа самай ідэалогіяй шкалу, то і цябе запішуць у ворагі. Будзьце пэўныя, спісы такія даўно існуюць і перыядычна папраўляюцца, як бы вас не пераконвалі ў адваротным тыя тэлевізійныя каты-баюны. У СССР заўжды перыядычна праходзілі гуманітарныя пагромы пісьменнікаў і мастакоў, артыстаў і навукоўцаў, якія «не ўпісваліся» — ад расстрэлаў ды лагерных тэрмінаў на раннім этапе да высылак і шырокамаштабных разгонаў.

Цяпер такі прэцэдэнт з'явіўся і ў нас. Але калі ў 90-я гады адкрыты фестываль беларускай аўтарскай песні й паэзіі «Аршанская бітва» не быў абыдзены ўвагай беларускай прэсы, то гэтага не скажаш пра фестывалі новага тысячагоддзя. Да дзяржпрэсы ніякіх прэтэнзій па вызначэнні, але, відаць, і для нашых недзяржаўных СМІ гэты фэст не быў інфармацыйнай нагодай. Ім цікавей запаўняць палосы сваіх газет непрыхаванай бульваршчынай, пры гэтым выдаючы яе за падзеі нацыянальнага маштабу. Таму ёсць патрэба сказаць колькі слоў пра яго гісторыю.

Фестываль з 1991 года праходзіць на гістарычным месцы Аршанскай бітвы 1514 года — месцы ўпадзення рэчкі Крапівенка ў Дняпро, 13 кіламетраў ад Оршы. Адпаведна і дата яго правядзення прывязана да гэтай знакавай даты; фэст праходзіць у бліжэйшую да 8 верасня суботу. Дакладней будзе сказаць — у ноч з суботы на нядзелю. Таму любому і кожнаму мусіць быць ясна: гэта мерапрыемства фармату open air (трэба падумаць пра адпаведную сезону вопратку і намёт, усё астатняе — дровы, сцэна, узмацненне-асвятленне, беларускія барды й паэты — было «на месцы»). Аўтар ідэі фестываля — адзін з вядомых беларускіх выканаўцаў аўтарскай песні Андрэй Мельнікаў. З 2006 года фестываль зноў вярнуўся ад неўласцівага яму адзначэння Дня беларускай вайсковай славы да свайго ранейшага фармату — адкрытага фестываля беларускай аўтарскай песні й паэзіі «Аршанская бітва». Чаму? Дзень беларускай вайсковай славы сёння можа быць прывязаны да адной даты, заўтра да другой, а паслязаўтра — да трэцяй, у залежнасці ад таго, як павернецца кан'юнктура ў нашых палітыкаў. А фэст «Аршанская бітва», маю спадзяванне, заўжды будзе прывязаны да пэўнага месца і пэўнай даты. Ён і цяпер існуе, хаця, канечне, і не збірае цяпер па тры-чатыры сотні гледачоў, як раней. Збірацца людзям адпачываць разам на прыродзе недзе ў лесе наша заканадаўства пакуль што не забараняе. Хаця фактычна гэта амаль падполле.

У 90-я гады пра «Аршанскую бітву» пісалі газеты і давалі рэпартажы нацыянальныя радыёстанцыі. У 1995-м карэспандэнтка Белдзяржтэлерадыё Вольга Яроменка нават зрабіла тэлесюжэт для БТ. І яго нават паказалі. Хто можа ўявіць сабе нешта падобнае сёння? Аб нацыянальнай рок-музыцы і цяпер даволі шмат пішуць і гавораць Сяргей Будкін, Дзмітрый Падбярэзскі, Вітаўт Мартыненка, Таццяна Заміроўская, Анатоль Мяльгуй ды шэраг іншых журналістаў, а вось беларуская аўтарская песня практычна асірацела — ні рэцэнзій на запісы й канцэрты, ні аглядных ці аналітычных артыкулаў. За рэдкімі выключэннямі. Нібыта і самога жанру такога няма. Ды й магчымасцяў паказацца народу ў нашых аўтараў не так шмат: беластоцкая «Бардаўская восень», «Аршанская бітва» ды, магчыма, яшчэ «Талька» на Гомельшчыне — вось і ўсё. Астатняе — выпадковыя канцэрты, якія нярэдка яшчэ і адмяняюцца. Таму што арганізаваць сёння незалітаваны ідэалогіяй канцэрт — вялікая праблема. Не называю такія традыцыйныя фестывалі аўтарскай песні, як «Витебский листопад», «Острова», «Лицедейство старого города» ды яму падобныя, што квітнеюць па гарадах усёй Беларусі пры дбайнай падтрымцы і ўлады, і мецэнатаў. А там амаль няма беларускай аўтарскай песні. Прапагандуюць усе гэтыя фестывалі ды фестывальчыкі, аж да радыёканала «Культура», практычна адну расійскую аўтарскую песню.

А беларуская аўтарская песня адрозніваецца ад расійскай па тэматыцы. І даволі дрэнна сумяшчаецца з апошняй. Гэта заўважна было ўжо з першых фестываляў «Аршанская бітва» (пасля 1993 года выканаўцы расійскай аўтарскай песні туды прыязджаць практычна не сталі, бо адчувалі там выразны дыскамфорт). Бо тут розныя моўныя стыхіі, за якімі стаіць розны культурны і нават цывілізацыйны кантэкст. Ва Украіне, па маіх назіраннях, тое ж самае. Асабліва яскрава гэты феномен выявіўся ў час памаранчавай рэвалюцыі, калі ўся расійскамоўная папса стала за Януковіча, а ўкраінскія і рок, і папса — за Юшчанку...

Беларускім аўтарам сёння няма дзе выступаць: дарога ў дзяржэфір і на сцэну ім практычна закрытая. Хаця ў апошнія гады заўважаны сякія-такія зрухі: каб адвадзіць нашых выканаўцаў аўтарскай песні ад крапівенскага поля, іх цяпер сталі пускаць на літаратурныя праграмы радыёканала «Культура». Затое ўвага роднянькай чырвона-зялёнай дзяржавы адчувалася на «Аршанскай бітве» трывала і спецыфічна: пост ДАІ, які перапісваў нумары і дакументы ўладальнікаў аўтамашын. А рэйсавым аўтобусам «Орша-Дуброўна» абавязкова забаранялася (чаму, на якой падставе?) якраз у гэты дзень спыняцца на тым самым патрэбным усім прыпынку. І ўсё таму, што фестываль мае, па-першае, выразна нацыянальны твар, і, па-другое, — прывязаны да гістарычнай падзеі ды месца. А гістарычная падзея такая, што гэта нібыта ўжо і не гісторыя, не песні-вершы, а палітыка. Вось так: Лядовае Пабоішча — гісторыя, Кулікоўская бітва — гісторыя, Палтаўская бітва — гісторыя, Барадзінская бітва — гісторыя, Сталінградская бітва — гісторыя... А Аршанская бітва — палітыка. Угодкі Грунвальдскай бітвы ў Польшчы — гэта агульнадзяржаўнае свята, на мемарыял з'язджаецца дзясяткі



Фота www.bchd.info

Рэчка Крапіўна, каля якой войскі ВКЛ пад ачолам К. Астрожскага перамагло маскоўцаў

# імперыі


Узаранае плугам поле каля памятнага каменя


Пад аховай міліцыі


Выступае Андрэй Мельнікаў

тысячаў людзей з усёй краіны, прысутнічаюць прэзідэнт і кардынал-прымас...

У нас жа працягваецца імперская традыцыя ўзвелічэння перамогі ў Другой Сусветнай вайне. Што ж, для Расіі гэта несумненна была вялікая перамога, для Беларусі ж — вялікая трагедыя. Яшчэ адна ў доўгім ланцугу нашай трагічнай гісторыі. А калі гэта была перамога і для нас, дык дзе ж гэта бачна, каб краіна-пераможца, панёсшы такія страты ў гэтай вайне, у выніку перамогі зазнала яшчэ і тэрытарыяльныя страты — Беластоцкую вобласць, якая да пачатку вайны належала БССР? Падмена ўласнай гістарычнай канцэпцыі імперскай парадыгмай расійскай гісторыі ў яе савецкай рэдакцыі — яшчэ адна зацемка СССР, якая старанна захоўваецца, культывуецца і развіваецца на нашым абломку. Скажу больш: расійска-савецкая версія гісторыі гэтай вайны — самая ахоўваемая сёння дзяржаўная таямніца. Замест крапівенскага поля нам прапануюць «Лінію Сталіна», а замест Грунвальда — мемарыял у гонар бою 1812 года ля вёскі Студзёнка на Бярэзіне пад Барысавам. Ды толькі ці наша гэта гісторыя, хоць і звязаная з нашай зямлёй? Нам у гэтай іхняй гісторыі заўжды была адведзена толькі адна роля — роля ахвяраў ды гарматнага мяса. Прычым як для Расіі, гэтак і для яе ворагаў у аднолькавай ступені — ці то французаў, ці то палякаў, ці то немцаў...

Яшчэ адна асаблівасць крапівенскага фэсту — непадкантрольнасць як фундатарам, так і дзяржструктурам. І адсутнасць матэрыяльнага зацікаўлення для выступоўцаў. Максімум, на што можна разлічваць — карона «Аршанскай бітвы» ад мастака Алеся Пушкіна, які практычна сам і вызначае, каго ёю ўзнагародзіць. Ніхто не праводзіць папярэдняга праслухоўвання ды адбору выступоўцаў. І, як паказала практыка, гэтага і не патрэбна; уважлівы й зацікаўлены глядач — найлепшае журы ў свеце.

«Аршанская бітва» за гады свайго існавання паступова абрасла сваімі традыцыямі, сваімі заўсёднікамі і нават сваімі помнікамі. Але калі ў Польшчы поле Грунвальдскай бітвы пад Ольштынам — гэта месца нацыянальнае славы й гонару, калі ў Расіі Кулікоўскае і Барадзінскае палі, Сталінград — гэта месцы нацыянальнае славы й гонару, то ў нас такім месцам можа быць толькі гэтае крапівенскае поле. Большых па гістарычнай значнасці месцаў нацыянальнае славы й гонару на нашай зямлі гісторыя не пакінула.

...У верасні 2007-га меры, ужытыя для супрацьдзеяння фестывалю, былі беспрэцэдэнтныя. І размах асвятлення ў амаль выключна электронных СМІ гэтых падзей быў абсалютна несупастаўны з размахам правядзення аперацыі... назавем яе ўмоўна «Achtung, песни!» Баба Зіна з вёскі Гацькаўшчына, ля каторай штогод праходзілі фэсты, пабачыўшы, як пасля чарговай аблавы гоняць па вуліцы да шашы Орша-Дуброўна пад канвоем міліцэйскай аўтамашыны ды пешых міліцыянтаў гуртом моладзі з заплечнікамі ды гітарамі, сказала літаральна наступнае: «Ну прама як паліцыя ў вайну!». З таго, што перадавалі розныя радыёстанцыі ў тыя дні, што бачыў і чуў аўтар, седзячы практычна ўвесь дзень у Дубровенскім РАУС, што бачылі й чулі ўдзельнікі фэсту 8 і 9 верасня 2007 года блізу лужка ў вусці Крапівенкі, складваецца больш-менш поўная карціна той аперацыі. Яшчэ ў пятніцу, 7 верасня, падыходы да фестывальнага лужка былі перакрытыя двайнымі пастамі міліцыі. Як тлумачылі міліцыянты, паступіла паведамленне, што ў месцы ўпадзення Крапівенкі ў Дняпро ў рэчышчы ракі ляжаць снарады. Ах, як удала адшукаліся гэтыя снарады! А галоўнае — як своечасова. Хутка прыедуць сапёры з Віцебска, будуць шукаць іх ды абясшкоджваць. Сапёры сапраўды прыехалі, так што паведамленне аб снарадах не было блефам. Блефам былі самі снарады, бо іх там, як ні шукалі сапёры, знайсці не ўдалося. Пасты міліцыі стаялі там усю ноч. Ранкам 8 верасня (субота) па трывозе былі паднятыя Аршанскі і Дубровенскі РАУСы ў поўным складзе. Цікава, што прыцягнуты да аперацыі былі нават участковыя інспектары Аршанскага раёна, што здараецца вельмі нячаста. Не менш цікава, як ім тлумачылі мэты аперацыі: там собираются антиглобалисты, они будут переворачивать автобусы... Для правядзення аперацыі прыйшлося яшчэ падымаць і аддзелы ўнутраных спраў на транспарце Оршы, Магілёва і Віцебска, на чыгуначных вакзалах праводзіліся масавыя затрыманні ля электрычак усіх па-паходнаму апранутых маладых людзей, з дарожнымі сумкамі, заплечнікамі ці гітарамі. Тлумачылі ім гэта так: паступіла аператыўная інфармацыя, што вы з’яўляецеся наркакур’ерамі, таму дакументы — на стол, рэчы — на дагляд... Здымалі з рэйсавых аўтобусаў і маршрутак нават на аршанскім аўтавакзале, заварочвалі маршруткі ды таксоўкі. На аўтадарозе Горкі-Орша былі затрыманы некалькі мікрааўтобусаў з людзьмі, што кіраваліся на фэст. Больш таго: рэйсавым аўтобусам Орша-Дуброўна паводле вуснага распараджэння начальніка Аршанскага райаддзела міліцыі было забаронена спыняцца на прыпынках Крапіўна, Гацькаўшчына і Лугаўцы. Пасля 14 гадзін, калі пасажыры пачалі скандаліць, забарона на прыпынак Крапіўна, а пазней і Лугаўцы была знятая, але на прыпынку Гацькаўшчына аўтобусы ўвесь дзень 8 верасня так і не спыняліся. Дачнікам і жыхарам Гацькаўшчыны, якім трэба было выходзіць на тым прыпынку, прыйшлося дыбаць пешшу. На самой аўтатрасе ўвесь дзень і ўсю ноч шчыльна стаялі і раз’язджалі пасты ДАІ, аўтазакі ды машыны з віцебскім АМАПам, «падазроны» аўтатранспарт па некалькі разоў спыняўся. Былі нават задзейнічаныя спецмашыны, здольныя пеленгаваць мабільныя тэлефоны. Усе навакольлі вёскі Гацькаўшчына былі шчыльна насычаны стацыянарнымі пастамі ды аўтапатрулямі міліцыі, нават на супрацьлеглым беразе Дняпра былі расстаўлены пасты Дубровенскага РАУС, а па Дняпры патрулявала маторная лодка дубровенскай міліцыі. «Пад раздачу» патрапілі нават рыбакі, якія лавілі рыбу з лодкі на Дняпры вышэй Гацькаўшчыны.

Седзячы ў Дубровенскім райаддзеле, я быў міжвольным сведкам маштабаў разгорнутай аперацыі, радыёпераклічкі расстаўленых пастоў ды многага іншага. Уразіла манера службовых перагавораў, прынятая ў аператыўна-дзяжурнай службе дубровенскай міліцыі. Нават стрымліваючыся пры мне, не-не, ды ў перагаворах па радыё і тэлефонах перыядычна, як аўтаматныя чэргі, праляталі адборныя мацюкі. Тыя самыя, за каторыя цяпер наладзіліся даваць суткі ды штрафы ў масавым парадку ўдзельнікам акцый пратэсту ды й проста вядомым і не надта вядомым грамадзянам Беларусі.

Калі народ пачаў збірацца на беразе Дняпра, некалькі кіламетраў вышэй ад месца пошуку снарадаў, то там імгненна з’явілася міліцыя і пачала разганяць, а потым і забіраць людзей. «У нас тут стратегический объект!» — тлумачылі яны прычыну. «Стратегическим объектом» былі трава, хмызняк, бераг Дняпра і поле. Вокамгненна тут з’явіліся сапёры, і — во дзіва! — сапраўды неўзабаве знайшлі непадалёк на полі артснарад часоў вайны. Што снарад знайшлі, канешне, добра, але пасля гэтага стала абсалютна ясна, што ў сілавікоў стаяла іншая задача, чым перакрыць доступ на выбуханебяспечную тэрыторыю. Гэта тым больш відавочна, што праз метраў сто ад нібыта знойдзеных у Дняпры «снарадаў» месціцца масіў лецішчаў, але ніхто з іх гаспадароў не толькі не быў эвакуяваны, але нават не быў папярэджаны. За два дні (8 і 9 верасня) некалькі сотняў чалавек былі ў розных месцах затрыманы і дастаўлены ў розныя аддзелы міліцыі «для высвятлення асобы», а трое з іх асуджаны на тэрмін ад 5 да 7 сутак арышту (хуліганства). Яшчэ некалькі сотняў чалавек сабралася ў некалькіх месцах ля рэчкі Крапіўна і на беразе Дняпра, і фестываль прайшоў. Хаця і не так, як звычайна.

Уранні 9 верасня зноў пачалі падыходзіць міліцыянты. Прычына: «У нас есть информация, что вы — террористы, поэтому всем приготовить документы для проверки». Між тым забываліся артыкулы Канстытуцыі, якія гарантуюць грамадзянам краіны свабоду перасоўвання па яе тэрыторыі (арт. 30), свабоду і недатыкальнасць на яе тэрыторыі (арт. 25). Ніякіх законаў я не парушаў, як і многія іншыя, хто быў на берагах Крапіўны. Між тым праўёў без дай прычыны, без прад’яўлення абвінавачвання і складання пратакола адміністрацыйнага правапарушэння ў Дубровенскім РАУС шэсць з лішнім гадзін замест трох, як гэта прапісана ў законе. І быў адпушчаны а палове сёмай вечара. І, паводле афіцыйнага меркавання начальніка аператыўна-дзяжурнай службы Віцебскага УУС, які праводзіў па маёй скарзе афіцыйную праверку, усё было законна...

Улада, якая свядома і мэтанакіравана займаецца сістэматычным парушэннем ёй жа створаных і зацверджаных законаў, якая баіцца мінулага сваёй краіны, не мае будучыні. А вышэйзгаданы маразм можа знікнуць гэтак жа хутка і незваротна, як і ягоны прататып — чырвоны маразм пад назвай СССР.

# Чупрына



Анатоль ІВАШЧАНКА

Франак засынаў з цвёрдым намерам напісаць-такі гэты аповед.

Фабула й пэўныя дэталі былі прадуманыя. Ён ведаў, што ў часе напісання непазбежна ўзнікнуць новыя дэталі і сюжэт можа змяніцца кардынальна. Шмат што вызначаў рытм занатоўвання. Хацелася, каб аповед атрымаўся лаканічны й чытэльны, а Франак ведаў за сабой грэх у пэўным творчым шматслоўі (каб не сказаць занудонстве).

Часам кампазіцыя выбудоўвалася ў галаве вельмі ўдалая, а як пачаць — Франак не ведаў. Некалькі аповедаў так і засталіся ў зародкавых накідах праз тое, што немажліва было прадзерціся праз уласныя рэфлексіі. Гэта яму. А што тады казаць пра чытача?!.

Франак скончыў журфак. Два гады адпрацаваў па размеркаванні ў раёнцы і, зразумеўшы, што жыць у рэжыме перманентнага цэйт-ноту і дэд-лайну не ягоны метад, пайшоў у аспірантуру, скончыўшы якую, вярнуўся на журфак у якасці выкладніка. Што ён выкладаў — амаль не істотна для нашага аповеду, але пісьменніцкі сверб — хворасць, як вядома, невылечная — часам даваў пра сябе ведаць.

Гэтым разам Франак выдатна ўяўляў, з чаго пачаць, і нават накідаў невялікі планчык перад сном. Яго галоўны герой (імя пакуль не было, але дзеля пачатку хопіць і нейкай умоўнай літары), дык вось пачынаўся аповед з таго, што Галоўны Герой згадвае пра адзін з сваіх першых моцных успамінаў у жыцці…

Франак вырашыў, што аповед мусіць весціся ад трэцяе асобы. Можна пачаць неяк так: «Адным з першых моцных успамінаў у жыцці Г. Г. была сцэна абразання пазногцяў…» Пазногці абразалі яго малодшай двухгадовай сястрычцы-пагодцы. Ну і вось. Галоўны Герой ляжыць у ложку, у іх сумесны з сястрой пакой крадком заходзяць бацькі з нажніцамі: у бацькі — вялікія, для валасоў, у маці — манікюрныя… Удала падкараціўшы пазногці, абадзёраныя поспехам, бацькі вырашаюць паменшыць і даўжэзную грыўку малой. Галоўнаму Герою тым часам надакучае моўчкі ляжаць і назіраць. Яму хочацца, каб на яго звярнулі ўвагу, і ён пачынае штосьці мармытаць, нібыта ў сне. У гэты час бацька прыставіў быў вялікія нажніцы да пухнатых валосікаў малой. Тая расплюшчыла вочы, пабачыла бацьку з нажніцамі й пачала дзіка раўці: «Ваёсікі-ваёсікі, ня т’эба ваёсікі!..»

Прачнуўся Франак, поўны імпэту працягнуць. Агульны сюжэт аповеду ці, праўдзівей, яго кульмінацыйная частка, была ўзятая, як кажуць, з жыцця. Былая Францішкава дзеўчына распавяла неяк пра хлопца — як кажуць, знаёмага знаёмых — наступную гісторыю. Хлопец моцна захапляўся музыкай. Лабаў у школьнай ці то гранж, ці то панк-бандзе на басусе. Выгадаваў сабе даўжэзную грыўку да носу плюс уся адпаведная атрыбутыка (касуха, бандана, фенькі й да т.п.). Ягоны бацька быў катэгарычна супраць сынавых захапленняў. Да ўсяго, ён выкладаў у гімназіі, якую той заканчваў. На развітальным званку мусіў граць гурт хлопца. Бацька сказаў сыну, каб той і не думаў нават выходзіць на сцэну ў сваёй падранай касусе ды іншым лайне і абавязкова пастрыгся. Хлопец жа не проста не паслухаўся, але яшчэ й пафарбаваў чупрыну ў ружовы колер. Бацька, пабачыўшы, што яго загад не проста не выкананы, але яшчэ й засцябаны, дэманстратыўна сышоў з канцэрта.

Наступнага ранку, перад першым выпускным іспытам, хлопец прачнуўся, пайшоў у лазенку й больш ніколі не выйшаў адтуль. Уначы бацька састрыг ягоную ружовую чупрыну. Пабачыўшы сябе ў люстэрку, сын павесіўся на бялізнавай аборцы…

Франак не зусім уяўляў, як трэба раскручваць псіхалогію паводзінаў персанажаў задуманага твора. Акрамя бацькі з сынам, неабходна было ўвесці й іншых сямейнікаў, а таксама школьных сяброў, магчыма, настаўнікаў. Такім чынам, пра тое, як будзе пачынацца і чым заканчвацца аповед, Франак ведаў. Але з сярэдзінай-кульмінацыяй, вытлумачэннем псіхалогіі ўчынку галоўнага героя было значна цяжэй. З уласнага досведу ён нічога ўзяць не мог: стасункі з бацькам у яго былі добрыя. Звыш за тое, сяброўскія.

У Франака быў сябра Зміцер, які пад піва часам скардзіўся на свайго «старога». Маўляў, той усю дарогу падаўляе яго асобу. Зміцер казаў, што ў іх дома заўжды лунаў дух таталітарызму (тата-літарызму, як ён з сумам жартаваў). З школьных гадоў ён чакаў бацькавага прыходу з працы з унутраным жахам і трымценнем. Прыходзячы, той першым чынам пачынаў правяраць урокі, дзённік, пытаўся ці памыты посуд і выкананыя даручэнні. Зміцер і цяпер, у свае 24, не мог нічога з сабой зрабіць, калі да яго ў новую кватэру на госці прыходзілі бацькі…

У Змітра была цэлая тэорыя, якой ён вытлумачваў свае пакуты (Франак не ведаў, ці ён сам да таго дадумаўся, ці вычытаў дзесьці). Сутнасць той тэорыі такая. У малалецтве бацька быў для Змітра галоўным аўтарытэтам і героем. Усё, што казаў бацька, было Законам: па першым патрабаванні трэба было кідаць усе свае справы й выконваць бацькава заданне. Далей, трохі пасталеўшы, Зміцер заўважыў, што бацька далёка не ідэальны. Усе праявы чалавецкасці — нямытыя ногі, раскіданыя па кватэры шкарпэткі, праседжванне перад тэлескрыняй, чытанне шырпатрэбу, клішавана-банальныя погляды на жыццё, што падносіліся ў выглядзе жыццёвай мудрасці ды шмат іншае драбязы — пачыналі набываць гіпертрафаваную форму. Зміцер заўважаў, што ў тым, за што бацька папракаў яго (ад навядзення парадку да трымання слова), часцяком сам ён не ёсць эталонам. Па Змітровым гамбургскім рахунку ўсё тое было страшнай правінаю і грахом…

Бацька Змітра загадваў кафедрай на мехмаце і з дзяцінства рыхтаваў сына да паступлення ў тэхнічную ВНУ. З бацькоўскімі падвязкамі тое не склала б вялікіх цяжкасцяў. Але Зміцер, набраўшыся смеласці, неяк паведаміў, што матэматыка — гэта не яго, і ён хоча паступаць на гуманітарную спецыяльнасць. Бацька, на здзіў, па-філасофску паставіўся да гэтага паведамлення. Атрымаўшы больш волі, Зміцер стараўся як мага пазней вяртацца дахаты. Паступова ён знайшоў, куды збегчы — туды, дзе бацька не меў над ім улады й кантролю. Тое былі ўцёкі ў краіну слоў. Слоў з дзівоснай мовы — мовы жывапісу…

Акрамя ўсяго (найвастрэй — у падлеткавым узросце), Змітра абцяжарвала тое, што ён скрозь быў усім абавязаны бацьку. Бацька «набыў» (так ён сам часам казаў) сыну пасведчанне кіроўцы. Бацька ўладкаваў яго на ваенную кафедру, дзе быў жудасны конкурс, пасля бацька набыў ім з жонкай кватэру, даў грошай на машыну і наагул увесьчасна падкідваў лавандосу (Зміцер пра тое ніколі не прасіў, але адмова, найхутчэй, была б успрынятая як смяротная абраза).

Па ўсім выглядала, што без бацькі Зміцер — нуль. Атрымлівалася, што самастойна ён нічога ў жыцці не дасягнуў. Адзіным, што Зміцер да пэўнага часу мог запісваць на свой рахунак, было паступленне на бясплатнае месца журфаку. Але аднойчы за чаркай (праз шмат гадоў пасля заканчэння ВНУ) бацька абмовіўся пра нейкага знаёмага чыноўніка, які дапамог «паступіць сына».

Франаку сябравы прэтэнзіі падаваліся смяхотнымі. Ён спрабаваў супакойваць яго, кажучы, што бывае значна горш — і п’юць, і б’юць, а тут чалавек стараецца дзеля яго, усё нясе ў сям’ю. Тут дзякаваць трэба. На тое Зміцер адказваў, што лепш бы бацька быў алкаголікам, але разумеў яго й ставіўся да яго як да роўнага…

Франак ведаў Змітра з першага курсу. З таго часу сябра моцна паспакайнеў у адносінах да бацькі, юначы пратэст паступова сышоў. Зміцер стаў амаль культавым мастаком-графітыстам, як дызайнер інтэр’еру аздобіў не адзін сталічны клуб. Зміцер пісаў някепскія вершы. З галавой кінуўся ў жыццё палітычнае, бывала, выступаў на забароненых мітынгах (раней Зміцер казаў: «Цяжка жыць у краіне з двума дыктатарамі», параўноўваючы свайго бацьку і «Бацьку» ўсеагульнага). Аднойчы падчас зусім інтымнага распіцця на двох Зміцер прызнаўся, што ў глыбіні душы для яго заўжды вельмі важным было татава меркаванне пра яго творчасць, якая, ён разумеў гэта, узнікла як супраціў бацькоўскаму выхаванню. Што праўда, бацька Змітра не быў вялікім аматарам ні жывапісу, ні мастацкага слова. Хай сабе й сынавага…

І яшчэ Зміцер казаў, што ўдзячны бацьку ў тым, што ён цяпер дакладна ведае, як не будзе выхоўваць свайго сына.

Франак вырашыў узяць гісторыю ўзаемаадносінаў Змітра й яго бацькі ў якасьці мадэлі для свайго аповеду. Натуральна, крыху ўзмацніць канфлікт, дадаць ступені супраціву, але магістральны момант — Змітрову «тэорыю» пакінуць. Паснедаўшы, Франак вырашыў, што для таго, каб аповед пачаў абрастаць «мясам», трэба ўвайсці ў моўную стыхію сучасных музы́каў. З мэтай паднабрацца адпаведнае лексікі ён завітаў на форум гітарыстаў. Трохі пачытаўшы пра сутарагі вялікага пальца, ігру слэпам, прымочкі, комбікі ды іншы «дэвайс», ён зразумеў, што наўрад ці знойдзе тут шмат карыснага. З форуму Франак (плаўна й незаўважна) пераскочыў на фрэндстужку, даведаўся, каго й дзе днямі затрымалі, хто й кім быў пакрыўджаны (начальнікамі, бацькамі, каханымі…), пачытаў канцэптульныя думкі пра светабудову, падзяліўся сваімі й ледзь паспеў на заняткі. Былі чатыры пары. Ён у пятнаццаты раз прамовіў адзін і той жа тэкст, задаў студэнтам адныя й тыя ж пытанні ды атрымаў чаканыя шаблонныя адказы…

Увесь час яго не адпускала задума аповеду. Ён пачаў ужо сумнявацца ў слушнасці абранае кампазіцыі. Што дадуць гэтыя экскурсы ў глыбокае дзяцінства? Банальшчына. Падобныя фрэйдыскія хады ўсім набілі аскоміну. Можа, варта закруціць сюжэт? Няхай чытач адразу будзе ведаць пра суіцыд. Няхай малады следчы будзе раскручваць усю справу, і ў выніку высветліцца, што Галоўны Герой наклаў на сябе рукі не праз бацьку, а праз… скажам, здраду каханай. З абразання валасоў герой толькі горка пасмяяўся й вырашыў «падставіць» бацьку (хай цяпер пакутуе ўсё жыццё, абдумваючы выхаваўчыя хібіны).



**Усё, што казаў бацька, было Законам: па першым патрабаванні трэба было кідаць усе свае справы й выконваць бацькава заданне**

Пасля па́раў Франаку раптоўна-нечакана патэлефанаваў Зміцер, з якім яны ўжо сто гадоў не чуліся. Франак успрыняў гэта як несумненны знак і прыклаў усе намаганні, каб выцягнуць сябра на піва.

Была сярэдзіна кастрычніка, і зіма толькі вастрыла сваю касу. Яны сядзелі ў скверы з напаўапалым лісцем. Уздоўж дарожкі ля дрэваў стаялі вялікія чорныя пакеты з расчлянёным трупам восені. Раптам Франак сказаў: «Ведаеш, а вы з бацькам дужа падобныя». «Чым гэта?» — пацікавіўся Зміцер. «Ды ўсім. Антрапалагічна. Звычкамі, рухамі. Хістаецеся аднолькава, калі сядзіце — бы ківачы… І галасы ў вас аднолькавыя — па тэлефоне не адрозніць. Ты не думаў, што ненавідзіш бацьку праз тое, што падсвядома не любіш сябе?» «Ну, ведаеш…» «Пачакай злавацца. Можна перафармуляваць: ты ненавідзіш у сабе бацькавы заганы! Тут жа ўсё ўзаемазавязана. Так, вонкава вы цалкам розныя. Ты — інтэлектуал, ён — па тыпу прол. З дзяцінства ён смактаў з цябе сокі, прымушаў да паслухмянасці, усё так. Праз гэта ты пачаў наўмысна рухацца ў супрацьлеглы бок. Ты жыў у пастаяннай напрузе, спробе давесці сваю вартасць (ці не яму перадусім?). Ды ў цябе ж праз твор эдыпаў комплекс. Праз гэты супраціў ты згубіў сябе, згубіў сваю мэту. Па сутнасці вы — аднолькавыя. Розны толькі вектар!» — Франак разумеў, што хапіў лішку, але не мог спыніцца. Зміцер пакрыўдзіўся, пачаў аспрэчваць, пасля пагаджацца, пасля Франак пачаў выбачацца, яны ўзялі яшчэ па пляшцы…

«Ведаеш, я яго не ненавіджу. Цяпер — не. Відаць, я яго нават люблю. Я ўдзячны, што ён дапамог мне знайсці сябе. Зараз ты пачнеш мне расказваць пра Стакгольмскі сіндром? Я гляджу, як ён старэе, і ў мяне сціскаецца сэрца. Я ведаю, што калі яго не стане, мне будзе цяжка жыць з асадкам сваёй ранейшай нянавісці. Я даўно ўсё дараваў. Зрэшты, я яшчэ ў чатырнаццаць гадоў ведаў, што члены адной сям’і рэдка нараджаюцца пад адным дахам».

Позна ўвечары Францішак пераглядаў свае накіды. Ну добра, апіша ён стасункі Змітра з бацькам. Але як супаставіць іх з тым клятым чупрынавым суіцыдам? Да ўсяго, сам Зміцер, які прачытае й пазнае ў аповедзе сябе й сваю тэорыю — ці будзе яму даспадобы такі плагіят? Ды і наагул. Што і каму ён хоча давесці сваім аповедам? Калі па шчырасці, навошта ён піша? Ды й хто ён, зрэшты, такі, каб раскручваць матывы самагубцы? А вынаходзіць новага Эраста Пятровіча ні часу, ні натхнення не было.

У Змітра ж тыповае горе от ума. Ніхто, вядома, не апраўдвае бацьку-дэспата, але й таго трэба зразумець. Самога ніхто ў дзяцінстве не песціў. Бясстрэсавае выхаванне ў саўку не вызнавалася. Лакцямі праціскаўся праз жыццё. А тут адзіны сын: вось ён быў гліна, аж раптам пачаў выдурвацца. Нешта там сабе накручваць. Кафку чытаць. І ні слова ўдзячнасці. Скуль бацьку ведаць пра ўсе тыя сентыментальныя загоны?..

Франак адклаў асадку. Было зразумела, што гэты аповед ужо не напішацца. Магчыма, — і да лепшага.

# Светаяннік і свет



Юрка ГОЛУБ



### Гістарычнае

*Стаяў Баторы ля стырна.*
*Драмалі Мелавыя горы.*
*Тады іх няньчыла сурма.*
*Стагоддзі спавівалі горад.*

*На Фары Вітаўта званы*
*Чакалі сонца ранні подых.*
*А іх дарадцы — перуны —*
*З нябёс зыходзілі на подзвіг.*

*Заплеснявелы скарб манет…*
*Сярод прыгод згубіўся талер.*
*За намі сто гадоў міне —*
*Навошта талер пакаралі.*

*Непадуладны свет штыкам,*
*А падуладны ўсё ж алоўку.*
*Хто гвалту хіжа патакаў —*
*Заўчасна слабкі на галоўку.*

*Фарты агортвае палын,*
*А побач ноч губляе сажу.*
*Пра тых, хто плішчыў і паліў,*
*Забіты камень не раскажа.*

### Шаша

*Дзе лес, рассечаны агнямі,*
*Шашы дазволіў паварот,*
*Гула машына. Гром згубнявіў.*
*І час пайшоў наадварот.*

*…было мястэчка… праязджалі…*
*…стаяў на ўзгорку белы храм…*
*…там хрысціць дзетак… нараджалі…*
*…калісь цябе хрысцілі там…*

*Над дном празрыстае купелі*
*Табе шапталі бор і ўзор.*
*А гук мясцовае капэлы*
*Пяшчотна плыў у лона зор.*

*…было мястэчка… праязджалі…*
*…стаяла школа… ціша… гам…*
*Тут скрыжаваліся скрыжалі…*
*Твой голас сціх таксама там…*

*Ды не! Зайздроснага юнацтва*
*Памкнуўся зноўку наўздагон,*
*І з ім не звыкліся спазняцца*
*Вада, нябёсы і агонь.*

*…было мястэчка… праязджалі…*
*…рака… забыта… млын… карчма…*
*…і мне пад сэрца жалю джала…*
*… і памяць падае старчма…*

*…Застаўся лес па-за агнямі.*
*Шашу спраміў уласны чын.*
*А стрэлкі, што назад ганялі,*
*Цяпер брыдуць у далячынь.*

### На Ганненскім свяце ў Зэльве

*Сюды — на зэльвенскі кірмаш —*
*З-за свету пры́гналі коней.*
*З-за храпы не хапаў мандраж:*
*Вунь коні з водсветам кароны.*

*Тады ж у — яблыках — каня*
*Былі падстава і пастава*
*Капытам — шась! — па камянях,*
*Гары ты гарам цемра стайні!*

*Тады ж у — гнедага — арла*
*Ляцелі з воч шалёна іскры.*
*Наводдаль піва не «з гарла»*
*Цадзілі, каб імпэт не высах.*

*Тады ж — бялюткі — жарабок,*
*Цураўся скусу і прымусу.*
*Ды цукру белага драбок*
*Ад пані храпнуў напрыкуску.*

*Купцоў галёкала гайня.*
*Каня на грош не прамяняеш.*
*І грыву ўласнага каня*
*Вунь лашчыць Зэльва прамянямі.*

*У чорнай масці — жарабок*
*Сябе не лічыць за ляніўца.*
*І тое ведаю — дальбог! —*
*Гатовы з ім — як вершнік — зліцца.*

### Ліхтар

*У ліхтара свая пара́:*
*Ён цемру паласуе.*
*Яму, як старажу двара,*
*Такі расклад пасуе.*

*У ліхтара сваё чытво —*
*Заседзяцца за поўнач.*
*Як не чытво, тады шытво:*
*Расклад таксама поўны.*

*У ліхтара свае правы:*
*Сляпіць зладзеям зрэнкі.*
*Скакаць праз хлісткіяравы,*
*Ісці на шпа́цыр зрэдку.*

*У ліхтара свая бяда:*
*Асочыць снайпер-сволач!*
*І след крывавы, дзе будан,*
*Ляжыць, як чорны волак.*

*У ліхтара, як званара,*
*Наўсцяж свае пражэкты.*
*Не любім месц, дзе ноч-нара,*
*Шануем, дзе пражэктар.*

### Салавей

*Трапны час. Не да смешак.*
*Пішуць ноч ліхтары.*
*Новай сцежцы дамешак*
*Да дарогаў старых.*

*Шыхавала на полі.*
*Шанцавала ў баі.*
*І біклагу напоўніць*
*Шанцы ўсюды былі.*

*Даць натхненню задатак*
*Сам наперад паспеў.*
*За бар'еры ад датаў*
*Выпіхаў хваласпеў.*

*І ка́пі, і капліца.*
*Ярына і струна.*
*Здолеў сам наталіцца:*
*І шаптаў, і кранаў.*

*Сталі поруч, як свечкі,*
*Светаяннік і свет.*
*Неабвержныя сведкі*
*Пералётаў і лет.*

*Жытка топіцца ў нотах,*
*І ратунку — ані…*
*Салавейка пяшчоты.*
*Салавей-ананім.*

### Мястэчка. Ранак. Сакавік

*Бляшаных дахаў пэндзаль не кранаў,*
*І яны світаюць паступова.*
*І сады на цьмяных каранях*
*Мкнуцца лісця наталіць па новай.*

*За штыкетнікам чатырохногі звер*
*Гучна навакольле бударажыць.*
*Раніцой адчулі пэўны сверб*
*Шпак цвярозы і з пахмелля бражнік.*

*Заіржаў без дайпрычыны конь.*
*Чмыхнуў трактар.*
*Свіснула чыгунка.*
*Толькі снег, асуджаны на скон,*
*Не азвецца ўжо рыпучым гукам.*

*Пошта. Крамы. Селішча буслоў.*
*Асяродкі праведнага руху.*
*Ды маўчыць дынамік. Срэбра слоў*
*Знесла ў лютым чэлядзь завірухі.*

*Думкаю асвечана царква:*
*Як азначыць лёсы прыхаджанаў.*
*Точыць камень кропелька з цурка,*
*Што цячэ з Сусвету.*
*Пажаданы.*

### Да пытання аб пытальніку

*Пад вечар за шызым акном*
*Пляскатыя птушкі лягалі.*
*І гахаў чырвоным кайлом*
*Па сказах бамбіза-пытальнік.*

*Чаму?*
*Для чаго?*
*І куды*
*Вы цягнеце баржу-аповесць?*
*Ляцелі з адхону склады.*
*І рвалася з воблакам повязь.*

*Пытальнік гарбаты, як корч,*
*Цыбытыя песціць законы.*
*Не дышла яны. Ды апроч,*
*Да іх падыход рызыкоўны.*

*Пытальнік стаміўся? Не змог*
*Узняцца рашуча на рэю?*
*Унікну той весткі, дальбог,*
*Калі ўжо й вадзіцу нагрэлі.*

### Дзівак

*Па сухазем'і і балоце*
*Ішоў ён босы, пілігрым.*
*Збаны гайдаліся на плоце.*
*Віліся рэкі акі дым.*

*Закладнік зябкага начлегу,*
*Чаляднік з'езджаных Стажар,*
*Дзе ветры стомлена палеглі,*
*Вандроўку меў за боскі дар.*

*Яму дзівіліся ў харчэўні.*
*Жанкі глядзелі наўздагон.*
*Ён іскры нёс, як носіць чэрвень*
*Агням рыбацкім свой агонь.*

*Аб плечы гахаў град шалёны.*
*Спакой пастаўлены на кон.*
*Сплывалі воблакаў шаломы:*
*Стрыножана зайздросціў конь.*

*Мяняць не стаў сабе напрамак.*
*Штукар.*
*Празорца.*
*Філантроп.*
*Жыццю наладзіў сам направу:*
*Шляхі за пазуху загроб.*

*Няхітры скарб змясціла тэчка.*
*Дарог разломы — не дыхні.*
*Схапіў маланку за вуздэчку —*
*І хоць бы хны!*

### На пераломе

*Перакрэсляць межы журавы.*
*І хвілінай стратнаю падасца:*
*Іхні шнур, высокі і жывы,*
*Завісае ў неба на паддашку.*

*На прыгорблены хрыбет лясоў*
*Восень багры кінула радзюшку.*
*Там ласіха чубіцца з ласём.*
*(Але тое забярэм у дужкі.)*

*Тайну рэк разгадвае аер.*
*І пра лета ўзгадвае атава.*
*На званіцы недасяжных сфер*
*Гром апошні — ледзь чутно —*
*картавіць.*

*…Будзем, дружа, жыць як набяжыць.*
*Бо няма ж куды цяпер падзецца.*
*Ашчадкніжку, што прыдбаў-нажыў,*
*Раздраконіць, мабыць, давядзецца.*

*Харч і абавязкі — напалам.*
*І вакно фіранкай загародзім.*
*Будзе печка весела паліць,*
*А ваўкі калець на агародзе.*

### Лёд

*На лёд каціласа завея,*
*І той завею ў легцы нёс.*
*Чапляцца інею за веі*
*Дапамагаў цішком мароз.*

*Дзе рэчка рэчышча скруціла,*
*Штыкаста падступаў аер.*
*Яго не знішчылі трацілам —*
*Нябесная зоркі кавалер.*

*Лыжня на беразе запала.*
*Раней тут звер пакінуў след.*
*Зара з агністага запалу*
*У багру акунала свет.*

*Стаяў у наледзі альхоўнік,*
*Прамы, як слёзка — не крывы.*
*(Вось так стаіць ля брам ахова.)*
*…Патрасным здаўся краявід.*

# Чорны кот
## (Старонкі рамана)



Валерый КАЗАКОЎ

— Ягор Кузьміч, а ці была наогул гэтая «Чорная котка»? Я вунь у нашых падручніках шукаў, у бібліятэках і ў адкрытых, і ў сакрэтнай шукаў, увесь айчынны інтэрнэт і літаратуру перашуфляваў — усюды нічога няма. Нешта каламутнае толькі «з-за бугра» прасякае — і ўсё. Можа, гэта звычайная выдумка, што прыляцела да нас з Захаду?

— Якія вы маладыя ўсе скорыя, — стары з цяжкасцю падняўся са свайго фатэля, нейкі час пастаяў, упёршыся рукамі ў паясніцу, нібы даючы магчымасць бітаму-перабітаму хрыбетніку выпраміцца, шчыльней зацягнуў на поясе тоўстую, ужо амаль выцертую пуховую хустку і , ледзь адрываючы ногі ад падлогі, рушыў да велізарнай — ва ўсю сцяну — кніжнай паліцы. Наогул, трэба сказаць, што жытло гэтага чалавека, які ўжо дажываў свой век, у асноўным складалася з кніг і сотняў, а можа і тысячаў размаітых тэчак. Стэлажы былі ўсюды, нават у прыбіральні, па абодва бакі ад дзвярэй віселі паліцы з нейкімі часопісамі і кнігамі.

Рухаўся стары амаль бязгучна, ён не цягнуў ногі і не шаргацеў па сцёртым паркеце такімі ж, як і сам, старымі растаптанымі тапкамі. Ён плаўна адрываў ступні на нейкія міліметры ад падлогі, сунуў іх наперад і асцярожна апускаў; атрымлівалася складна і нават пластычна.

— Кот, Слаўка, кот тады вадзіўся ў нашых лясах, а не котка. Наогул, дурная гэта была гісторыя і здарылася яна ў самы дурны час. Наогул жа… — стары спыніўся і, апусціўшы акуляры амаль на самы кончык носа ды гледзячы на свайго маладога суразмоўцу, дадаў з хітрынкай у голасе: — На нашым з табой фронце толькі дурны час і ёсць, іншага там і не бывае. — Ягор Кузьміч спыніўся перад стэлажом, паправіў акуляры, прыглядзеўся да кніжных шэрагаў і адразу ж дастаў худую тэчку з зеленаватага кардона, заціснутую паміж таўшчэзных кніг. — Кот, кот, а чаму кот — ніхто толкам тады і не ведаў. Помню, начальства вельмі неўзлюбіла гэту жывёліну, і варта было нам, маладняку, штосьці сказаць пра кашэчае жыццё — усё, разнос быў гарантаваны, — стары ціхенька засмяяўся.

— Вы чаго смеяцеся? Пра разнос ці пра катоў нешта ўспомнілі?

— А-а, пра тое і пра другое. Мы тады з лясоў вярталіся, стомленыя, брудныя, зарослыя, але амаль заўсёды шчаслівыя, калі ўсім жывымі даводзілася выбрацца. Жыць тады, Слава, хацелася, аж дыханне перахоплівала. Вайна ж скончылася. Мір, радуйся, жыві! Многія хоць і маладыя, а паваявалі ўжо. А тут на табе: і мір, і вайна, усё табе разам. Ад горада ад'ехаў нейкія кіламетраў з дваццаць — і вунь яна, смерць, ужо з-за куста ці з лагчынкі за табой сочыць. Дурны, кажу, тады быў час.

Дык вось, з гэтых сваіх паездак пачалі мы ва ўпраўленне ўціхую прывозіць кацянят, і стараліся, каб кацяняты тыя былі чорненькімі. Прывязем, пакормім, жывёліна куды-небудзь зашыецца і спіць. Мы па дамах. Ды якое там па дамах! Амаль усе ў інтэрнацые жылі. А раніцай толькі і чуваць: чорны кот, чорны кот! Дзе, хто, адкуль?! Усе кідаліся лавіць і выкідваць бяскрыўдную істоту. Дзень пачынаўся весела. Нам бы хто з начальства хоць бы намякнуў што пра ката гэтага чорнага… Сам Цанава забараніў не тое што згадваць, але і думаць нават аб тым.

І вось пасля адной з аперацый бралі мы пад Маладзечнам паліцая-адзіночку, усё прайшло спакойна, нават без страляніны. Колька Смоліч на тым закінутым хутары ўзяў з сабой здаравеннага кашака, чорнага, як вугаль, толькі кончыкі пярэдніх лапак дымчатыя, прыгожыя. Дадому ўзяў. І трэба ж было яму, адразу пасля прыезду ў Мінск, на ганку ўпраўлення амаль нос у нос сутыкнуцца са самім наркамам. Кот на руках мурлыкае… Колька выцягнуўся, як і належыць, руку да брыля — а кот да лакаваных ботаў Самога і скаціўся!

— Што гэта? — пытаецца Цанава.

— Кот, таварыш наркам! — адказвае яму Колька і спрабуе ката нагой адагнаць.

— Які яшчэ кот?

А гэты дурань вазьмі ды ляпні:

— Чорны!

Што тут пачалося! Думалі, і Кольку, і нам усім, хто стаяў побач, канец прыйшоў. Тады расправа хуткай была. Ці жарт: самому Цанаву не дагадзілі, а ён не проста генерал, а асабісты стаўленік Берыі, ягоны зямляк!.. Добра, давай глядзець, што тут у нас…

— Ягор Кузьміч, ну нельга ж так! Справа з катом чым закончылася?

— Добра закончылася. Цанава гарланіць, а кот давай аб ягоны бот церціся, разумны кот трапіўся. Наркам сумеўся. «Што гэта з ім?», — пытаецца. Колька выразна яму і дакладвае: «Дык гэта ён чуе, хто ў доме гаспадар!» Цанава зарагатаў, і ўсе за ім. Так і абышлося. Кольку, праўда, праз тыдзень перавялі ў Гродна, з вачэй далей, там ён у Налібоках і загінуў. Ды досыць аб тым, на вось, глядзі, — працягнуў Ягор Кузьміч хлопцу тэчку, — а я пакуль пайду тваёй гарбаткі завару. Песціш старога, у самога, мусіць, грошай як той кот наплакаў?

Тэчка была старой, нейкага бялёса-зялёнага колеру, з чырвонымі, моцна завязанымі матузкамі. Чарнільныя надпісы на разлінаваным па сярэдзіне шэрым квадраце ад часу выцвілі і амаль ужо не чыталіся. Патрэбна было больш святла.

— Ты там давай не саромся, сядай да бакавога століка ды лямпу запалі! — крыкнуў з кухні стары.

— Вось дык дзед! — з захапленнем падумаў Вячаслаў, уладкоўваючыся за невялікім столікам, прысунутым ушчыльную да падваконніка. Запаліў святло. Калісьці акуратна выведзеныя асадкай літары ператвараліся ў мудрагелістыя, злізаныя часам іерогліфы. У правым верхнім куце тлустым сінім алоўкам красаваліся задвукосенныя літары «ЧК». Сэрца забілася часцей: «Няўжо? Быць гэтага не можа! Аддаць амаль год на пошукі хоць нейкіх звестак на гэтую пастаянна знікомую тэму — і вось на табе: «ЧК»! Літаркі гэтыя відавочна пазначалі не першапачатковую абрэвіятуру яго грознага ведамства. Дакументы, затоеныя ў гэтай някідкай тэчцы, хутчэй за ўсё мелі дачыненне да жаданага «Чорнага ката». Цяпер вось развяжу матузкі і…

Першым у тэчцы ляжаў пажоўклы аркуш з выпіскай з рашэння закрытага пасяджэння бюро ЦК КП(б)Б ад 13 снежня 1945 года, усяго паўстаронкі тэксту, які складаецца з двух пунктаў. У першым канстатавалася, што пераважная большасць насельніцтва БССР, у тым ліку і заходніх яе абласцей, з радасцю ўспрынялі сваё вызваленне ад фашысцкай акупацыі і актыўна ўключыліся ў працу па аднаўленні разбуранай вайной народнай гаспадаркі. Аднак у рэспубліцы яшчэ засталася значная колькасць былых паліцаяў, членаў іншых прафашысцкіх арганізацый ды іх памагатых. Партыйныя, савецкія органы і работнікі абавязаны аказваць актыўную дапамогу органам НКУС у іх выяўленні і ліквідацыі.

Другі пункт даслоўна абвяшчаў: «Асобныя кіруючыя таварышы, у асноўным раённага і мясцовага ўзроўняў, часам, дапускаючы выпадкі панікёрства, перабольшваюць небяспеку, якую наносяць грамадству гітлераўскія недабіткі, і спрабуюць прадставіць адзінкавыя выпадкі праяў бандытызму як арганізаваны супраціў савецкай уладзе, якое абапіраецца на разгалінаванае нацыяналістычнае падполле. Гэта недапушчальна».

Ніжэй алоўкам было нешта напісана, а пад запісам ледзь відневаліся тры калонкі лічбаў і нейкіх пазнакаў.

— Вось табе, Слава, лупа і гарбата, — амаль над самым вухам нягучна вымавіў Ягор Кузьміч.

— Таварыш палкоўнік, гэтак жа і заікай можна зрабіць, — уздрыгнуў ад нечаканасці малады чалавек. — Цікавы дакумент, — ставячы на стол кубак з гарбатай, кіўнуў ён галавой на раскрытую тэчку.

— Маёр я, Слава, проста маёр. Ведаю, што ты мне хочаш запярэчыць. Сапраўды, быў падпалкоўнікам, але разжалаваны з цалкам рэвалюцыйнай фармулёўкай: «За страту палітычнай пільнасці і бытавую распушчанасць». Доўга з такім кляймом, ды яшчэ і пераводам з членаў партыі ў кандыдаты, я на апаратыўнай працы не затрымаўся і быў, з улікам былых заслуг, адпраўлены камандаваць ведамасным архівам. Вось такія справы… Так што маёрам і звольніўся. Гэта ўжо потым у запасе нейкі разумнік дадумаўся — і мне яшчэ раз, курам на смех, прысвоілі падпалкоўніка, да даты або да нейкага свята — ужо і не памятаю. Так што майго цяперашняга падпалкоўніка можна спакойна прыраўняць да палкоўніцкіх пагонаў Жыруноўскага… А вось у лес цябе з сабой я б не ўзяў, — рэзка змяніў тэму стары чэкіст.

— Гэта чаму ж? Я спартовец, выдатнік па ваенізаваным кросе і арыентаванні. Тэсты на выжыванне не горш за іншых здаў у свой час.

— Глухі ты, вушэй на патыліцы няма. Я вунь з кухні ішоў, лыжка ў кубку бразгала, рукі ж ужо трасуцца. Яшчэ вунь паперку скінуў, калі лупу на сваім стале браў.

— Вы гэта сур'ёзна? Я ж вось на… — хлопец пакрыўджана ткнуў пальцам у тэчку.

— Чытаў, напэўна? Ды так уважліва, што і слых прытупіўся? — здзекліва спытаў стары. — А вось амаль дзевяностагадовы дзед падышоў да цябе, а ты і не пачуў, вунь здрыгануўся, калі пачаў размаўляць. Будзь гэта ў лесе ці яшчэ пры якіх абставінах — і ўсё, праз тры дні ўжо б і жалобныя залпы над тваёй магілкай прагучалі. Ты давай толькі не крыўдуй і ў зануды мяне не прыпісвай. Калі ступіў на сцежку контрвыведніка, то абавязаны заўсёды і да ўсяго быць гатовым. Добра, — стары прымірэнча паляпаў хлопца па плячы, — чаго ты там ужо нагледзеўся, як ты кажаш, цікаўнага?

— Толкам яшчэ нічога і не прачытаў, — пакрыўджаным голасам адазваўся малады чалавек, — толькі першы аркуш прабег, падумаў, што трэба было б неяк гэта паявілічыць, як вы падкраліся і вось прынеслі, — ён падняў руку з лупай.

— Ды хопіць дзьмуцца, не паненка! І не падкрадваўся я, гарбату во прынёс табе. Так што крыўдзіць мяне не трэба. Падкраўся, падкраўся! Вось падсохне, у лес як-небудзь з'ездзім, я табе там пакажу сапраўднае падкрадванне. Што там на першым аркушы? Я ўжо і падзабыў.

— Рашэнне ЦК белкампартыі аб поўнай адсутнасці ў рэспубліцы арганізаванага супраціву савецкай уладзе ў сувязі з мудрым курсам КПСС.

— Вось так, Слава, а ты кажаш — бібліятэкі. У бібліятэках у нас у краіне заўсёды захоўвалі толькі тое, што было дазволена, а астатняе ці палілі, ці ў «спецхран».

— Але час жа які цяпер! Якія забароны? Усё, што было ў тых спецхранах, сёння ў кнігарнях на паліцах і ў сусветнай павуціне.

— Час — ён, Слава, вядома, іншы, але парадкі засталіся тыя ж, асабліва што тычыцца падобных пытанняў, і асабліва ў нашай магутнай дзяржаве. Ты гэта на будучае запамінай. Была ды і ёсць такая старая чэкісцкая мудрасць: чым менш народ ведае, тым мацней начальства спіць. Давай, гартай далей.

— Не, тут нешта алоўкам напісана, зараз прачытаю, — хлопец падсунуў аркуш бліжэй да лямпы, паднёс лупу, — нейкія скарачэнні і лічбы. Тры слупкі. Першы: А.іС.Р; другі — Н.Я.іВ; трэці — Вр.Об. Вось яшчэ — над імі 44-45. Нічога не зразумела. Злева ад першага слупка ўніз ідуць літары: У., АіВ.П., Р., яшчэ нейкія дзве ці тры, цалкам сцертыя…

— Старая гэта бухгалтэрыя. Першы слупок — актывісты і саўработнікі, другі — нашы, ястрабкі і ваякі, трэці — агульная колькасць ворагаў. Літары ўніз: забітыя, арыштаваныя і ўзятыя ў палон, параненыя, а далей там толькі для ворагаў — знішчана бандфармаванняў, разгромлена баз, схронаў, лагераў. Ну, калі лічбы чытаюцца, лічы, а я пакуль па сваю гарбату схаджу.

Вячаслаў дастаў з кішэні нататнік, ручку і было ўзяўся за няхітрую арыфметыку, але пачуў бразгаценне посуду на кухні і напружыў слых, робячы таропкія запісы.

— І якія тут у нас поспехі?

— Так… — паварочваючыся да старога чэкіста, не без гонару вымавіў юнак. — Вы на кухні зачынілі бляшанку з гарбатай і, хутчэй за ўсё, паставілі яе на месца, з цукарніцы насыпалі лыжкай цукар, размяшалі яго. Потым, потым… — ён зазірнуў у канспект, — адарвалі нейкую паперу і пайшлі сюды. Пакуль ішлі, лыжка бразнула, калі не памыляюся, пяць разоў. Усё! — з гонарам адрапартаваў ён.

— Малайчына! Нядрэнна, вельмі нядрэнна! Як там з падлікамі?

— Вось з гэтым тугавата. Лічыць і слухаць адначасова не атрымліваецца. Але я ж беларус, я ўпарты, я змагу, натрэнірыюся. А палічыць… я гэта імгненна…

— Давай, лічы, а заадно і старэчую памяць праверым. — Прымружыўшы вочы, Ягор Кузьміч пачаў нягучна называць лічбы. — Арыштавана ворагаў: 17870, забіта — 3035, паранена — 5302, разгромлена бандаў — 914. Забіта з нашага боку з усіх катэгорый — 521, паранена — 1911, прапала без вестак — 47. Так, здаецца?

— Вось гэта вы даяце, Ягор Кузьміч! Як гэта ўсё можна памятаць столькі гадоў! Усё, усё, лічу! Усяго атрымалася пацярпелых, — хлопец на імгненне запнуўся і са здзіўленнем падвёў вынік, — амаль 27300, без чатырох чалавек! І гэта толькі, як я зразумеў, за адзін няпоўны год! Нічога сабе!

— Так, сумна. І ўлічы — гэта толькі, як цяпер кажуць, прамых стратаў, а колькі расстралялі па прысудах трыбуналаў і судоў як нацыяналістаў і памагатых, а колькі асуджаных на «сталінскай дваццатцы» так з лагераў і не вярнуліся? А колькі яшчэ проста мірнага насельніцтва загінула, звычайных сельскіх жыхароў, не партыйных, актывістаў, проста хлебаробаў — іх то ўвогуле ніхто не лічыў. Думаю, за першую пасляваенную пяцігодку тысячаў пад сто пяцьдзясят будзе. — Стары змоўк і пацяжэлай хадой вярнуўся да свайго фатэля. <…>

«Дзяржслужачы любога дастатку (ад драбнюткага клер-

ка да самай вярхушкі краіны), які хоць бы раз у квартал не ездзіў у метро ці на іншым грамадскім транспарце, небяспечны для грамадства і павінен быць неадкладна скасаваны з карпарацыі, якая служыць народу». Гэтае пакуль невядомае шырокай публіцы правіла, што распаўсюджваецца і на багацеяў свету гэтага, было выведзена Вячаславам Стахавічам Скаргам, з нядаўняга часу «новаспечаным» оперупаўнаважаным аднаго з аддзелаў упраўлення дзяржбяспекі сталічнай вобласці. І вось, кіруючыся сваім запаветам, Скарга, пры наяўнасці ўласнага аўтатранспарту, ездзіў на службу і са службы выключна ў сталічным метро, як і ўсе нармальныя грамадзяне небагатай і няспешчанай асаблівай раскошай рэспублікі.

Метрапалітэн, як і належыць падзямеллю, заўсёды жыў і жыве сваім мітуслівым і нечаканым жыццём. Масква ў трыццатыя гады, вырыўшы ўслед за Захадам для сваіх грамадзянаў норы перамяшчэння, пачала распаўсюджваць гэтую моду на сталіцы саюзных рэспублік і рэдкія гарады-мільённікі. Не прамінула гэтая прыблуда і Мінска. Сталічны метрапалітэн дастаўся суверэннай Беларусі, як і іншыя цуды імперскай велічы, ад савецкай і ўшчэнт сацыялістычнай БССР — неад'емнай часткі дабітага ельцынскімі амбіцыямі Савецкага Саюза.

Горад з метро — гэта ўжо сапраўдны горад, не роўня абласным правінцыям і паселішчам гігантаў хіміі ці металургіі. Метро, нават на постсавецкай убогасці, і да сёння лічыцца не толькі сродкам перамяшчэння, але і сімвалам статуснасці, што дазваляе жыхарам пясціць у сабе асаблівы мястэчковы гонар. Чалавека краіны саветаў заўсёды прымушалі чым-небудзь ганарыцца: то, скажам, палётам сабачкі ў космас, то рэкордным надоямі малака, то такім выкананнем дзённага плана, што твая паўсядзённая норма пачынала здавацца нізам працоўнага імпэту, то перамогай спартсмена, які даўно ўжо не жыве не толькі ў тваім горадзе, але і ў тваёй Радзіме рэдка бывае. Калі ж на дадзены момант ганарыцца не было чым, прадпісвалася ганарыцца і хваліць навакольную прыгажосць. Калі хто з прыезджых заводзіў дурную песню пра нашыя нікуды не вартыя тавары, пра каўбаску з паніжаным утрыманнем мяска ці яшчэ пра што падобнае, яму адразу ж пачыналі распавядаць пра мясцовыя лясы, азёры і весі, развалiны замкаў. Не ганарыцца сваім мы не можам. Таму як без падобнага ганарэння — што ж мы за народ такі? І вось ад агульнасавецкага гонару мы неўзабаве перайшлі да гонару ўсебеларускага. Ганарыўся сваім горадам, яго метро і малады чэкіст.

Вячаслаў рэдка ездзіў на службу ў абавязковым касцюме з гальштукам, у гэтую казённую браню ён апранаўся ўжо ў кабінеце, а так — красоўкі, джынсы, някідкая куртка, модная сёння сумка аля планшэт і вязаная шапка складалі яго дарожны гардэроб. Старэйшыя таварышы па аддзелу паджартоўвалі з дзівацтваў маладога лейтэнанта і адразу ж узнагародзілі яго мянушкай «канспіратар». І мянушка Скаргу падабалася.

Уражанні ад пачутага і падгледжанага ў падземцы і тралейбусе, а ездзіць яму даводзілася аж у Малінаўку, Вячаслаў амаль кожны вечар аналізаваў і запісваў у дзённік. «Дзённік для чэкіста — апошняя справа, — не пераставаў паўтараць адзін з іх выкладчыкаў, — асабістыя перажыванні і думкі, давераныя паперы ў юнацтве, могуць нашкодзіць спакойнай і сытай сталасці і тым больш старасці. Так што спецыялізуйцеся на чытанні чужых прызнанняў і ніколі не пішыце сваіх». Вячаслаў прыняў гэтую параду да ведама, але дзейнічаў па-свойму.

Дзённікі ён пісаў даўно, з восьмага класа, і надзейна хаваў у старым, яшчэ прапрапрадзедавым схове, па-майстэрску абсталяваным у іх старым доме ў Нясвіжы. Дому гэтаму, калі верыць нябожчыку дзеду, было гадоў чатырыста з гакам, пра памер гака дзед нічога не казаў, а вось схованку перад самай смерцю паказаў, пры гэтым узяў слова гонару, што Вячаслаў адкрые гэтыя таямніцы толькі свайму ўнуку, калі таму споўніцца сямнаццаць гадоў.

— Дзед, а калі ўнука не будзе?

— Як гэта не будзе? — наморшчыўшыся, строга спытаў той.

— Калі будуць толькі ўнучкі?

— Тады жыві, чакай праўнукаў, але амялушкам і чужынцам нашу таямніцу не выдавай, — падумаўшы, дзед дадаў: — Сыну не ўздумай казаць, сын бацьку не сябар, ён больш супернік. Гэта пакуль табе зразумець цяжка, пазней, пазней датумкаеш. У самым крайнім выпадку сярэдняму ўнуку свайго брата пакажаш, які табе будзе радней і бліжэй. І наогул, больш за ўсё давярай сваім пачуццям і інтуіцыі, не пярэч ім і не супраціўляйся.

Схованку гэтую, па словах дзеда Браніслава, ніхто з чужынцаў не знаходзіў, хоць дом пераварочвалі ўверх дном і шведы, і французы, і расейцы, і польская «двуйка», і нямецкая СД, і разоў з шэсць родныя савецкія органы.

Акрамя запаветных сшыткаў у прасторнай каменнай нішы захоўваліся паперы яго роду, поўны радавод, дароўныя граматы вялікіх князёў і каралёў. Тры старадаўнія пярсцёнкі, нейкія жаночыя ўпрыгожанні, гісторыю якіх нават дзед не ведаў, два старадаўнія кінжалы і пісталеты, адзін дапатопны, інкруставаны золатам і перламутрам, другі нямецкі армейскі «Вальтэр» з двума запаснымі абоймамі. Былі яшчэ і залаты гадзіннік, падораны аднаму з іх сваякоў Тадэвушам Касцюшкам. Асаблівы гонар у гэтым скарбе ўяўлялі пяць таўшчэзных тамоў, пераплеценых скурай сшыткаў — дзённікавых запісаў яговых продкаў. Запісы вяліся, наколькі ён мог разабраць, на латыні, па-польску, па-французску, па-нямецку і, здаецца, па-італьянску. Вячаслаў памятаў, як спрабаваў з наскоку, абклаўшыся слоўнікамі, спасцігнуць сэнс незразумелых слоў, дзе амаль кожная буквіца была ўпрыгожана мудрагелістымі завіткамі. Дзе тут літара, дзе яе ўпрыгожванне — паспрабуй разбяры! Кавалерыйскай атакі не атрымалася. Засеў за мовы. Але і адноснае веданне іх, той жа нямецкай ці польскай, у разуменні сэнсу напісанага мала што давала. За стагоддзі шмат што змянілася не толькі ў матэрыяльным свеце, але і ў яго славеснай абалонцы, так што экскурсію ў нетры свайго старажытнага роду давялося адкласці, ды і служба адымала амаль увесь час.

У нясвіжскім доме жыла бабуля са сваёй малодшай дачкой і яе сямействам. Вячаславу па старой традыцыі належаў дзедаў пакой, невялікі і ў параўнанні з астатнім домам нейкі падслепаваты, затое зімой самы цёплы і ўтульны. У ім за шырокім старадаўнім сталом, які, нават разабраўшы, немагчыма было вынесці, рабілі ўрокі і гулялі Вячаслававы стрыечныя браты і сястра. Начаваць і пастаянна жыць у пакоі мог толькі той унук, якога назваў у сваёй духоўнай дзед, нават адважная бабуля, якая пабачыла на сваім веку многае, і тая, ледзь пачынала змяркацца, спяшала з дзедавага кабінета, а ўжо ўначы туды зайсці яе нельга было прымусіць ніякімі просьбамі ці пагрозамі.

Падчас вайны ў тым пакоі размясціўся на пастой нямецкі афіцэр, сам яго выбраў, доўга хваліў стол, захапляўся спакоем і прыгожым выглядам з акна, што выходзіла на возера і Радзівілаўскі замак, у якім тады размяшчаўся дом адпачынку і шпіталь лётчыкаў люфтвафэ. Тыдні праз два пастою пайшоў сабе ветлівы Ота на службу і павесіўся ў сваім кабінеце, пакінуўшы перадсмяротную цыдулку: «Прабач мне, Эльза, я сыходжу да Барбары!». Эльзай звалі яго жонку, а хто такая Барбара — ніхто не ведаў і не разумеў, чаму да яе трэба было сыходзіць такім дзіўным спосабам. Гэтыя падрабязнасці распавёў дзяншчык, забіраючы гаспадарскія рэчы.

Новы пастаялец, эсэсаўскі лейтэнант, таксама доўга не пажыў, насмерць разбіўся на матацыкле, цыдулкі не пакінуў, але, як мянтажылі ўчэпістыя языкі, у шпіталі перад адыходам на той свет таксама ўсё клікаў нейкую Барбару.

Вячаславу ў дзедавым пакоі спалася спакойна і лёгка, ён нават і сноў там толкам ніколі не бачыў. Таямніцай роду ён даражыў і па дробязях у схованку не лазіў. Наогул, так сталася, што пра таямніцу падзямелля ён даведаўся раней, чым прыняў рашэнне паступаць у Вышэйшую школу КДБ, ды і дзед, калі б быў жывы на той час, наўрад ці ўхваліў бы выбар унука, хоць ягоны сын, бацька Вячаслава, служыў некалі ў нейкім дзіўным ваенным ведамстве. З бацькам заўсёды было шмат нейкіх таямніцаў і недагаворанасці. То ён быў журналістам-міжнароднікам, то дыпламатам, то, як вузкі спецыяліст па сельскагаспадарчай тэхніцы, вызубрыўшы на хуткую нагу фарсі, з'ехаў у Афганістан. Там у нейкай глухой правінцыі на мяжы з Пакістанам, яшчэ гады за паўтара да ўводу савецкіх войскаў, ён і загінуў; няшчасны выпадак — так было сказана ў афіцыйным паведамленні. Хавалі бацьку ў цынкавай труне. На пахаванні было некалькі незнаёмых сям'і людзей, трымаліся яны збоку, пасля могілак, пашаптаўшыся з мамай, моўчкі раз'ехаліся, застаўся толькі адзін, які калісьці вучыўся з бацькам у адным ваенным вучылішчы — і пасля памінак пра нешта доўга размаўляў з дзедам і мамай. Вячаслаў гэта ўжо добра памятаў. Дзед усё абяцаў нешта расказаць пра бацьку, ды не паспеў, памёр нечакана, неяк раніцай на кухні за сталом.

Маята метро маладому і амбітнаму чэкісту падабалася; нават калі не было машын, ён адзначаў для сябе вельмі павучальныя і яркія асаблівасці ў паводзінах людзей, а колькі ён пачуў водгукаў на цяперашнюю рэчаіснасць і дзеючую ўладу! Самыя смелыя і вострыя траплялі ў яго сшытак. Праз год-два перачытваючы іх, малады чалавек міжволі дзівіўся аднатыпнасці і недальнабачнасці народнага погаласу. «Натоўпу не дадзена прарочыць, — любіў паўтараць дзед. — Ніколі не ідзі на повадзе натоўпу і ніколі не пярэч яму, але заўсёды рабі па-свойму».

Перайшоўшы на чацвёрты курс, Вячаслаў абвясціў маме, што будзе жыць асобна і каб яна правільна яго зразумела ды не крыўдзілася. Сёння ён вяртаўся на сваю здымную кватэру позна. Пасля працы забег да Ягора Кузьміча і заседзеўся. Ды ў гэтага чалавека не тое што заседзецца, у яго можна было б і пасяліцца жыць, здымаючы ўсяго толькі вузкую, скрыпучую атаманку, прапануй яму гэта гаспадар.

— Грамадзяначка, давайце толькі без аказання супраціву прадстаўнікам улады! Грамадзянка...

Два паставыя міліцыянты спрабавалі затрымаць дзяўчыну, якая выкручвалася ад іх. Трэці, па ўсім старшы нарада, спрабаваў звязацца з кімсьці па рацыі. Вячаслаў на аўтамаце падышоў да яго, паказаў службовае пасведчанне і пацікавіўся, што адбываецца.

— Вось, таварыш лейтэнант, непадпарадкоўваецца грамадзянка і затрымліваецца для высвятлення асобы...

— Старшына, не трубі, як слон, маё прозвішча Скарга, і давай без званняў ды казыранняў, — упаўголаса папрасіў лейтэнант. — За што затрымліваеце? — Вячаслаў уважліва пагледзеў на дзяўчыну: тая маўкліва ўпіралася, але з ёй усё ж справіліся ахоўнікі парадку і вялі яе да старшага. Сімпатычная, меднавалосая, з бел-чырвона-белым шалікам вакол шыі, у бярэтцы з бел-чырвона-белай стужкай і з бел-чырвона-белым значыкам на кароткім палітончыку ў чырвона-белую клетку.

— Так, старшына, з чырвона-белым відавочны перабор, — усміхнуўшыся, з разуменнем вымавіў Скарга.

— Ну дык і я пра што! Як нейкі бэнээфаўскі хадзячы плакат.

Вячаслаў ужо быў сабраўся пайсці далей, але зірнуўшы яшчэ раз на дзяўчыну, прыкінуў, што з ёй можна было б папрацаваць як з будучай даверанай асобай з пратэстных моладзевых тусовак.

— А ведаеш што, старшына, аддай ты мне гэтую хадзячую бяду, тут думка адна мільганула.

— Што ж, лейтэнант, — з ухмылкай разумення ўхваляльным шэптам вымавіў міліцыянт, — давай бяры, толькі глядзі — і за нас яе дзерані.

— Добра, як цябе завуць?

— Эдзік...

— Эдуард, давай вось што, — Скарга нешта таропка зашаптаў яму на вуха.

— Ага, усё зразумеў, зраблю...

Вячаслаў, адвярнуўшыся ўбок, каб не сустрэцца вачыма з затрыманай, пайшоў з метро.

Ужо на вуліцы ён прытаіўся за бакавой сценкай выхаду і стаў чакаць. У хуткім часе з'явіліся старшына Эдзік і прыціхлая затрыманая. Чэкіст умела адштурхнуў канваіра, перахапіў руку дзяўчыны і з нягучным крыкам «Уцякайма!» нырнуў з ёй у яшчэ зімовы змрок вясновай начы. Ззаду сіпла заліваўся міліцэйскі свісток. Прабегшы пару двароў, уцекачы перайшлі на хуткі крок, пераканаўшыся, што пагоні няма, спыніліся і зарагаталі.

— Ну ты даеш, я спалохацца не паспела, як ты мяне вырваў у гэтага монстра і завалок у цемру, — скрозь смех сказала дзяўчына. — Мяне завуць Стэфанія, сябры Сцеша, а ты — як табе зручней, ты ж мой выратоўца.

— Я Вячаслаў, у сяброў Слава, Славец, таксама выбірай, як зручней, — працягваючы руку, адказаў хлопец. — Ты дзе жывеш?

— Наогул-то я з Горадні. У Менску вучуся ва ўніверы замежных моў, жыву ў здымцы на іншым канцы горада, тут у сяброўкі была на адной тусоўцы. Як дадому дабірацца — не датумкаю, у метро, напэўна, цяпер нельга?

— Гэта ўжо так! Ні табе, ні мне туды сёння лепш не совацца. Мянты, хутчэй за ўсё, да закрыцця там будуць тырчэць. Давай лепш я цябе да тусовачнай сяброўкі правяду, гэта далёка?

— Ды не, калі пешшу і наўпрост — хвілінаў трыццаць, на аўтобусе дзесяць, але яго ў гэты час не дачакаешся. Вось звалілася на тваю галаву, табе, мабыць, дадому трэба, жонка ўжо мо зачакалася?

— Малады я яшчэ для жонкі. Дзед мой быў перакананы, што кавалер задумвацца пра сям'ю мае права толькі пасля трыццаці пяці, а заводзіць жонку пасля сарака.

— Відаць, дзед твой быў дока па частцы дзяўчат! Бедная бабка!

— Не, з бабкай у іх усё было нармальна, яна была яго маладзей на дваццаць пяць гадоў, а вось да бабулі, — Вячаслаў злёгку свіснуў, — там, кажуць, шмат чаго было. Давай паказвай дарогу. А чаго гэта ты так вызывальна апранулася? — змяніў ён тэму.

— Ды вось хацела даказаць аднаму дзіваку сваю смеласць і нацыянальную апантанасць.

— І атрымалася?

— Ды ну яго, змагар прыезджы! Вось тут направа і прама праз пустку. Ты не збаішся туды пайсці?

— Ты ж не баішся?

— Дык гэта ж з табой, адна ні за што не паперлася б, нават па п'янцы.

— Я цябе якраз пра гэта самае «з табой» і пытаю: не боязна з незнаёмым мужыком ноччу па будаўнічых пустках швэндацца?

— Слухай, ну цябе! — дзяўчына спынілася і, як здалося Вячаславу, нібыта зморшчылася. — Пайду я лепш у метро ці вунь на прыпынку аўтобуса пачакаю. А я думаю, што гэта ты мне пра дзеда свайго залівацьстаў. Можа, ты спадчынны маньяк?

— Не, і мяне, і род мой Гасподзь ад такой заганы захінуў. Пажартаваў я, ну дык ідзем?

Стэфанія, міжволі імкнучыся быць бліжэй да гэтага маладога мужчыны, пакрочыла побач.

<...>

2015

# Астатняя куля ў абойме

## Вершы розных гадоў



Віка ТРЭНАС

* * *

*На чужыне — пад нагамі не чуеш зямлі.*
*На радзіме — зацягнула бяздонная твань.*
*Ты нідзе сам сабе не належыш.*
*У слязіне ў кожнай, якую ты мусіў праліць,*
*але вырашыў ператрываць —*
*скамянелая соль узбярэжжа.*
*Гукі мора,*
*крык чаек,*
*прастора,*
*целы стромкія соснаў,*
*сем адмераных вёснаў...*
*І — астатняя куля ў абойме.*
*Ты трымаеш мяне ў абдоймах,*
*Трымаеш мяне ў абдоймах.*

### Паэма паратунку

*Я ратавала цябе з-пад горных завалаў,*
*выцягвала з дна ракі,*
*з вуснаў у вусны паветра перадавала,*
*спадзеючыся адчайна, што ты не такі.*

*Як усе тыя, хто таргаваліся і гандлявалі*
*усім рухомым і нерухомым,*
*прадавальным і непрадавальным,*
*радасцю і слязьмі маімі, сілай і стомай,*
*каб з крэўнай і роднай я стала чужой*
*або мала знаёмай,*
*як толькі яны атрымалі свае нішцякі.*

*Я думала, ты не такі.*

*Таму, не шукаючы правых і вінаватых,*
*разам з табою зрывала голас,*
*лічыла набыткі, аплаквала страты,*
*падала, патанала, каб узняцца*
*і ўваскрэснуць.*
*І вось цяпер я пяю лебядзіную песню*

*у прадчуванні, што мне ніхто не заліжа*
*раны,*
*што злодзей, які іх нанёс, застанецца*
*беспакараны,*
*і што мне самой ніхто не працягне рукі.*

*Я верыла, ты не такі.*

*І вось цяпер у вачах тваіх — водбліск пажару,*
*вуголле мінулага, пах крыві і прысмак віна.*
*Гэтая бездань, да якой ты наблізіўся зараз,*
*не мае дна.*

* * *

*Паслухай, радзіма больш небяспечная,*
*чым чужына.*
*Усе тут свае, і да іх не павернешся спінай.*
*Тут родныя ўсе,*
*і таму яны помсцяцца кроўна.*
*А тое, які боль у сэрцы тваім — усё роўна.*

* * *

*Слёзы на шчоках застылі —*
*бы кроплі бурштыну.*
*Гэта камусьці за правіла —*
*стрэліць у спіну,*
*змоўчаць праўду,*
*падкласці міну,*
*схлусіць у вочы.*
*Зніклі ваўкі —*
*і сабакі завылі па-воўчы.*
*Чыстыя воды сплылі —*
*застаяліся рэкі.*
*Голас адчаю заціх —*
*не з'яўляецца рэха.*
*Быццам забыліся, што,*
*не залежна ад ранаў,*
*рэйтынгаў і найменняў,*
*званняў і рангаў,*
*ліха вернецца бумерангам.*

***

*ты літасці не прасі,*
*бо не дачакаешся літасці.*
*ні радасці і ні красы*
*табе — толькі ўнутр сябе расці.*

*разбураны свет у адно*
*збіраць,*
*хоць ніхто не падасць рукі,*
*глядзець скрозь чорнае дно,*
*выцягваць тапельцаў з сухой ракі.*

*і ўсё ж без солі ад слёз,*
*без болю і бою*
*нам не прайсці*
*скрозь лес, дзе блукае лёс.*
*жыві. набірайся мудрасці.*

* * *

*Лісце трапеча пад ветрам —*
*гэта мы пад ударамі лёсу.*
*Ледзь дыхаем, быццам маўчым.*
*Кожны ў сябе пытаецца,*
*дзеля чаго лье слёзы*
*І вінаваты ў чым.*

* * *

*я ў пекле, што хтось неабачліва страціў*
*я ў пекле, што выпала з нечай кішэні*
*з тваёго пагляду патроху красці*
*па слоўку-слязінцы балюча страшэнна*
*душы і вершу, лязу і скуры*
*маёй крывёю зіма сплывае*
*лятункі ў вырай у небе шнурам*
*і я ў люстэрку яшчэ жывая*

* * *

*Бэз зацвітае ў сезон*
*перамогаў і стратаў.*
*Майскае сонца на час*
*патанула ў дажджах,*
*І праз ягонае рэшата выспелі травы,*
*як на дражджах.*

*Праўда бязважкая.*
*І абсалютна не важна —*
*не ўзважвай —*
*Што выпраўляльна, а што непапраўна,*
*хто з кім цяпер на нажах.*

*Ведае кожны, што будзе жняцом,*
*а не толькі аратым, —*
*І аслеплыя рыцары, і глухія аратары.*
*Сыдуць бяссілле і жах.*

* * *

*выплаканы. недатыкальны.*
*ахутаны клопатам і цеплынёй.*
*назаўжды застанецца са мной.*
*адпакутаваны.*
*закаркаваны,*
*быццам джын, у бутэльцы,*
*выкінутай у мора.*
*непадзельная наша прастора.*
*непераможная наша тактыка.*
*незамярзальная наша Балтыка.*

* * *

*Я расту ўнутр сябе —*
*а сусвет развінаецца ўшыркі,*
*і калі звонку шторм —*
*толькі ціша пануе ўнутры.*
*У нутры тым — прастор,*
*што святлом напаўняецца зыркім.*
*Ў час калі цемра звонку —*
*ціша звонкая.*
*Мне чуваць.*

* * *

*Успаміны*
*праraслі ўнутр мяне*
*і пусцілі ўва мне карані*
*Не крані*



* * *

*у роспачы ламаю крылы*
*нашто анёлу іх расціць*
*калі да д'ябла ці магілы*
*і так магчыма дапаўзці*
*ты апрытомнееш ад ранаў*
*прымройся ў шэрым сне малю*
*мы будзьма як надыдзе ранак*
*крыламі біцца аб зямлю*

* * *

*Час вялікіх слёз прайшоў.*
*Сезон дажджоў прайшоў.*
*Выцеклі рэкі з расколіны ў сэрцы.*

*Смага, спёка і чорны пыл.*
*Выеў вочы дарожны пыл.*
*Шляхам гэтым ішлі іншаверцы.*

*Стала пеклам твая зямля.*
*Патрэсканая зямля.*
*Нельга жыць і нельга памерці.*

* * *

*Ведаеш, на тым беразе*
*нас чакаюць святло і спакой.*
*За бездданню чорнай,*
*за бурлівай ракой.*
*Ведаеш, гэтая стома*
*з нас жылы цягне.*
*Яна такая, што калі скочыш*
*з абрыву ўніз галавой —*
*дна яе не дасягнеш.*
*Хто, як не ты,*
*залечыць старыя і новыя раны?*
*Хто, як не ты, каханы?*

### Прыпавесць

*Ты, верная,*
*не спала па начах.*
*Плылі перад вачыма*
*карцінкі з выстаўкі*
*ўніз па цячэнні Леты.*
*Ты ў соты раз заходзіла ў раку,*
*вылоўлівала згадкі, а яны*
*цяклі скрозь пальцы.*
*Тваё жыццё —*
*то плыткі, то глыбокі сум*
*плюс сума папярэдніх жыццяў.*

*Ты, шчырая,*
*свайго імя ў газетных загалоўках*
*баялася.*
*Ці шчасце жыць з распранутай душой?*
*Яна сатканая з пяшчоты,*
*бы скура немаўляці,*
*і мае дзіўнаваты прысмак*
*ці то крыві, ці то сакуры. А насамрэч*
*Смак вершаў,*
*бо слова стала тваім целам.*

*Ты, чыстая, —*
*скарбонка*
*яго пажадных позіркаў,*
*ледзь заўважных дотыкаў*
*і няўлоўных подыхаў,*
*разменьваеш свой свет на медзякі,*
*не чакаючы падзякі,*
*толькі таму,*
*што з глыбіні яго вачэй*
*на цябе глядзіць заспаная свабода.*

* * *

*Няма нічога лепшага*
*пад штармавым ветрам*
*за тое, што ты бярэш*
*мае далоні ў свае.*

*Няма нічога горшага*
*за тое, каб быць прыкутым*
*да ўласнай хаты*
*трыма ланцугамі,*
*і гэта не вера-надзея-любоў,*
*а няшчасце, нястача і боль.*

*Няма нічога працейшага за словы*
*і цяжэйшага за тое, каб іх стрымаць.*

* * *

*Час плаціць па рахунках.*
*Час ашчадна збіраць цеплыню*
*у далонях па кроплі, нібыта жывую ваду,*
*што скрозь пальцы сыходзіць хутка.*

*Час пазбавіцца згадак мулкіх,*
*час таго да сябе прыхінуць,*
*хто гартуе і цела, і дух*
*і не лічыць гадзіны ў сутках.*

*Час манетаў, пяшчотаў час,*
*можна жыцці наноў пачаць.*
*Гэта самы звычайны шанц.*

* * *

*няма патрэбы дыхаць*
*бо сам ты ёсць паветрам*
*ты сам дабро і ліха*

*квіток у адзін бок*
*скалечаная вера*
*замураваны выхад*

*ды толькі бачыць бог*
*ланцуг не спыніць звера*
*хоць перад бурай ціха*

*той хто цікуе знік*
*паспее твой цягнік*
*з маўчання вырваць крык*

* * *

*У поўню, у час*
*між кастрычнікам і лістападам,*
*калі Дзяды нагадваюць,*
*на якім ты свеце,*
*калі ад успамінаў шчэміць у сэрцы,*
*калі разумееш,*
*што далей няма куды падаць,*
*боль нарэшце спыняецца.*

*Боль суцішаны перашэптамі жаўталісця,*
*боль усцешаны —*
*больш яму не шукаюць выйсця.*

# Нацыяналіст у вечнасці, альбо Мой Кудравец

Аляксей КАЎКА, Масква

**Адна з яго кніг так і называлася — «Смерць нацыяналіста» (1992 год). Назвай, яшчэ болей зместам — у вобразе галоўнага героя, тыпова «шчырага беларуса», трагічнага пакутніка за сваю беларускасць — згаданая аповесць дэмантавала вульгарны стэрэатып панятка нацыяналізма, рэабілітуючы адначасна зняважаную афіцыёзам сутнасна патрыятычную традыцыю ў мастацкай, публіцыстычнай спадчыне Беларусі.**

Тая зграбненькая кніжачка шчырэй і зблізіла нас — галоўнага рэдактара «Нёмана» і тагачаснага сябра рэдкалегіі, здаралася, і суаўтара гэтага часопіса. Помніцца: лёгкі ў паглядзе прышчур з прытоенай смяшынкай пад стрыжана рудаватымі вусікамі. Поціск цёплае далані. Лагодна барытоністы, з хрыпатцой, голас — гаспадара рэдакцыйнага пакойчыка ў партэры менскай будыніны на скрыжаванні колішніх праспекта Скарыны і вуліцы Даўгабродскай. Тым вераснёвым надвячоркам даверліва ўсмак, не без трывогі, гаманілася абодвум — пра нацыянальнае абуджэнне, ускрыленне духоўнага жыцця ў забранай краіне, пра несупынныя пакручастага Шляху Беларускага (аб ім у хуткасці — матэрыялы адпаведнага «Круглага стала» на старонках часопіса). На развітанне ўцешыў ён маскоўскага наведніка сваім згаданым вышэй творам, надпісаўшы: «Вельмі паважанаму спадару Каўку, нацыяналісту... з пажаданнем дабра і здароўя на службе роднай беларускай справе. 9.09.1992 г. А. Кудравец». Дзвюма стопачнамі церпкага каньяка з рэдактарскага сейфа падмацавана было тады наша творчае сумоўе дзеля «роднае справы».

Пазней не раз сустракалася, суладна гаманілася нам — часцей у Менску, аднойчы ў Маскве на вечарыне памяці Васіля Быкава. Трапілася раз-другі схапіць гарачы кайф у парылцы, потым, там жа на лецішчы пісьменніка, разняволена застольнічаць — пад нячутныя ўсплёскі ціхае рачулкі Вячы. На запрасіны гаспадара даязджалася «тачкай» маёй пляменніцы Ірыны Яскевіч — выкладчыцы хіміі (па-беларуску) у Тэхналагічным універсітэце. Яе і аўтар «Сачынення на вольную тэму» ўдзячна адзначыў сваёй кнігай. Тыя сяброўскія «саміты» прыязна цеплілі руплівая гаспадыня дому Любоў Захараўна з дачушкай Веранікай (увечніла фоткамі некалькі «гасцявальных» момантаў)...

Надарылася таксама завітаць да яго ў кватэру на Славінскага — можа, з часам назавецца вуліцай Анатоля Кудраўца... Разглядаў, між гаворкай, раскошную бібліятэку гаспадара, запыняючы вока на дарчых аўтографах мала не ўсіх нашых сучасных класікаў, іншых знакамітасцяў. Падараваў сябру сваю, маскоўскага выдання, кніжыцу «От Скорины до Купалы», згадаўшы пры тым старанні майго «хроснага» ў далучэнні «маскаля» да беларускае пісьменніцкае сябрыны.

Тут без вясёлага ўспамінуэпізоду не абыйсціся. Аднойчы на пачатку нулявых, летнім дзянёчкам, Анатоль запыніў мяне ў Купалаўскім музеі, катэгарычна прапанаваўшы:

— Трэба табе, пане-браце, у наш Саюз аформіцца. Дзесяць гадоў, як секцыя крытыкі рэкамендавала аўтара «Тут мой народ», а заявы адпаведнай у нас дасюль няма. Непарадак.

— Дружа мой, — спрабую аджартавацца, — які ж з мяне пісьменнік? Хіба што — піцьменнік (хоць Валоўчынскую краму на Лысай Гары не штурмаваў), або, паўтараючы мілую жонку, пісака ср... Куды ж такому нямогламу карасакацца на Алімп высачэзны, бянтэжыць сапраўдных майстравітых «парнаснікаў»?

— Дак жа і піцьменнікаў і пісак, — уцешліва насядае прыяцель, — там не бракуе. Будзеш сваім сярод сваіх. Так што не какетнічай. Давай хутчэй да нашае сядзібы. Пашкевіч чакае.

Аргумент Анатолеў не вельмі пахіснуў мае сумневы, аднак жа пазабавіў, падвесяліў настрой. Праз якіх паўгадзіны ў кабінеце новаабранага, гожа статнага Старшыні СБП дыскусійна дофжылі тэму, пакуль пад маё «я сагласная» не дамовіліся наконт адпаведнага «членства». Кудравец тут жа задэкляраваў сваю рэкамендацыю (дзве другія дашлюць Генадзь Кісялёў і Іван Бурсаў).

Шчырасць нашых узаемін сілкавалася прад усім мастацка-філасофскімі роздумамі — перажываннямі стваральніка «Раданіцы», спомненых «Сачынення», «Нацыяналіста», «Зязюля пракукуе заўтра», спакойна ўзрушлівае, на чэхаўскі лад, беларускае навелістыкі. Прываблівў багацьцем свае творчае асобы, далікатным псіхалагізмам выяўленчае манеры пісьма, а найперш — непадробным вычуленнем на ўсё роднае беларускае: навакольныя краявіды, жывых людзей з іх звычайна суцешлівымі клопатамі, другім разам — з драматычнымі й трагічнымі калізіямі й канфліктамі. Лірычная душа празаіка з эпічным паглядам на падзеі, сваіх герояў насычала мастацкую тканіну яго аповесцяў, апавяданняў церпкім элексірам суперажывання, «цялом чалавечнасці», здатным неадольна спаталяць эстэтычныя, душэўныя прагненні чытача. Можа, прыкладам, у каго іншага, як і ў мяне, пры чытанні «Людчыных яблыкаў» горка-соладка зашчыміць пад сэрцам, варухнецца слязіна пад вейкам. Не кажучы пра Ігната Сцяпанавіча «Вапшчэткі» — у кім ці не кожны беларус спазнае сябе, або кагось крэўнага, блізкага, сваё суворае непрыхарошанае сялянскае (альбо гарадское) жыццё, свой лёс — з радасцямі й пралікамі, з мройлівымі памкненнямі да лепшага, светлага — які ж хрысціянскі, з-пад пяра нібы атэістычнага пісьменніка, дасканалы твор. Ды і сам творца — жывое ўвасабленне лепшых якасцяў сваіх персанажаў — не мог не хіліць да сябе каго другога, прагнага зразумення й спагады ў нашым, падлянкай заплутаваным, бытаванні. З ім, даступным, ненапышліва гумарыстычным («Тут вам не здесь») гамонячы, панылы быт саступаў прад быццём, і змрочная безнадзейнасць бягучага дня — прад вечным неспасцігжным Часам.



Злева направа — Аляксей Каўка, Любоў і Анатоль Кудраўцы

Было цёпла й хвалююча з маім Кудраўцом.

Які, дарэчы, мог заўважыць, падтрымаць братнія парыванні на працілеглым адцінку «беларускай справы». Падахвоціўшы натхняльна-спачувальным водгукам расійска-беларускае выданне Купалавых твораў: «24.07.2008. Дзякуй, даражэнькі, за падарунак! «Маладая Беларусь» — то ўвогуле выключнае выданне, а на сённяшні дзень і надта выключнае і такое патрэбнае. Здаецца, і ведаеш Купалу, і зноў жывеш з ім, а пачынаеш чытаць, перачытваць — і па-новаму адчуваеш, які гэта вялікі чалавек быў і як балела яго душа за родны край. Мінула 100 і болей гадоў, а ўсё гэта сённяшняе, нязменнае, як закамянелае гора, якое не скрануць, не зрушыць. Мільгануў пробліск у хмарах, зноў чарната, дзікасць, нешта звярынае, ваўчынае, хоць сам завый. Даруй, дарагі, за такі сумны запеў, што бывае ад настрою, хаця ведаю, што табе там нашмат складней». Следам — суцяшальная прапанова, на якую — хоць зрынай бытавую брыдоту і хутчэй — на «Белорусский вокзал», за білетам на Мінск: «...Як твае справы, даражэнькі? Ці не маеш сілы, духу зазірнуць на Беларусь? Пры ўсім тым — венікаў я навязаў і гуркі выпаўзаюць на сонца, кветнік Любові Захараўны цешыць вока. Словам, падстаў для сустрэч дастаткова».

...Апошнімі гадамі сябра адчувальна пахворваў, наша непасрэднае кантактаванне ўскладнілася, хаця зрэдчас перакідваліся пісьмамі. Але сціло працавітай руцэ Майстра не здраджвала, аб чым — яго эсэістычныя старонкі ў «Дзеяслове», падарожныя нататкі з Нямеччыны (гасцяваў-лекаваўся ў Веранікі з Хельмутам), адкуль адгукнуўся да мяне адной-другой прыветнай паштоўкай.

Троху раней, вясной 2012-га, было дамовіліся зноў сустрэцца ў доме Літаратара над Вячай. Падахвоціўся на вандроўку і Міхась Скобла, які без усякіх зніжак апавяданні Кудраўца лічыў айчыннай класікай і меркаваў зрабіць з ім перадачу на радыё. Да таго часу знаны пісьменніцкі Дом на Фрунзе (чаму — не Гарэцкага, хаця б Жылуновіча?) захапілі рэйдары-гандляры з-пад фірмы чорнай памяці Пуцянкова. З раскіданага гнязда ўратаваны Кудраўцом партрэт Купалы туліўся, памятаю, ля творчага варштата пісьменніка. Выспяваў сюжэт грамадска-нацыянальнага гучання. На жаль, не здзейсніўся, не прагучэў. Болей сустрэчных нагодаў не траплялася...

На пачатку вясны 2014-га атрымаў ад яго кранальнае ліснянятка, не падумалася, што апошняе. Паведамляў пра свае балючыя выпрабаванні — падкалечаную руку, пра сыход у вечнасць Рыгора Барадуліна, абураўся нашэсцем братоў-захопнікаў з Усходу на сястру Украіну. Балючае было пісьмо (цалкам тэкст — «Скарыніч», выпуск 11). Мне тады, бездапаможна «бальнічнаму» заложніку, не выпала адразу адгукнуцца на світальны сігнал дарагога суродзіча з Радзімы. Пакуль пярэдаднем свята Перамогі, з Менску, не прагучэў, нібы секануў пад сэрца, тэлефонны голас: «Кудравец памёр. Заўтра хаваюць»...

Пра высачыню яго мастацкага таленту, грамадзянскую сумленнасць, чалавечую спагадлівасць да бліжніх і дальніх думалася, спаміналася сябрамі-калегамі пры жалобным развітанні ў рытуальнай зальцы на Альшэўскага. Затым — на пясчыстых выжарах Калодзешчанскіх кладоў. Там, на аціхлым абшары вечнасці, спачыў ад зямных турботаў, абок сваёй абранніцы Любові, дзіўны наш словатворца — гадунец клічаўскіх Аколіц — Анатоль Паўлавіч Кудравец.

Незадоўга перад тым ён адарыў чытачоў, мабыць, апошняй з прыжыццёвых, кніжачкай — «За дальнім прычалам» (бібліятэчка «Дзеяслова»), зборнічкам трапяткіх эсэ, літаратурных партрэтаў сучаснікаў Беларускага Парнаса, постацяў яму, відаць, духоўна найбліжэйшых: Варлена Бечыка, Івана Мележа, Уладзіміра Караткевіча, Алеся Адамовіча, Янкі Брыля, Васіля Быкава, Яна Скрыгана, Міхася Стральцова, Уладзіміра Верамейчыка. Праз іхнія нятускныя аблічы міжвольна падсвечана сціплая харашыня думкі, пачуцця самога аўтара, яго натуральная прысутнасць у класічным радзе беларускай нацыянальнай — нацыяналістычнай — прозы, беларускай думкі.

Таемным паромам адплываючы ў вечнасць, ён пакінуў патомным з творчым набыткам разам — гостра засцярожлівыя ад халопства, нацыянальнае нішчымнасці спавядальныя радкі:

«Я не баюся смерці нацыяналізму, таму што нацыяналізм — гэта не адзін чалавек і не дзесяць чалавек. Гэта ідэя, гэта, можна сказаць, душа нашага народу. Нацыяналізм — гэта любоў да зямлі, а яна будзе жыць, пакуль будзе Зямля, пакуль будуць на ёй жыць людзі, якіх будуць называць беларусамі і якія будуць і размаўляць па-беларуску, і думаць па-беларуску, і думаць пра Беларусь» (інтэрв'ю з «Нашаніўцам» Андрэем Дынько).

Будам жа думаць, размаўляць. Будам жыць і тварыць. Як і запавешчана: па-беларуску.

# З кніжкі «Вершы для Хомкі»



Леанід
ДРАНЬКО-
МАЙСЮК

### Хомка-эстэт

Хомка з радасцю нязменнай
Захапляецца Шапэнам
І Радэнам, і Верленам,
А таксама ж і Гагенам…

Гукі, пластыку і слова
З фарбамі адначасова
Успрымае Хомка ў купе,
Нібы з мясам бульбу ў супе!

І таму прыняць Шапэна
Ён не можа без Радэна,
Як не можа і Верлена
Ён засвоіць без Гагена.

А Гагена без Верлена,
А Верлена без Радэна
І, само сабой, Радэна
Не ўспрымае без Шапэна…

Зона слаўная Шэнгена,
Ты здаволіш Хомкаў густ…
Патрусі, Брусель і Вена,
Гэткае праблемы куст!..

Нібы сонечная казка,
Пра Шэнген прыйшла падказка,
І Хама… О, Божа мой!
Што тут сталася з Хамой!

Просьбу на імя Шэнгена
Хомка напісаў хутчэй,
Каб сумесны для Шапэна
І Радэна, і Верлена,
І, вядома ж, для Гагена
Збудаваны быў музей
Пад адным вялізным дахам…

І каб сталі там стаўма
Ўсе, каго адзіным махам,
Любіць успрымаць Хама!

### Хомка і Гэта

Беларуская прыкмета:
У бяду і без бяды
Верыць чалавек у Гэта
Не раз-пораз, а заўжды.

І прыкметы згодна тое
Суцяшае сам сябе,
Што не верыць ён у Тое,
Як у грушы на вярбе.

Нават знае недарэка
Сталася от так чаму:
Гэта — грэе чалавека,
Тое — рве душу яму!

Хомка мудрасць ушаломкаў,
А ўшаломкаўшы, тады
Паміж Тым і Гэтым Хомка
Выбраў Гэта назаўжды!

### Хама і «ма»

Сёмы год ужо Хама,
Скажам так, аднаскладова
Кожны дзень гаворыць: «Ма» —
Любіць Хомка гэта слова.

Што такое слова «ма»?
На дзіцячай мове гэта —
«Мама», а яшчэ — «няма»…
Больш не мае «ма» сакрэтаў!

Хомка сталы, ды заўжды
(Адмыслова мы адзначым!)
Праз усе свае гады
Размаўляе па-дзіцячы.



Кожны дзень гаворыць: «Ма»
(«Мама» і «няма») — о Божа! —
Маму кліча наш Хама
І даклікацца не можа.

### Хомка і баран

«Хомка, што такое клан?» —
Запытаў Хаму баран.
А яшчэ спытаўся ён:
«Хомка, што такое клон?»

Хомка адказаў: «Баран,
Мноства клонаў — гэта клан!
А як выпруць з клана вон,
На такога кажуць — клон!»

### Хомка і фатограф

Вясёлую работку
Адзін фатограф меў,
Як моладзь кажа, фоткаў
Усіх, каго хацеў!

Ніколі не лайдачыў
Фатограф той, таму
Калі Хаму пабачыў, —
Імгненна зняў Хаму!

І фота — не, не лажа, —
А выйшла залатым,
Як тая ж моладзь кажа:
Прыкольным і крутым!

Майстэрская работа,
Заўжды патрэбна ты…
Так, дзякуючы фота,
І Хомка стаў круты!

### Хомка і мора

«Як жыццё тваё ад гора
Зробіцца зусім благім, —
Не сумуй, а едзь на мора,
Мора памяншае гора
Шумам векавым сваім!» —

Хомка так усім гаворыць
І вялікім, і малым…
А ці быў ён сам на моры?
І як быў, то на якім?

Не, не быў Хама на моры
Ні на гэтым, ні на тым…
Проста, кажучы пра гора,
Думае Хама пра мора

І гаворыць так усім:
«Мора памяншае гора
Шумам векавым сваім!»

Мае Хомка розум быстры,
І таму, як той мудрэц,
Ён складае афарызмы
З гэтага і ў той канец!

### Хомка і лайдакі

Як аглушаных быкоў,
Лайдакоў наўкол багата;
Вечарам з усіх куткоў
Выпаўзаюць, як на свята.

Кожны сам сабе баран,
Раскідаючы няўмеру
Недакуркі, цэлафан,
Гумкі, жуйкі і паперу.

Соску той і гэты ссе
(Электронная атрута!),
Па-сяброўску, па чарзе —
Гэта ж, ведаеце, крута!

Дзе па два, а дзе па тры,
Дзе без ліку —
            проста за́едзь! —
Пруць у паркі і двары,
Свіслач густа абпаўзаюць.

Бар пад назвай «Радзівіл»,
Што насупраць «Журавінкі»,
На тэрасны свой насціл
Іх вайфаіць без замінкі.

З Менска ўсе? Ды не, бо ёсць
Адусюль, нават з Оршы.
Вунь з-пад Клецка ягамосць
Свішча, бараду задзёршы.

Гэта пешыя, а ўслед
Матацыклаў сыпле зграя!
Кожны замульдонны шкет
Байкамі іх называе…

«Бясклапотная арда! —
Хомка атэстуе строга. —
Згінь, пустая чарада
З беларускага парога!»

### Хомка і мда

«Гора, мда, — заўсёды гора,
І бяда — заўжды бяда…» —
Хомка мдакае з напорам
У сваім выслоўі: мда!

Што за дзіўнае выслоўе?!
Для каго? Ні для каго?!
Для настрою, для здароўя
Хомка згадвае яго?!

Не, хутчэй за ўсё для суму…
Хомка наш не легкадум,
Думае цяжкую думу,
І адсюль — бясконцы сум!

Хомка ведае, што гора,
Хомка знае, што бяда
З чалавечаю прасторай
Век былі і будуць… мда!

### Хомка ў гістарычным цэнтры Менска

У гістарычным цэнтры Менска
Хомка восьмы год жыве,
І жыве сабе някепска,
І не косіць, і не жне.

Іншаю заняты працай,
Што тут лішне гаварыць:
Хомка спіць гадзін дванаццаць,
Можа, нават болей спіць!

І наспаўшыся даволі,
Скаўтануўшы сонны хрып, —
Ў гістарычны цэнтр паволі
Ён выдрывае — дрыб-дрыб.

І нібы ў сваім гародзе,
У глыбі свайго двара
Ён ля ратушы паходзіць,
Ля «Гасціннага двара»!

А далей сваю прагулку
Павядзе, як мае быць,
Па Музычным закавулку,
Дзе масонаў дом стаіць.

І па вуліцы Гандлёвай,
Што Зыбіцкай стала зноў,
Каб залегчы спаць нанова,
Ён вяртаецца дамоў.

### Хомка і трэнд

Хомка знерваваўся ўшчэнт
І таму сумуе,
Што бясконца слоўца трэнд
З кожнай дзіркі чуе.

І студэнт, і прэзідэнт,
Журналістаў зграя
Толькі рот разявяць — трэнд
З рота выпірае!

Пад спадніцу і ў штаны
Трэнд ужо заскочыў,
І авечкі й бараны
Быць у трэндзе хочуць!

Вабіць трэнд усіх сабак
З хэнцю і без хэнці,
Толькі Хомка аніяк
Быць не хоча ў трэндзе!

### Хомка і Стас Міхайлаў

Як пяе Міхайлаў Стас, —
Соладка-салодка, —
То кабет уміг, зараз
Аж бярэ дрыготка.

Донжуан ва ўсёй красе
І на сто працэнтаў,
І таму кабеты ўсе
Млеюць на канцэртах.

Вокам блісне, падміргне,
Усміхнецца ў вусік;
Сэрца кожнай казытне:
«Я з табой, пампусік!»

Хомка, нюхаючы след
З водарам сучыным,
Радуецца за кабет —
Ёсць у іх мужчына!

### Хомка і далькажык

Хомка тэатралу кажа:
«Патурбую трохі я вас,
Аддалькажце свой далькажык,
Бо спектакль пачнецца зараз!»

Гэтак і студэнтам кажа:
«Кожны (юнакі й дзяўчаткі!) —
Аддалькажце свой далькажык,
Бо даўно ідуць заняткі!»

І на тых і гэтых сходах,
Што начальнікам патрэбны,
Хомка спраўна, як па нотах,
Зноў жа тую ж просьбу рэкне.

Так сваё чаўпе і творыць —
Лапка ў лапку, ладка ў ладку!
А чаму ён так гаворыць?
Бо пільнуецца парадку!

І салдатам, дэпутатам,
Гімназістам і таксістам,
І, вядома, хакеістам,
Як і ўсім астатнім чыста —
Далікатна, асцярожна
І на ложку, і з-пад ложка
Скажа ўрэшце гэтак: «Знайце
Правіла — як толькі можна,
То далькажыкі ўключайце!»

### Хомкава лічылка

Раз, два, тры, чатыры, пяць —
Добранька ў чарзе стаяць!
На каго ні глянь: усе
Людзі добрыя ў чарзе!

А па што стаяць яны —
І разумны, і дурны?
Па валюту, па яе…
Тых пільнуюць, хто здае…

А здаюць не вельмі каб,
На адзін, як кажуць, хап,
І каб трошачкі займець,
Кожны мусіць тут марнець!

Стой ні стой, а ўсё дарма,
Бо валюты ўсім няма…
Хоць няма, а ўсе стаяць —
Раз, два, тры, чатыры, пяць!

# Увага! Гаворыць Барадулін!

**Барадулін Р. Сны сасны: вершы / укладанне А. Камоцкага; фота В. Грудзько. Мінск: Галіяфы, 2014.**




Трохі дзіўна, але за некалькі месяцаў пасля выхаду другой пасмяротнай кнігі народнага паэта Рыгора Барадуліна не з'явілася ніводнага водгуку (спадзяюся, яны проста не трапляліся на вочы).

Між тым названае выданне імпазантнае (праз афармленне пад вершафотаальбом) і даволі неардынарнае, адметнае перадусім наяўнасцю дыска з начыткаю вершаў самім Паэтам (ды і малакалькасны наклад адразу стварае рарытэтнасць).

Месцамі кажуць пра чалавека, які рушыў у свой апошні шлях, што ён пайшоў у хвойнік. Шчыра кажучы, не ведаю, чаму: ці то таму, што свой вечны спачын чалавек знаходзіць у «канструкцыі» з хваёвага матэрыялу — дамавіне, ці то таму, што могілкі людзі імкнуцца ладзіць на сухадольных узвышшах, дзе любяць размяшчацца стромкія сосны — такія самыя, да прыкладу, як на ўшацкім некропалі…

«Сны сасны» — кніга вельмі сур'ёзная. Як, зрэшты, усё, за што браўся Паэт. Кніга рыхтавалася самім Аўтарам. Падобных выданняў ужо не будзе. Дзіўна, што яно рэалізавана не пры дзяржаўнай падтрымцы, а дзякуючы намаганням і сродкам энтузіястаў, перадусім укладальніка — Алеся Камоцкага пры дзейсным удзеле фотамастака Вадзіма Грудзько.

Менш за ўсё хацелася б тут аналізаваць вершы народнага паэта, у тысячны раз паўтараць заезджаныя тэзы пра глыбакадумнасць і тэхнічную віртуознасць. Тым больш, што многія з вершаў шырокавядомыя, як, напрыклад, «Трэба дома бываць часцей», — твор, які разыйшоўся ў выглядзе песні, ці «Матылёк», што прыводзіцца ў якасці філалагічнага практыкавання ў алітарацыі:

*Лілею*
*млявы*
*плёс*
*люляе,*
*З-пад злежаных*
*аблок*
*здалёк*
*Ляціць віхлясты і бялявы,*
*Пялёстак лёгкі —*
*матылёк.*

Што нечакана ў выданні: яно без пазначэння старонак. Як сімвал таго, што вершы Р. Барадуліна належаць вечнасці, а не зямным рэчам, тым больш у той час, калі ўсе старонкі перагорнуты.

Назва, відавочна, барадулінская, але яна толькі аддалена звязана з пэўным вершам:

*Якія будуць сніцца сны*
*Нашчадкам нашым:*
*Ці дзень вясны,*
*Ці цень сасны,*
*Ці шум лясны,*
*Ці нашум?*

Паколькі вершы для кнігі падбіраліся Р. Барадуліным, але ўбачылі свет пасля сыходу Аўтара, дык іх можна ўспрымаць яшчэ і як запавет. У такім святле асабліва сімвалічным становіцца апошні твор. Таму прывядзём яго цалкам:

*О гэты тормаз недаверу,*
*Не дазваляе да канца*
*Адкрыцца прагнаму намеру,*
*Які ўцякае ад лаўца.*

*Не запыняецца пагоня,*
*А звер бяжыць,*
*Знікае звер.*
*Як цені лёсу на далоні,*
*Сваю з чужою шчырасць звер.*

*Інакш не спыніцца хістанне*
*Галін,*
*Як вецер ні тушы.*
*І недавер знявер'ем стане,*
*І зябка зробіцца душы.*

Сёння, калі нас пакліча мудрасць або філіграннасць барадулінскай паэзіі, ёсць магчымасць сказаць самім сабе: «Увага! Гаворыць Барадулін!» — і атрымліваць асалоду катарсісу, замешаную на шчымлівасці чалавечага існавання і яго канчатковасці…

# Цалаваў у вусны маладосць

**Таўлай В. П. Выбраныя творы / укладанне, прадмова і каментары А. Клышкі. Мінск: Беларуская навука, 2014.**

Найлепшым эпіграфам да жыццёвага і творчага шляху Валянціна Таўлая (1914—1947) з'яўляюцца радкі, напісаныя ім напрыканцы метэорнай (інакш і не сказаць з-за яркасці і, на жаль, хуткаплыннасці) траекторыі адпушчаных доляй 33-х гадкоў паэта і грамадскага дзеяча:

*Я выйшаў з хаты і стаю*
*яшчэ задоўга да світання,*
*і ў вусны маладосць сваю*
*пацалаваў на развітанне.*

Паэт нібы аглядваўся на пройдзеныя этапы (многія гады і без таго кароткага жыцця былі адабраны зняволеннем — польскай і нямецкай вязніцамі). І ў палітычную, і ў паэтычную сферы В. Таўлай прыйшоў аднагачасова рана — у 14 гадоў! Прычым і там, і там заявіў пра сябе голасна і цвёрда.

Паэзія В. Таўлая характарызуецца не столькі аспектамі строга палітычнымі, колькі сімбіёзам грамадзянскасці і лірызму, што робіць голас паэта надзвычай арыгінальным на фоне ў многім аднастайных палітычных вершаваных праклямацыяў дзясяткаў іншых аўтараў. Душа маладога паэта не стамлялася выгаворваць:

*Кожную ноч салавейка пяяў,*
*зоры глядзелі у вочы.*
*Дзе ж ты сягоння, дзяўчына мая?*
*Дзе ж вы, шчаслівыя ночы?*

*Змоўк салавей. Прамінуў светлы май.*
*Зніклі і шчасце і воля.*
*Краты мне свет засланілі. Бывай!..*
*Годзе, ўспаміны, даволі.*

Маладзён, якому б ад ліры не адрывацца, займаецца, акрамя вершаў і перакладаў (з рускай і польскай моў, што адлюстравана канкрэтнымі прыкладамі ў кнізе), прадукаваннем надзённай для барацьбы публіцыстыкі. Яна прадстаўлена ў кнізе асобным раздзелам. У ім знайшлі месца і ўспаміны з аўтабіяграфіяй, а таксама літаратуразнаўчыя работы (пра творчасць Якуба Коласа, Янкі Купалы, Кандрата Крапівы, Міхася Клімковіча, Піліпа Пестрака і Янкі Брыля). Многія крытыкі справядліва могуць сказаць, што публіцыстычныя запісы В. Таўлая збольшага састарэлі. Але ж яны не страцілі каштоўнасці як дакумент эпохі, тым больш насычаны цікавай фактурай.

Багатым колькасна і змястоўным з'яўляецца дасТасаванае да новай кнігі «Слова пра Валянціна Таўлая». Разгляду яго жыцця і творчасці прысвяцілі ўвагу многія літаратары і родныя. Да ўсяго публікуюцца лісты паэта.

На завяршэнне ў дадатак уключаны прысвечаныя В. Таўлаю вершы — Максіма Танка, Ніны Тарас і Алега Лойкі. Мікола Арочка выбітнаму дзеячу прысвяціў твор «шырэйшага» фармату — драматычную паэму «Шляхі і краты», урывак з якой таксама прыводзіцца ў кнізе.

…Падараванае здароўе не дазволіла паэту дачакацца хоць бы адной кнігі. Першае выданне В. Таўлая ўбачыла свет толькі пасля смерці аўтара — літаральна праз пару месяцаў. Аднак затым імя паэта рэгулярна ўшаноўвалася новымі кнігамі. Самы вялікі перыяд ігнаравання творцы «здарыўся» ўжо ў суверэннай Беларусі. Але чарговыя «выбраныя творы» становяцца дзясятым па ліку кніжным выданнем Валянціна Таўлая. І, будзем лічыць, кампенсуюць 30-гадовы (!) перапынак.

**Анатоль Трафімчык**

# Уюн на пяску трохлітровага возера

**Сяргей Украінка. Белы бусел, чорнае пяро. Вершы і апавяданні. Пераклад з беларускай на расійскую — Г. В. Пастухоў, «Радопа», Смаленск, 2015.**

*Белорусы?*
*Выжиги, вьюны...*
*Им бы русского духа поболее*
*Да немножко чеченской войны.*
*Вот и бросили б думать о «воле».*
*А ці думаюць?*
*Волю сваю,*
*Пэўна, й так ужо*
*Грукнулі вобземлю.*
*…Спіць, заплюшчыўшы вочы,*
*Уюн*
*На пяску*
*Трохлітровага возера.*

**(Сяргей Украінка, «Беларусы? Выжигі...»)**

Ужо аднаго гэтага дзьвюхмоўнага палемічнага верша з нечаканаю згадкай самай беларускай рыбіны, здатнай выжыць у любой гразі перасохлай сажалкі, было дастаткова, каб не пакінуць па-за ўвагаю кнігу.

А яна і сапраўды адметная. Ужо таму, што з'яўляецца вынікам супрацы творцаў памежных тэрыторыяў, а не проста перакладным выданнем у звыклым разуменні. Вершы, зацемкі, апавяданні магілёўскага аўтара Сяргея Украінкі, што гучалі на літаратурных імпрэзах і з'яўляліся ў перыядычным друку, былі сабраныя пад адну вокладку, перакладзеныя на расійскую мову і выдадзеныя Генадзем Пастуховым — выдаўцом, перакладчыкам і пісьменнікам са Смаленску. Разлічаная на знаёмства найперш расійскамоўных чытачоў суседняй дзяржавы з творчасцю беларускага літаратара, кніга будзе зразумелая ўсім, хто дасканала валодае абедзьвюма мовамі і хто толкам не ведае ніводнай.

Проза змешчаная толькі ў перакладзе, вершы друкуюцца ў арыгінале і ў перакладзе. Гэта дае магчымасць усходнім суседзям адчуць мелодыю гучання нашай мовы. А нам самім параўнаць і ацаніць напоўніцу талент паэта і перакладчыка. Вершы, самыя разнастайныя па стылістыцы і памерах, вылучаюцца моўным багаццем, захапленнем красою без прыхарошвання, яскравымі кранальнымі вобразамі, у якія хочацца ўглядацца:

*Сунічак не паспытаў...*
*Чарніцамі рук не высініў...*
*Не бачыў, як вішні дразды падзяўблі.*
*...На яблыку восвь паслізнуўся.*
*Восень?...*

Мікола-Цудатворац, каторы правіць свой дзень нарадзінаў у Магілёве на трубах цеплатрасы, парэзаная касою жабіная лапка, грэцкі праснак як сімвал уласнага жыцця... Натуральнасць пачуццяў, запрашэнне да развагі, імкненне называць рэчы сваімі імёнамі і ў лірыцы, і ў сатыры:

*Клопатам «ацечаскім» сагрэты,*
*На будынку школы*
*Нейкі гад*
*Накрамзоліў:*
*«Кіньма цыгарэту,*
*А курыцьмем, хлопцы, самасад!»*

Не дапамагло. З тае пары змяніліся нават назвы краіны на геаграфічнай мапе, але не хлопцы. У такіх варунках нічога не застаецца, апроч відавочнага маральнага выбару:

*Я вам не скажу за ўсю планету,*
*Што ямчэй згінае нас у крук —*
*Самасад ці, можа, цыгарэта.*
*Мне пляваць.*
*Бо я куру бамбук.*

Вы ж хаця не падумайце, нібы тое пра здаровы лад жыцця напісанае!

Невыпадковы і зварот да жанру эпітафіі. Эпітафіі, а хутчэй пароды на іх, удала спалучаюць сатыру з філасофскім роздумам. Яны ўражваюць канкрэтнасцю адказаў на спрадвечныя жыццёвыя пытанні без мрояў і ілюзіяў:

*Пад гэтай крушняю ляжыць дацэнт.*
*Ён быў не роўня нам, браточкі, з вамі,*
*Бо меў высозны «мазгавы працэнт».*
*Ён здаў жыццё экстэрнам. Як экзамен.*

Празаічныя тэксты прадстаўленыя трыма непадобнымі адно на адно апавяданнямі, а таксама гумарыстычнымі зацемкамі-назіраннямі, якія аўтар пайменаваў смехаёчкамі. У смехаёчках, здаецца, сама Беларусь і беларусы распавядаюць пра сябе дасціпна і шчыра.

Пра пераклад і перакладчыка варта сказаць асобна. Генадзь Пастухоў звяртаецца да твораў магілёўскіх пісьменнікаў не першы раз. У сваёй прадмове да кнігі Сяргея Украінкі ён прызнаецца: «Цудоўную, багатую лексічна беларускую мову аўтара бывае складана перакласці на расійскую, захоўваючы адценні яе вобразаў». Але яму гэта ўдалося, найперш з прычыны паважнага стаўлення да творцы, яго роднай мовы і Бацькаўшчыны. У перакладзе няма слоў, ніколі не чутых у Беларусі, незразумелых, але чамусьці такіх прывабных для некаторых тутэйшых расійскамоўных літаратараў, кшталту «горніца», «снедь». Вершаваныя памеры, гульня словаў захаваныя. А жарты засталіся трапнымі і зразумелымі чытачу.

**Таццяна Барысік**

# Ісус-немаўлятка,



Павел БРЫЧ

**Хто не верыць, што цуды здараюцца, той хай гэтую гісторыю нават не слухае. Яна магла б расхістаць яго каменнае перакананне, што жыццё — гэта нудота, галеча і пакуты, а горш за ўсё жывуць звычайныя людзі ў інфарктавым сэрцы Еўропы. Але тым, хто яшчэ не пачуваюцца дахадзягамі і народам палёў пахавальных урнаў і ў каго з вачэй не пазірае абвуглены торс усіх надзей, — тым прагрызціся праз гэтую гісторыю было б варта.**

Бо такія павераць у немаўлятка Ісуса, які носіць падарункі, нават калі б пачуваліся сто разоў дарослымі!

На вуліцы Стралецкай пад лёгкаатлетычным стадыёнам у Ябланцы-над-Нісай, з якога ў неба лётаюць дзіды залатой алімпійкі Бары Шпатакавай, у арандаванай віле жыла сям'я доктара Нэпавіма. Ён трымаў прыватную фельчарскую практыку па скурных хваробах, пашыраў асвету, змагаючыся з палавымі захворваннямі, што густа рассеяліся па краі, нават наведваў мясцовыя школы з рагатлівымі прышчавымі падлеткамі, а таксама праводзіў прыёмы ў гарадской бальніцы і рукамі ды нагамі адхрышчваўся ад удзелу ў муніцыпальнай палітыцы, бо на інтрыгі ніякія тэрмометры, пігулкі, прамыванні, клісціры і дакладныя метады не дзейнічаюць, у інтрыгах жыве хаос і нелагічнасць, і яшчэ злая воля, а доктар Нэпавім быў выключна практычны чалавек. Гэткі чарсцвяк без фантазіі. Што можна было памераць, узважыць, прамацаць, прасвяціць рэнтгенам, абследаваць у лабараторыі — тое мела вагу. Астатняе для яго не значыла зусім нічагуткі. Між іншага, у свае трыццаць сем гадоў ён з цяжкасцю трываў тое, што жонка Рэната дагэтуль чмуціць іх дзесяцігадоваму сыну Оціку і васьмігадовай дачушцы Вікторыі галаву, трымаючы іх у перакананні, што падарункі ім носіць немаўлятка Ісус.

— Ты робіш з іх адсталых дурнёхаў! — дакараў ён сваю жонку, чулага рамантыка, настаўніцу пачатковых класаў. — Ці, як мінімум, крывадушнікаў, якія цябе даўно разам з тваімі байкамі ды казачкамі раскусілі, і цяпер з нас, бацькоў, цішком смяюцца.

Летась на Каляды ён урэшце пастанавіў, што захавае дэкорум толькі да сёлетняга Шчодрага дня, а потым Оціку і Вікторыі ўсё патлумачыць, паставіць іх твар у твар перад жорсткай рэчаіснасцю дарослых, што паміж небам і зямлёй нічога няма, і гэтак скончыць з гэтым ашуканствам і граннем, як у Нацыянальным тэатры, якое штогод знясільвае яго ўшчэнт, калі ён мусіць удаваць, што пасля пачастунку на Шчодры вечар ідзе клікаць дзіцятка Ісуса, каб тое пры сваім паветраным падарожжы вакол свету ўганаравала іх сваім візітам і прызямлілася як дрон пад іх штучнай, абвешанай бліскучымі цацкамі ялінкай. Да ўсяго гэтага ён павінен яшчэ і змушаць сябе да гутаркі не толькі з дзецьмі, якія круцяцца ад нецярплівасці, як уюны на патэльні, але і з цешчай, якая з жалезнаю рэгулярнасцю ўжо пяты год прыходзіць на Шчодры дзень да іх дадому і скача з імі па заснежаным садзе ды гукае ў неба «Ісус-немаўлятка, прыйдзі да нас», бо шаноўны цесць не слухаў ягоных смяротна сур'ёзных доктарскіх парадаў, не сачыў за ладам жыцця, не прымаў лекі, не хадзіў на кантроль да калег і ў выніку памёр падчас гульні з дзецьмі, калі намагаўся — гэтаксама як робяць на Каляды яны самі — афарбаваць свет у ружовы колер і давесці ім, што і стары чалавек можа гуляць у мустанга на радэа пад сядлом віскатлівых, узбуджаных шалапутаў.

Вядома ж, і ён у сваёй лекарскай практыцы час ад часу звяртаўся да міласэрнай маны, бо ён шанаваў клятву Гіпакрата, аднак калі можна было, то лепш прапісваў чыстую праўду і паважаў усіх, хто ад яе не схаваў галаву ў пясок і адказна падышоў да прадпісанняў доктара і супрацоўніцтва з ім.

Што праўда, сямейнікі ягонай жонкі ў гэтым плане здаваліся поўнымі вар'ятамі, юродзівымі шаленцамі і хворымі на галаву дзівакамі: спрэс мустангі, рэлігійныя фанатыкі і рамантычныя жанчыны са схільнасцю да летуценняў. Калі б ягонай спецыялізацыяй не былі скурныя і палавыя хваробы, ён бы ім прапісаў як мінімум ксанакс. А так ён стараўся стаічна захаваць сваю прыязнасць і абмежаваць свой актыўны ўдзел у блазнаванні ўсяго да аднаго дня на год, і ён не жадаў, каб яго пры гэтым здымалі ды выстаўлялі здымкі ў фэйсбук, суправаджаючы іх ідыёцкімі каментарамі.

Шчодры вечар ён праглынуў як маскарад, падчас якога — на грамадскую замову — раз на год павінныя адбывацца цуды.

— Мама, ну прызнайся, што ты зноў не хадзіла да свайго кардыёлага, — папракнуў ён цешчу адразу, як толькі яны селі за калядную вячэру.

— Перастань, Ота, не трэба цяпер пра такія сумныя рэчы, — кінула яму ў адказ крыху пасівелая копія ягонай бландзіністай жонкі, красуня даўняй вытрымкі з пацінай маркі «Паважны век». — Твая прафесія ўжо лезе табе на мазгі. Коле, як іголка для кончай ін'екцыі. Ты ва ўсіх людзях бачыш толькі пацыентаў!

— А ўсе людзі і ёсць пацыенты, — нахмурыўся Ота Нэпавім. — І я не вінаваты, што па некаторых гэта відаць і без рэнтгену. Знаеш, мама, калі не пачнеш адказна ставіцца да свайго здароўя, то жыць табе застаецца хіба...



**Ён з цяжкасцю трываў тое, што жонка Рэната дагэтуль чмуціць іх дзесяцігадоваму сыну Оціку і васьмігадовай дачушцы Вікторыі галаву, трымаючы іх у перакананні, што падарункі ім носіць немаўлятка Ісус**

— Кхэ, кхэ, кхэ, — закашляла спадарыня Рэната і пад сталом балюча выцяла злога вестуна нагой па галёнцы.

— Аааў! — крыкнуў ён.

— Хі, хі, хі, хі, хі, — не маглі задушыць смех дзеці.

— Ну добра, добра, не буду псаваць святочны настрой, — прашаптаў доктар Нэпавім.

Першая страва. Суп, чорны, як пальчаткі шафёра катафалка-лімузіна. Дзеці сёрбнулі з кончыка лыжкі, пакрывіліся і заелі сухім хлебам. Прыйшоў чарод панцаку з грыбамі — і той належаў да катэгорыі нежаданых, да цёмнага, адваротнага боку каляднага меню. Дзеці яго аддана паспыталі і дружна пераклалі свае порцыі на талерку рашуча настроенаму татку, які ўзяўся яго чыкрыжыць і свідраваць, бы цела на анатамічным стале ў тыя часы, калі студэнтам праходзіў у трупярні практыку. Працяг вечара выглядаў ужо весялейшым: салата, смажаны карп, варажба па разрэзаным яблычку — зорачка выйшла на славу, воплескі і ахі, задыханая сінюшняя бабуля з дзіравым, як друшляк, сэрцам выбірае дзеткам з рыбіны костачкі, каўбаскамі папраўляе настрой спадар Нэпавім і пры гэтым хмурна адзначае сабе, як слаба насычаны кіслародам арганізм жончынай маці, а дзеці як конікі кідаюцца на печыва. «За тое, каб мы праз год зноў усе сабраліся ў добрым здароўі!» — задзынкалі келіхі з чырвоным вінам, і ў дарослых па-вупірску пабарвовелі вусны.

— Ну мама, тата, калі ўжо прыйдзе немаўлятка Ісус, Ісусік? Мы ўжо не можам чакаць. Бабуля! Давайце пойдзем паклічам яго. Я ўжо не вытрымаю! — загаласілі дзеці і пацягнулі бацькоў і бабулю з крэслаў.

Спадарыня Нэпавімава паглядзела на мужа і сашчапіла рукі:

— Можна? Калі ласка!

У гэтай просьбе было ўсё.

«Напэўна хоча, каб я яшчэ патрываў і аддаліў сваю гадзіну праўды, не раскрыў у вялікім разрахунку ўсе казачныя ашуканствы, у якіх я, доктар, практычны чалавек і зусім не рамантык пад абцасам летуценнай жанчыны без пятай дошчачкі, удзельнічаў насуперак свайму нежаданню. Я, ласкавы бацька, які любіць сваіх дзяцей і ўсе бачныя сляды свайго генатыпу, што я ў іх з такой радасцю пазнаю, — я дапусціў гэта з любові, толькі з любові», — пакутна думаў галава сям'і.

— Ну добра, давайце пойдзем паклічам дзіцятка Ісуса, толькі цёпла апраніцеся. Мама, мама, ты што, задрамала? Ну так, тут горача, з гэтых свечак столькі жа́ру, як з жарала Этны, а яшчэ і віно на дадатак, — так разумнічаў зяць, і раптам у яго пашырыліся зрэнкі. Авохці, цешча пазірае, але не бачыць, яе шырока расплюшчаныя нерухомыя вочы ўжо спяць у іншым вымярэнні.

— Мама, мама, дзеля Бога... — залямантавала была спадарыня Нэпавімава, але тут жа авалодала сабой і прыкрыла рот рукой.

— Божа Ісусе, тут жа дзеці...

Доктар намацаў пульс, спраўдзіў рэакцыю зрэнак — усё марна. Дзеці ўжо топчуцца ў калідоры і тупаюць ножкамі ў зімовых боціках, гарлаюць горлачкамі, абвінутымі доўгімі шалікамі.

— Мы ўжо гатовыя, паварушыцеся, хадзем клікаць немаўлятка Ісуса! — падганяюць яны адзервянелых дарослых, якія ўсё ніяк не падымуцца, быццам бы іх да крэслаў прыклеілі драўляным клеем або прыбілі цвікамі.

Спадар Нэпавім і спадарыня Нэпавімава не маглі знайсці паразумення ў тым, як ставіцца да Калядаў — першы, вядома ж, настойваў на лекаванні шокам і праўдай, ніякіх прывідаў, другая ўзносіла казку і ласку ў свеце, у якім так мала месца для летуценняў удзень, а ўночы выцесненыя страхі ператвараюцца ў начныя кашмары. Аднак цяпер яны анямелі і салідарызаваліся ў сваім маўчанні. Калісьці яны паабяцалі адно аднаму вернасць і каханне ва ўсіх жыццёвых перыпетыях, і няважна, што аднаму блізкі Гіпакрат, а другой Коменскі. І вось цяпер яны павінныя ўчыніць найвялікшае ашуканства Калядаў, поруч з якім тое пра дзіцятка Ісуса бляднее. Перад азоранымі дзіцячымі зенкамі, якія прагнуць ісці выглядваць бескарыслівага сябра дзяцей, бабуля дабрыла на другі бераг, і шчасце яшчэ, што яны гэтага не бачаць, у іх пакуль поўная галава фантазій, што з нябёсаў прыляціць той, хто выконвае жаданні, а таму яны не звяртаюць увагі на ненатуральна вырачаныя вочы з таго свету, які знаходзіцца далей за трыдзявятае царства і дзе дзядуля-мустанг прыбірае ў стайні, каб бабуля на яго не сварылася, што і ў вечнасці няма месца свінарніку. Чыстыя душы дзяцей не бачаць, што грудзі бабулі не ўздымаюцца і не апускаюцца, а чырвоныя сетачкі на шчоках ад цяпла ў памяшканні ператвараюцца ў лядовае напластаванне Антарктыды

Доктар на вачах сваіх нецярплівых дзяцей не наважыўся праводзіць нейкія дзеянні па рэанімацыі. Ён ведаў, што ўсё і так было б дарэмна і скіравана хіба на супакаенне ўласнай душы. Дык чаго б ён гэтым дамогся? Бабулю б дзецям не вярнуў, а дзіцятка Ісуса пахаваў бы. Не, ён не будзе рабіць нават спецыяльных тэстаў для пацверджання смерці! Ён занадта вялікі практык, каб ясна не бачыць, што цешчы ўжо не дапаможаш. Яны што, нарадзіліся на іншай

# прыйдзі да нас!

планеце, гэтыя мілыя, непрактычныя дзядулі й бабулі, якія заўжды, калі хочуць прынесці дзецям радасць, прыносяць ім траўмы, боль і дэзылюзіі? Мустанга, які загінуў пры гульні ў радэа, хапіла, другі раз дзяцей ад шоку ён мусіць абараніць.

«Так, мы не можам дапусціць, каб нечаканая, хоць і міласэрная смерць у коле сям'і папсавала цуд Калядаў, — рашуча пастанавіў спадар Нэпавім. — Час смерці мы пасунем, на дадзены момант цешча мусіць яшчэ быць жывая!»

І нават не дамаўляючыся з жонкай словамі, ён падымае мёртвую анучную ляльку, гэтую старэйшую копію сваёй прыгажуні жонкі, і пачынае з ёй гаварыць як нічога ніякага, хоць яно і чога, і якага, на двары ідзе першы снег гэтай зімы, і доктар Нэпавім з дапамогай спадарыні Рэнаты апранае цешчу, насаджае ёй на галаву махнатую аблавушку і выбіраецца з ёй у абдымку з перагрэтай кватэры ў снегам асветлены сад.

— Ха, прыкольна, — смяюцца дзеці, — бабуля, што... напілася? Давайце і мы дапаможам яе патрымаць!

— ТОЛЬКІ ПАСПРАБУЙЦЕ! — крычыць матуля, у якой здалі нервы.

На хвіліну ўсе нерухомеюць.

«Або да дзяцей дайшло, і цяпер усё страчана, — падумаў у гэты момант спадар Нэпавім, у якога на лбе выступіў пот, — або Каляды яшчэ можна выратаваць і зрабіць цудоўнымі, а Шчодры дзень дзівосным, трэба толькі супакоіцца і нават у думках ні на кога не злавацца».

І тут спадар Нэпавім, гэты хадзячы медыцынскі слоўнік, для якога біялогія — маці навук, а матэрыя — трывалы пункт у сусвеце, матэрыя — ягоная вера, — тут ён пачынае нячутна маліцца, каб нешта здарылася, каб здарыўся цуд, і тупае па сходах з цешчай у абдоймах, не раўнуючы скульптар Олбрам Зоўбэк, які перацягвае скульптуру, асцярожны асілак; тым часам дзеці атрымалі ад мамы вялікія запаленыя бенгальскія агні, якія адводзяць увагу ад факту, што статуя не гаворыць і не дражніць дзяцей, да чаго тыя былі прызвычаеныя. Нарэшце ўсе стаяць на белым іскрыстым снезе ў садзе і гукаюць хорам, гучна і каральна: «Ісус-немаўлятка, прыйдзі да нас! Ісус-немаўлятка, аўууу! Прыйдзі да нас! Калі лаааскаааа!»

Але не, не гэта гукаў у сваіх думках змучаны доктар, які парушыў этычны прынцып свайго рамяства. І які чмуціць дзецям галовы больш, чым ён сам мог бы сабе хоць калі ўявіць. Але нешта ён гукаў, нешта нематэрыяльнае, нешта, што магло б вярнуць час, адматаць стужку на пачатак, зноў пачаць той вечар..

— О, глядзі, вунь ляціць! — паказаў брацік сястрычцы і махнуў запаленым бенгальскім агнём так няспрытна, што абпаліў аблавушку старой. Рука той маланкава ўзляцела і скінула небяспечную палачку ў снег.

— Оцік, асцярожней! — заўшчуваў яго бацька. — Ты ледзь не спаліў бабулю.

Пры гэтых словах вадаспад слёз, якія не замярзаюць на марозе і на холадзе не высыхаюць, рынуўся па шчоках спадарыні Нэпавімавай. Муж з самавалоданнем адхіліў атаку бенгальскага агню мамай, але калі яна не рэагуе нават на полымя, то надзеі на ўваскрэсенне больш няма. Гэта канец. Аднак трэба сабраць волю ў кулак і бегчы ў дом, працягваць гуляць у тую гульню, маланкава раскласці пад ялінкаю падарункі. Дзеці не павінныя даведацца, ні пра што здагадацца, трэба захаваць халодную галаву. Якраз прыйшоў той момант, калі дзеці з татам будуць спяваць калядкі, канечне, вылезе цікаўны сусед і пажадае ім вясёлых Калядаў, і дзеці ў наплыве эмоцый не заўважаць, што мама на хвілінку знікла і з хуткасцю механікаў «Формулы-1» у боксе раскладвае запакаваныя падарункі ад немаўляткі Ісуса пад ялінкай.

— Ходзіць-паходзіць месяц па небе, — спявалі кранальнымі галаскамі дзеці, тата мармытаў, усе міжсобку трымаліся за рукі разам з нямой бабуляй і злёгку ківаліся ў рытм.

— О, як я гэтага чакаў, — і праўда вылез са сваіх дзвярэй шумны сусед з чырвонай нюхаўкай, — я так люблю Каляды. Вясёлых святаў!

Ён галёкае, кідаецца правай рукой вітацца з Оцікам, Вікторыяй, вялікім брунатным Отам і бледненькай спадарыняй Уластай, упакаванай па-эскімоску, а ў левай трымае бутэльку рому. Спадару Нэпавіму карціць зараўці звярыным голасам, гэта ненармальна, ну добра, некалі і ён расказваў цынічныя жарты ў анатамічнай зале, але яму ўжо неўзабаве сорак, ён любіць сваіх дзяцей і не можа ўспрымаць як жарт тое, што ў адным шэрагу з дзецьмі трымаецца за рукі з нябожчыцай, якую ніхто кампетэнтны не аб'явіў мёртвай, што яны гукаюць з ёю немаўлятка Ісуса, кранаюцца ледзяной далоні і спяваюць хорам калядку, і дзеці пры гэтым нават не заўважаюць, што бабуля, якая заўсёды любіла спяваць, маўчыць, бы калядны карп.

— Спадзяюся, моладзь вам не дакучае, а калі б дакучала, то я жыву адзін, можаце правесці Шчодры вечар у мяне, — шэпча сусед, ад якога патыхае ромам, цешчы на вушка і назойліва прыўздымае ёй край шапкі.

А потым, перш чым спадар Нэпавім паспеў яму перашкодзіць, увогуле робіць нешта жахлівае — прыкладае цешчы да вуснаў бутэльку рому.

— Ай-яй-яй, — грамавым голасам залямантаваў спадар Нэпавім і зароў так страшна, што дзеці ажно падскочылі: — ІСУС-НЕМАЎЛЯТКА, ПРЫЙДЗІ ДА НАС!

І з неба не ўпала зорка, толькі сусед упаў у мяккі снег і пацягнуў за сабою нябожчыцу, а спадар Нэпавім, і ўжо таксама спадарыня Нэпавімава, якая выканала сваю падарункавую місію і вярнулася з хуткасцю каметы, падымаюць з сумёту той гармідар і суседу, які, перабраўшы, не перастае смяяцца, робіць непрыстойныя прапановы жанчыне ў веку ягонае маці і нават пацалункам сасмактаў разліты ром з яе ледзяных вуснаў, настойліва вымаўляючы:

— Спадар Кайнар, вы перабралі, гэтак нельга, збярыцеся, тут жа дзеці!

Яны дасягаюць прынамсі таго, што ён трымаецца далей ад цешчы, калі яны цягнуць яе, як вялікага плюшавага звера з дома цацак «Sparkys», па лесвіцы нагару да кватэры разам з нецярплівымі дзецьмі, а потым перад суседавым носам ляскаюць дзвярыма; ён нешта гарлае, але слухачы зніклі, і ён мусіць ісці да сябе дадому па новую бутэльку. Нэпавімы ўсёй сям'ёй стаяць перад бліскучай ялінкай і на паркеце бачаць мокрыя сляды ды падталы снег па немаўлятку Ісусу, які выявіўся сапраўды шчодрым, і дзеці імпэтна кідаюцца на падарункі пад галінамі ялінкі, а анучная лялька між татам і мамай раптам ажывае і галёкае разам са сваімі ўнукамі:

— Дзякуем табе, Ісус-немаўлятка!

Тата — доктар, практык і разумны чалавек — самлеў на месцы.

— Рэнатка, дапамажы мне, тут трэба нешта мацнейшае, віскі, — цешча аказвае тату першую дапамогу. — Давайце яго пасадзім...

Ачуняўшы доктар Нэпавім яшчэ падчас распакоўвання падарункаў правёў усе магчымыя ў хатніх умовах абследаванні жончынай маці і мог канстатаваць адзінае. Не існуе лагічнага тлумачэння, як смяротна хворая жанчына, у якой жыццёвая энергія скончылася падчас каляднай вячэры, страціла прытомнасць, дыханне і кровазварот, прайшла праз клінічную і біялагічную смерць, на шчоках і канцавінах у яе разрасталіся цыянатычныя плямы, а на першым марозе і снезе гэтай зімы ў яе застыла кроў, — як яна ажыла, бы вераценніца, ад дотыкаў чалавечага цяпла.

Пачынаючы ад Трох каралёў, ён склікаў сярод сваіх знаёмых дактароў кансіліюмы. Паводле «Чэшскага медыцынскага гадавіка» ў гэтым годзе на свеце адбылося толькі шэсць такіх медыцынай ясна не растлумачаных выпадкаў. Здарэнне з ягонаю цешчай было б сёмым. Ён мусіў раскрыць праўду і расказаць ёй, што здарылася. Прымусіў да серыі абследаванняў, але нават найбольшыя цынікі не здолелі прыдумаць жарт, які б стан старой кабеты вярнулі ў зямное вымярэнне, не кажучы ўжо, каб вытлумачылі.

«Калі існуе сіндром раптоўнай смерці ў немаўлят, то ў старых медыцынская навука, відавочна, мусіць дапусціць сіндром раптоўнага ажыўлення, — дэбатавалі між сабой дактары і чухалі галовы. — Інакш ніхто з нас не здатны гэтага растлумачыць. Паводле ўсіх абследаванняў і лабараторных тэстаў спадарыня Уласта мусіла б быць мёртвай. Канчаткова і беспаваротна. Матэрыя скончыла сваё абмежаванае існаванне. Гадзіннікавы механізм спыніўся. Пры гэтым нашая дама жыве, дыхае, спажывае печыва, салату, бутэрброды і вылучае перапрацаваныя рэчывы, быццам бы штосекунду атрымлівае ў сэрца адрэналінавую ін'екцыю».

Такі стан, шчодра падключыўшы фантазію, сёння ўжо можа патлумачыць толькі спадар Нэпавім, які трымаў яе за руку, нячутна маліўся і спяваў дзіцятку Ісусу. Ён пакляўся сабе, што ані дзецям, гэтым дурнёхам, трыманым у няведанні, ані сабе ўжо ніколі не будзе забараняць ніякіх казак. Наадварот, для спакою душы ён павінны іх навукова абгрунтаваць. А таму на сёлетні Шчодры дзень акрамя цешчы прыйдзе ўвесь кансіліюм дактароў і натуралістаў, якіх ён толькі знайшоў, разам са сваімі сем'ямі, і яны будуць вельмі строга назіраць за той зданню, якая будзе з імі трымацца за рукі на снезе і туравацьдзіцячым галаскам: «Ісус-немаўлятка, прыйдзі да нас!».

І нешта сапраўды станецца, як сталася год таму, — станецца праз год, а потым зноў і зноў, пакуль бягуць гады і падае снег і дакуль зямля не перастане круціцца, а Анёл смерці не возьме дадатковую змену, каб потым сысці ў бясконцы адпачынак.

Толькі гэтым разам на Шчодры вечар на снезе з калядкамі будзе адсутнічаць адна цёплая мужчынская далонь, ромавае дыханне, мокры пацалунак і непрыстойная прапанова старой кабеце, якая з тых лапаў вырвалася, як цнатлівая падталая сняжынка, і нават не пачырванела.

Закон статыстыкі не перастае дзейнічаць і на Каляды. Анёл смерці адвёў суседа Кайнара, галаву за галаву, бо ў вечным кругавароце жыцця і смерці павінны быць парадак.

Амэн.

**Пераклад з чэшскай мовы Сяргея Сматрычэнкі.**

**«Прайдзісвет», № 15**



# Украінскія пераможцы «Кнігі года ВВС-2015»

**«ВВС-Украіна» абвясціла пераможцаў прэміі «Кніга года-2015», прадстаўленай у партнёрстве з Культурнай праграмай Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця.**

Кнігай 2015 года стаў зборнік апавяданняў Васіля Махно «Дом у Бэйцінг Галовей», а пераможцам у намінацыі «Дзіцячая кніга года» названая кніга Андрэя Бачынскага «140 дэцыбел цішыні».

Кажучы пра кнігу-пераможцу ў намінацыі «Кніга года-2015», рэдактар Еўрапейскага аддзела Сусветнай службы ВВС Арцём Ліс адзначыў: «Прачытаўшы «Дом у Бэйцінг Галовей», я з задавальненнем падзяліцца радасцю, якую атрымаў ад гэтага твора. Яркая і глыбокая проза Васіля Махно заслугоўвае таго, каб як мага больш людзей пазнаёміліся з ёй. Я спадзяюся, што званне пераможцы «Кніга года ВВС» дапаможа гэтаму выданню знайсці яшчэ больш чытачоў, і жадаю спадару Махно творчага натхнення».

Выканаўчы дырэктар Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця ў краінах Усходняй Еўропы і Каўказа Фрэнсіс Маліж пракаментаваў выбар «Дзіцячай кнігі года ВВС-2015»: ««140 дэцыбел цішыні» — гэта кніга, у якой чытача чакае цэлы вір прыгод. Яе галоўныя героі — выхаванцы дзіцячага дома для глухіх дзяцей, а дынамічны сюжэт запрашае нас у свет гэтых персанажаў — хлопчыка і дзяўчынкі. Мы радыя падтрымаць кнігу, якая раскрывае дзіцячы розум, успрыманне жыцця людзей, якія адрозніваюцца ад іншых. Мы ўсе ведаем, наколькі важным з'яўляецца ўмацаванне культурнай разнастайнасці ў прызме будучыні».

Узнагароды «Чытач года-2015» атрымалі Яўген Іванчанка за рэцэнзію на кнігу Андрэя Любкі «Карбід» і Алена Несцярэнка за рэцэнзію на кнігу Андрэя Бачынскага «140 дэцыбел цішыні».

Кожны з двух пераможцаў атрымае ўзнагароду па 1000 фунтаў стэрлінгаў у грыўнавым эквіваленце. Выдадуць дзвюх кніг-пераможцаў будуць мець права выкарыстоўваць лагатыпы «Кнігі года ВВС» у сваіх наступных выданнях.



# «Рускі Букер»

**Лаўрэатам літаратурнай прэміі «Рускі Букер» за 2015 год стаў Аляксандр Снегіроў за раман «Вера» — кнігу пра няўдалыя пошукі сапраўднага мужчыны ў сучаснай Расіі.**




Суддзі літаратурнай прэміі «Рускі Букер» вызначыліся з уладальнікам прэміі па выніках сезона 2014-2015 гадоў. Яго імя назваў старшыня журы пісьменнік Андрэй Волас на традыцыйнай прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў Маскве.

«Вера» — адна з самых прыкметных кніг 2015 года. Раман пра жанчыну з простым імем, жыццё якой пачыналася на фоне бацькоўскай нялюбасці. Кніга распавядае пра тое, як Вера спрабавала знайсці сваё месца ў велізарным свеце, хацела прыхінуцца да надзейнага мужчынскага пляча — з'ехала ў Амерыку і вярнулася, спрабавала стварыць сям'ю з крамлёўскім чыноўнікам, банкірам і рэжысёрам. Усё няўдала — і ці таму, што сама такая, ці то праз тое, што Вера — адлюстраванне Расіі.

Аляксандр Снегіроў, лаўрэат прэміі «Дэбют» 2009 года за апавяданні, з «Верай» быў адзначаны трыма айчыннымі кніжнымі ўзнагародамі. На прэмію, дарэчы, вылучаўся часопісны варыянт рамана, апублікаваны ў «Дружбе народов»; у жніўні «Веру» асобнай кнігай выпусціла выдавецтва «Эксмо». Раман прайшоў у шасцёрку фіналістаў «Нацыянальнага бестсэлера», але «прайграў» Сяргею Носаву і яго «Фігурным дужкам». Быў у доўгім спісе «Вялікай кнігі», але ў фінальную дзявятку раман А. Снегірова не трапіў. І толькі «Рускі Букер» ацаніў яго, хоць супернікі былі моцныя: «Жаніх і нявеста» Алісы Ганіевай, «Калыханка» Уладзіміра Даніхнова, «Сярод людзей» Юрыя Пакроўскага, «Зона затаплення» Рамана Сенчына і «Зулейха адкрывае вочы» Гузель Яхінай (якая, дарэчы, атрымала прыз «Кніга года» і прайшла адбор «Вялікай кнігі»).

«Выбар быў сенсацыйным, хоць ніхто не сумняваўся, што ў гэтага аўтара вялікая будучыня», — выказаўся сакратар прэміі Ігар Шайтанаў.

За «Рускі Букер» Аляксандр Снегіроў атрымае грашовы прыз — 1,5 мільёны расійскіх рублёў.

Прэмія «Рускі Букер» — найстарэйшая расійская літаратурная ўзнагарода. Яна была заснаваная ў 1992 годзе па ініцыятыве Брытанскага савета ў Расіі — як аналаг англамоўнай Букераўскай прэміі. Яе лаўрэатамі ў розныя гады былі Булат Акуджава, Міхаіл Шышкін, Людміла Уліцкая, Васілій Аксёнаў, Вольга Слаўнікава. У мінулым годзе прэмію атрымаў Уладзімір Шароў за раман «Вяртанне ў Егіпет».



# Прэмія Конрада

**Вядомая ўкраінская пісьменніца Сафія Андруховіч стала лаўрэатам Прэміі імя Джозэфа Конрада.**

У гэтым годзе ўзнагароджанне адбылося ў пяты раз.

Сафія Андруховіч — пісьменніца, перакладчыца і публіцыст, вядомы па раманах «Лета Мілены», «Сёмга» і «Фелікс Аўстрыя», які стаў «Кнігай года ВВС» і атрымаў прэмію Фонда Лесі і Пятра Кавалёвых.

Прэтэндэнтамі на перамогу былі таксама Астап Слівінскі і Аляксей Чупа.

Кандыдатуры пісьменнікаў вылучаны чытацкай аўдыторыяй і абіраліся аўтарытэтным міжнародным журы.

Літаратурная прэмія заснаваная Польскім Інстытутам у Кіеве. З 2007 года ёю ўзнагароджваюць украінскіх пісьменнікаў за паслядоўнасць у рэалізацыі творчага шляху, інавацыйнасць формы і ломку стэрэатыпаў.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў (інфармацыя і фота) bbc.ua, ТАСС, Cultprostir, Zaxid.net, ria.ru, novostiliteratury.ru, prostokniga.com.ua, The Guardian, Associated Press, vsiknygy.net і Newsru.ua.**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

TV

## 27 СНЕЖНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.15** Меладрама «Усё будзе добра» (Расія).
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Гісторыі рамонту.
**10.25** «50 рэцэптаў першага». Кулінарнае шоў.
**11.05** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**11.45** Нашы.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** Каробка перадач.
**13.10** Зона Х. Вынікі тыдня.
**13.45** Таямніцы следства.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Eurovision. Вынікі тыдня.
**15.55** Меладрама «Папялушка з райскага выспы».
**17.33** Драма «Другі шанец» (Расія).
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Камедыя «Клушы» (Расія).

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Нядзельная пропаведзь».
**09.20** «Смяшарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.40** «Фазэнда».
**11.15** Фільм «Сватаўство гусара».
**12.30** Прэм'ера. «Барахолка».
**13.20** Прэм'ера. «Госці па нядзелях».
**14.15** «Дзве зоркі». Навагодні выпуск.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Дзве зоркі». Навагодні выпуск.
**17.00** «Цюцелька ў цюцельку».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Голас».
**23.25** «Што? Дзе? Калі?» Зімовая серыя гульняў.
**00.35** Псіхалагічны трылер «Метад».

### СТВ

**06.25** Канцэрт каманд Вышэйшай лігі КВЗ.
**07.50** «Сардэчна паскардзіцца».
**08.10** «Аўтапанарама».
**08.35** «Галодныя гульні: І ўспыхне полымя».
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** «Утаймаванне свавольнага».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Гары Потэр і прынц паўкроўка».
**15.15** «Дарагая перадача».
**15.30** «Аўтапанарама».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Цэнтральны рэгіён.
**17.20** Аўтапанарама.
**17.50** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.25** «Галодныя гульні: Сойка-перасмешніца. Частка 1».



**22.30** «Зорны рынг».
**23.30** Дакументальны спецпраект.
**01.05** «Утаймаванне свавольнага».

### Беларусь 2

**06.55** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» (Італія).
**08.00** Камедыйны серыял «Хто ў доме гаспадар?» (Расія).
**10.00** «Арол і рэшка. Нязведаная Еўропа». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**11.00** Хачу ў тэлевізар!
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Пяцёрачка.
**12.10** «Зразумець і абясшкодзіць». Аўтарскі праект.
**12.40** Вулічная магія.
**13.15** Камедыйны серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**15.20** «Сакрэтная служба Санта-Клаўса».
**17.05** Фантастычны баявік «Людзі Ікс: Апошняя бітва» (Канада-ЗША).



**19.15** Суперлато.
**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.10** «Панаехалі». Рэаліці-шоў.
**22.00** Спортлато 5 з 36, КЕНА.
**22.25** Хачу ў тэлевізар!
**22.30** Разбуральнікі міфаў.
**23.40** Фантастычная меладрама «Чужаземка» (ЗША-Вялікабрытанія).

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Нестар Бурма». Крымінальны серыял (Францыя, 1994 г.).
**09.45** «Раманс пра закаханых». Рамантычная драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1974 г.).
**11.55** «Подых струн». Музычная праграма. Госці: Група «HAVI», група «Rahis», Алег Сяменаў.
**12.35** «Калейдаскоп».
**12.50** «Наперад у мінулае».
**13.20** Хіт-парад «Сто песень для Беларусі».
**14.15** «Забытая мелодыя для флейты». Меладрама. 1-я - 2-я серыі (СССР, 1987 г.).
**16.25** «Свет прыроды». Маленькі зімовы сюжэт.
**16.40** «Свет прыроды». Лясны прыгажун.
**16.55** «Калейдаскоп».
**17.10** «Навагодні феерверк».
**18.05** «Пан Валадыёўскі». Гістарычная драма. 1-я і 2-я серыі (Польшча, 1969 г.).
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Песні навагодніх начэй». 80-я гады.
**21.30** «Дым над вадой». Канцэрт Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь. Дырыжор - Віктар Бабарыкін.
**22.30** «Нестар Бурма». Крымінальны серыял (Францыя, 1994 г.).
**23.55** Леанід Млечын прадстаўляе. «Гарбачовы. Гісторыя кахання». Дакументальны фільм цыклу «Сусветныя таямніцы».
**00.35** «Калейдаскоп».
**00.50** Перерыв в вещании.

### Беларусь 5

**07.20** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Хакей. Нёман - Гомель.
**09.25** Хакей. Чэмпіянат свету. Фінляндыя - Беларусь.
**11.15** Баскетбол. Лакаматыў - Цмокі.
**12.55** Хакей. Шахцёр - Юнацтва.
**15.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Саўтгэмптан - Арсенал.
**16.55** Хакей. Чэмпіянат свету. Беларусь - Славакія.
**19.10** Авертайм.
**19.40** Хакей для ўсіх.
**20.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**21.20** Баскетбол. НБА. Мілўокі - Таронта.
**23.15** PRO спорт. Навіны.
**23.25** Фактар сілы.
**23.55** Баскетбол. НБА. Мэмфіс - Лэйкерз.

### Белсат TV

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** Ліс Леон, мультсерыял.
**07.55** Чатыры бакі казак, мультсерыял: Вядзьмарка, жанчына і птушка.
**08.00** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**08.15** Занатоўкі натураліста.
**08.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**09.05** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.45** Два на два (тэледыскусія).
**10.15** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.45** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**10.55** Занатоўкі натураліста.
**11.10** Сонечная дзіда, серыял.
**11.40** Мова нанова.
**12.00** Дакументальная гадзіна: Жыццё нельга змарнаваць, д/ф.
**12.55** Чэслаў Немэн, д/ф.
**13.55** Людскія справы.
**14.30** Ежы Папялушка. Пасланец праўды, д/ф.
**16.00** Ўоліс і Эдўард, м/ф.
**17.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.00** Кольката ад золку да змяркання, д/ф, 2015 г., Польшча.
**18.55** Невядомая Беларусь: Амерыканская мара па-беларуску, д/ф.
**19.45** Сведкі: Змаганне за беларускую мову.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** Хлопчык і клоўн, д/ф, 2011 г., Данія.
**21.25** Кінаклуб: «Жыццё таé іншай».
**21.40** Жыццё таé іншай, м/ф.
**23.20** Праведнікі, тэлесерыял.
**00.05** Я люблю дэмакратыю. Туніс, д/ф.
**01.00** Невядомая Беларусь: Госці, д/ф.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы Час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

## ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

БЕЛПОЧТА — ф. ПС 112

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Увага! Змяніўся кошт падпіскі!

Паважаныя чытачы! На жаль, мы вымушаны павялічыць падпісны кошт. З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **32 000** руб. Падпісны кошт **I квартала** 2016 года — **90 000 рублёў**.

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

# Першая лэдзі з пікантнай фотасесіі

Алег НОВІКАЎ

**Амерыканская публіка ў шоку ад выхадак Дональда Трампа — фаварыта праймерыз у кандыдаты на прэзідэнта ад рэспубліканцаў. Не менш непакоіць амерыканскі істэблішмент і перспектыва таго, што першай лэдзі можа стаць яго жонка Меланія.**

Крытэры першай лэдзі ў амерыканскай свядомасці мяняліся не раз, аднак пры гэтым пэўны канон заставаўся — адданая жонка, добрая маці, адукаваная, з добрым густам жанчына, верны памочнік. Магчымы прыход у Белы дом місіс Трамп разбурае шматлікія раней напрацаваныя шаблоны. Дастаткова таго факту, што яшчэ ніколі першымі дамамі ЗША не былі жанчыны, якія рабілі фотасесіі ў касцюме Евы. У Меланіі такі вопыт ёсць: у 2000 годзе яна пазіравала для брытанскага мужчынскага часопіса «GQ». Здымкі, зробленыя ў прыватным самалёце Трампа падчас нейкага палёту, суправаджаў адпаведны загаловак: «Секс на вышыні 10 тысяч метраў».

Іншыя старонкі біяграфіі Меланіі таксама не пасуюць класічнаму стандарту першай лэдзі. Па-першае, яна — трэцяя жонка Дональда Трампа і маладзейшая за яго на 24 гады. Па-другое, Меланія нарадзілася не проста за межамі Штатаў, але, у дадатак, у краіне, якая будавала сацыялізм. Яе родны горад — Сеўніца ў Славеніі, якая на час яе нараджэння ў 1970 годзе была часткай Югаславіі.

А між тым Дональд Трамп усюды падкрэслівае, што Барак Абама насамрэч нарадзіўся па-за межамі краіны, і таму не можа быць прэзідэнтам краіны, як таго патрабуе закон ЗША. Амерыканская сатыра ахвотна жартуе з гэтага, уяўляючы, як на першым спатканні Дональд патрабуе ад Меланіі паказаць пасведчанне пра нараджэнне. Дарэчы, яна атрымала амерыканскі пашпарт толькі ў 2006 годзе.

Меланія Кнаўс — дачка аўтатэхніка і дызайнера — пачала кар'еру мадэлі пасля навучання ў Люблянскім універсітэце. Пасля скіравалася ў Мілан і Парыж, адкуль у 1996 годзе перабралася за акіян. На той момант яна была сапраўднай зоркай мадэльнага бізнесу. Дастаткова сказаць, што яе выявы з'яўляліся на вокладках такіх прэстыжных часопісаў, як «Vogue», «Vanity Fair», «Elle», «FHM» і г.д.

З будучым мужам яна пазнаёмілася, дзякуючы дырэктару мадэльнай кампаніі, на якую працавала ў 1998 годзе. Ён прымусіў Меланію (дарэчы, заўзятую дамаседку) і іншых супрацоўніц свайго агенцтва для нейкіх рэкламных мэтаў наведаць вечарыну ў адным з начных клубаў Нью-Ёрка. Там яна і сустрэла Трмпа. Раман скончыўся шыкоўным вяселлем у 2000 годзе (нявеста была ў сукенцы ад Christian Dior коштам 200 тысяч долараў). У 2006 годзе ў Трампаў нарадзіўся сын Барон Вільям. Ужо будучы місіс Трамп, Меланія пачала асабісты бізнес, запусціўшы лінію жаночай бялізны «Melania™».

Цяпер, на 46-м годзе жыцця, у яе біяграфіі пачынаецца новы этап, калі яна фактычна выступае ў ролі публічнага палітыка. Усе заявы Меланіі, безумоўна, уплываюць на рэйтынг мужа. Увогуле, паліттэхнолагі пазітыўна ацэньваюць тандэм Дональд — Меланія. На іх думку, дастаткова мяккі і інтэлігентны характар Меланіі здольны кампенсаваць экстравагантныя выхадкі мужа. Хаця, з іншага боку, сам Трамп сцвярджае, што менавіта жонка прыдумала агрэсіўны стыль яго выбарчай кампаніі.



Фота www.nypost.com

Таксама электарату можа спадабацца такая якасць Меланіі, як паслядоўная падтрымка сваёй другой паловы. Што б пра Трампа ні пісала прэса, Меланія заўсёды кажа, што яе Дональд мае «геніяльны розум». Яна нават не крытыкуе агрэсіўныя выказванні мужа супраць іншаземцаў, да катэгорыі якіх таксама, па-сутнасці, належыць. Меланія старанна выконвае абавязкі маці, займаецца адукацыяй сына, што таксама падабаецца выбаршчыку. Акрамя таго, яна валодае чатырма мовамі і, безумоўна, як бізнесмен, больш валявая і здольная браць адказнасць за свае крокі.

На пытанне, што яна будзе рабіць, калі Трамп пераможа на выбарах, Меланія кажа, што будзе паводзіць сябе максімальна кансерватыўна. Для яе узарам першых лэдзі з'яўляюцца жонкі прэзідэнтаў Кенэдзі і Форда. У сваю чаргу, палітолагі кажуць, што прыход Меланіі ў Белы дом выкліча там рэвалюцыйныя змены, падобныя на тыя, што зрабіла ў свой час славутая Жаклін Кенэдзі.

Калі пакапацца ў гістарычных архівах, то постаць Меланіі ўвогуле выглядае не такой ужо і арыгінальнай. У гісторыі ўжо былі першыя лэдзі, якія нарадзіліся за межамі ЗША. Гэта, напрыклад, жонка прэзідэнта Адамса. Трошкі амаральна з пункту гледжання амерыканскіх кансерватараў выглядала і Нэнсі Рэйган. Яна была не першай жонкай прэзідэнта Рональда Рэйгана. Дарэчы, і сам Трамп праз прызму гісторыі выяўляецца не такім ужо экстрэмістам. Усе крытыкуюць яго скандальную прапанову не пускаць мусульман у ЗША. Аднак сто год таму такое ж катэгарычнае правіла дзейнічала адносна кітайцаў, і прагрэсіўную публіку тая норма асабліва не хвалявала. У любым выпадку, пра сапраўдную натуру Меланіі лепш казаць, калі пачнуцца праймерыз, і яна будзе вымушана часцей з'яўляцца на публіцы.

Па вялікім рахунку, з'яўленне ў Белым доме Меланіі — не самы вялікі катаклізм для вобраза першых лэдзі амерыканскіх прэзідэнтаў. Калі прэзідэнтам стане Хілары Клінтан (а яна зараз лідар сацыялагічных апытанняў), то тэрмін першай лэдзі набывае заблытаны фармат. У такім выпадку трэба будзе казаць пра «першага джэнтльмена», функцыі якога павінен выконваць муж Хілары — Біл Клінтан. «Першы джэнтльмен» — гэта ўжо гучыць як нейкі нонсэнс, не кажучы пра тое, што асабістыя адносіны паміж Хілары і Білам, мякка кажучы, не ідэальныя.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Беларусь і Турцыя ўжо некалькі дзесяцігоддзяў маюць самыя глыбокія эканамічныя сувязі: турэцкія бізнесмены ахвотна інвестуюць у беларускую прамысловасць, сферу абслугоўвання, гасцінічны бізнес і мабільную сувязь. Краіны маюць шматмільённы тавараабарот, а беларускія турысты працягваюць адпачываць на турэцкіх курортах. Губляць напрацаваны ва ўзаемаадносінах з Турцыяй капітал — як фінансавы, так і ўзаемнага даверу — з-за канфлікту Масквы і Анкары афіцыйны Мінск не збіраецца. Больш за тое, Беларусь не збіраецца сварыцца з усім светам з-за Расіі і будзе нягледзячы ні на што далей праводзіць сваю незалежную знешнюю палітыку. Менавіта гэта даў зразумець Лукашэнка, выступаючы ў Ханоі і Ашхабадзе.

**«Сегодня» (Расія)**

Усяго праз 25 гадоў пасля атрымання незалежнасці Беларусь можа пахваліцца Нобелеўскай прэміяй. Праўда, вось нядача: Алексіевіч піша па-руску. Да таго ж яна не толькі крытыкуе вялікадзяржаўную палітыку Уладзіміра Пуціна і дыктатуру беларускага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, але і сціплы патэнцыял палітычнай апазіцыі.

**«Neue Zuercher Zeitung» (Швейцарыя)**

Паводзіны беларускага лідара выглядаюць не менш двухсэнсоўнымі. Візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Маскву быў нечакана адменены. І ў той жа дзень прэзідэнт Беларусі ў сябе ў рэзідэнцыі прыняў лепшага сябра Эрдагана — Ільхама Аліева. Факт нечаканага прылёту Аліева ў Мінск аглядальнікі палічылі выклікам беларускага боку Крамлю. Маўляў, у вас там з Турцыяй непаразуменні, але вы ўжо не крыўдуйце — мы тут пакуль у сябе прымем яе саюзніка.

**«Новое время» (Арменія)**

Эксперты па пытаннях эканомікі ў Мінску, у адрозненне ад еўрапейскіх чыноўнікаў, не вераць, што ўлады рашацца на рэформы. Як паведамлялася, Аляксандр Лукашэнка правёў чарговую нараду па эканамічных пытаннях, дзе зноў падкрэсліў, што радыкальных зменаў ён не дапусціць. «Независимая газета», спасылаючыся на меркаванне мясцовых экспертаў, пісала, што Лукашэнка баіцца страціць эканамічную, а за ёй і палітычную ўладу. Менавіта гэта дае падставу аналітыкам сёння сумнявацца, што ўсе добрыя намеры Брусэля будуць рэалізаваныя.

**«Независимая газета» (Расія)**

Лукашэнка апынуўся адзіным постсавецкім лідарам па-за расійскімі межамі, які самым рашучым чынам спыніў любыя русафобскія намеры. Вось толькі зрабіў ён гэта не дзеля нас. Проста нацыянальная беларуская ідэя першапачаткова была занадта прымітыўнай для экспансіі ўнутры соцыуму, і ўсе рашэнні «бацькі» сталі нічым іншым, як адэкватнай палітыкай у інтарэсах абсалютнай большасці. Менавіта на гэтай рыторыцы ён і прыйшоў да ўлады, і за некалькі гадоў здолеў зарабіць крэдыт даверу на жорсткі ўціск любой апазіцыі.

**«Газета.ру» (Расія)**

У 2015 годзе Беларусь як ніколі прытуліліся да заходняга пляча. З Аляксандра Лукашэнкі і яго бліжэйшага атачэння былі зняты санкцыі, у ЕС намякнулі на перспектывы супрацоўніцтва і крэдыты МВФ, NATO зачасціла ў калісьці апошні аплот таталітарызму ў Еўропе. Сыход ад «каранёў рускага свету» відавочны, а спробы ўлагодзіць краіны капіталізму відавочныя. Так, вядома, чарговыя прэзідэнцкія выбары зноў паднялі ў які раз пытанне: «Доколе?» У якім крыецца і адказ — да Колі. Але, каб планы бацькі ажыццявіліся, яму неабходна максімальна засцерагчы сябе ад турыстычнага наплыву зялёных чалавечкаў, вось і шукае падтрымкі ў Захаду, калі не ваеннай, то хаця б палітычнай.

**Обозреватель (Украіна)**

Невялікі нюанс: ёсць такі генерал беларускай арміі па прозвішчы Рагажэўскі. Ён пэўны час быў намеснікам міністра абароны Беларусі па ўзбраенні. Зараз гэты генерал з'яўляецца прадстаўніком украінскай кампаніі «Мотор Січ» (якая ў ліку іншага вырабляе рухавікі для баявых верталётаў) у Беларусі. Гэта пэўны прыклад зрошчвання ваеннай эліты і ваенна-прамысловага комплексу паміж краінамі.

**EADaily (Расія)**

Беларусь — маленькая закрытая сістэма, у якой апошнія пяць-шэсць гадоў адбываецца поўная эканамічная катастрофа. Беларусы, вядома, самы цярплівы народ, але калі пачнуцца рэальныя перабоі з ежай, і гэтая сістэма не вытрымае. Украінцы апынуліся менш цярплівымі.

**Delfi (Літва)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Невядомая рэспубліка

У Расіі нечакана гучна ўзгадалі малавядомую дату — 95 гадоў таму ў снежні 1920-га перастала існаваць самаабвешчаная рэспубліка Паўночная Інгрыя. Рэспубліка аддзялілася ад Савецкай Расіі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі мясцовыя сяляне не пажадалі ісці ў Чырвоную Армію і замацаваліся ў зоне, што знаходзіцца паміж Расіяй і Фінляндыяй. Нягледзячы на невялікую плошчу рэспублікі (30 квадратных кіламетраў), яе грамадзяне ўмудрыліся за два гады стварыць дзяржаву з усімі атрыбутамі — гербам, сцягам, гімнам, арміяй, флотам, ваеннай формай, ваеннымі ўзнагародамі, судом, газетай, поштай і паштовымі маркамі. Паколькі тэрыторыя знаходзілася ўсяго ў 30 кіламетрах ад Петраграда, бальшавікі, натуральна, не маглі дапусціць існавання Паўночнай Ігнрыі. А ліквідаваць паўстанцкі анклаў ім дапамаглі фіны, якія прызналі гэтую тэрыторыю часткай РСФСР. Пасля гэтага ў снежні 1920-га атрады і дзяржаўны апарат Паўночнай Інгрыі вымушаны былі адступіць у Фінляндыю. Цікава, што феномен Паўночнай Інгрыі, якой звычайна цікавіліся выключна гісторыкі, цяпер прыцягвае ўвагу большай часткі расійскага грамадства, і перш за ўсё тых жыхароў Пецярбурга, якія шукаюць гістарычныя падставы для патрабавання аўтаноміі ад Масквы.

**Паводле расійскай прэсы**

### ГАМБІЯ. Яшчэ адной ісламскай дзяржавай стала больш

Яйя Джаме, прэзідэнт Гамбіі, абвясціў, што цяпер афіцыйная назва гэтай краіны павінна гучаць як Ісламская рэспубліка Гамбія. Па словах кіраўніка дзяржавы, якая знаходзіцца ў Заходняй Афрыцы, гэтая дэкларацыя сведчыць пра канчатковы разрыў з каланіяльным мінулым (краіна атрымала незалежнасць у 1965 годзе). Гамбійскі лідар таксама дадаў: з улікам таго, што 90 працэнтаў тубыльцаў з'яўляюцца вернікамі ісламу, такое рашэнне лагічнае. Таксама палітык паведаміў, што правы хрысціянскай меншасці будуць гарантаваныя. Нагадаем, што Яйя Джаме кіруе Гамбіяй з 1994 года, а яго рэжым лічыцца адным з самых аўтарытарных на Чорным кантыненце. Праўда, апазіцыя не асудзіла крок кіраўніцтва краіны, а толькі патрабавала, каб рашэнне пра Ісламскую Рэспубліку Гамбію прымалася праз рэферэндум. На планеце існуюць чатыры-пяць афіцыйна прызнаныя сусветнай супольнасцю дзяржавы, якія называюць сябе ісламскімі: Іран, Пакістан, Афганістан, Маўрытанія.

**Паводле сербскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Смецце і тэрарызм

Брытанскі часопіс «New Stateman» задаўся пытаннем — чаму ў тылу тэрарыстаў з групоўкі Ісламская дзяржава (ІД) дастаткова слабы пратэстны рух? Прааналізаваўшы дадзеныя пра тое, як арганізаваная ўнутраная сацыяльна-эканамічная палітыка ў ІД, журналісты заключылі, што часткова гэта звязана з эфектыўнай камунальнай гаспадаркай. Перш за ўсё, новай уладзе ўдалося забяспечыць стабільную падачу вады і святла (гэта, напэўна, няцяжка з улікам таго, што кантрабанда нафты прыносіць ІД амаль мільён долараў штомесяц). Другая фішка ІД — барацьба са смеццем на вуліцах. Так, у Масуле — горадзе, які амаль паўтара гады кантралюецца экстрэмістамі, — створаная спецыяльная служба, якая збірае смецце. У дадатак уведзеныя вялікія штрафы для аматараў антысанітарных паводзін — да 100 тысяч долараў ЗША. Слава пра чысціню на вуліцах гарадоў ІД стала прычынай забаўнага інцыдэнту: нейкі брытанец арабскага паходжання збег у ІД з надзеяй рэалізаваць там свой праект перапрацоўкі смецця, які не зацікавіў ніводны англійскі муніцыпалітэт.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ГРУЗІЯ. Царква патрабуе права на амністыю

У грузінскім грамадстве адбываецца раскол праз ініцыятыву галавы Грузінскай праваслаўнай царквы (ГПЦ), патрыярха Іллі Другога. Патрыярх заклікаў улады краіны надаць яму права памілавання асуджаных. Згодна з дзеючай Канстытуцыяй, такім правам валодае выключна кіраўнік дзяржавы. Ідэю Патрыярха неадкладна падтрымаў прэм'ер-міністр і многія лідары ўрадавай кааліцыі «Грузінская мара». Адначасова супраць прапановы паўстала праеўрапейская фракцыя кааліцыі, якая бачыць у гэтым спробу клерыкалізацыі Грузіі. Важна ўзгадаць, што ў свой час была агучана і атрымала папулярнасць праграма па трансфармацыі Грузіі ў «тэадэмакратыю», паводле якой Святы сінод Грузінскай праваслаўнай царквы можа мець права накладаць «вета» на любыя рашэнні парламента. Святы сінод таксама мог выконваць функцыю верхняй палаты парламента. Аднак па ходзе канфлікту ўнутры «Грузінскай мары» вакол ініцыятывы ГПЦ першапачатковая прычына канфлікту забылася і пачалася адкрытая вайна паміж фракцыямі. Пакуль вынікі пікіроўкі не зразумелыя, а наўрад ці гэта гісторыя паспрыяе добраму іміджу кааліцыі напярэдадні прызначаных на наступны год парламенцкіх выбараў.

**Паводле грузінскай прэсы**




Фота www.politicadigital.com.ar

# Мадура наносіць удар у адказ

Алег НОВІКАЎ

**Правал на парламенцкіх выбарах прымусіў чавістаў мабілізаваць усе рэсурсы. На коне не толькі лёс венесуэльскай мадэлі, аднак і будучыня ўсіх левых рэжымаў Лацінскай Амерыкі.**

19 запар прайграных электаральных кампаній за 17 гадоў. З такой сумнай лічбай за плячыма ўлетку пачынала венесуэльская апазіцыя выбарчую парламенцкую кампанію. І вось трэнд зломлены. Па выніках выбараў апазіцыя перамагла, атрымаўшы большасць мандатаў у парламенце (91 дэпутат з 167). У выніку ў краіне сфармавалася новая палітычная канфігурацыя з абсалютна непрадказальнымі сцэнарамі развіцця.

Паводле дзеючай у краіне канстытуцыі, урад фармуе прэзідэнт. Таму цяперашні прэзідэнт Нікалас Мадура, які з'яўляецца пераемнікам Уга Чавеса, фактычна працягвае кіраваць краінай. Аднак поле для манеўру ў яго менш — Нацыянальная асамблея мае большасцю галасоў блакаваць ініцыятывы мадурыстаў.

Калі ж клуб апазіцыянераў у парламенце будзе пашыраны, то паўстае наўпростая пагроза для выканаўчай улады. Паводле канстытуцыі, група са 101 дэпутата можа прапаноўваць свае законапраекты. Пры наяўнасці 112 дэпутатаў у складзе фракцыі, яна можна запускаць канстытуцыйную рэформу, адклікаць міністраў, уносіць змены ў выбарчы кодэкс, нарэшце, атрымлівае права ініцыяваць імпічмент прэзідэнта. Праўда, пакуль апазіцыя збіраецца абмежавацца амністыяй для палітвязняў. Сярод іх Леапольда Лопес — адзін з лідараў апазіцыйнага руху, якога нядаўна асудзілі на 14 гадоў.

Выбарчы катаклізм чавістаў таксама можа справакаваць паўзучую дээінтэграцыю ўсёй сістэмы. Шматлікія СМІ звярнулі ўвагу на паводзіны вайскоўцаў. Хаця ў казармах пануе культ Уга Чавеса, які, як вядома, быў прафесійным жаўнерам, генералы пасля абвяшчэння выніку галасавання не зрабілі ніякіх гучных заяў. Наадварот, кіраўнік Мінабароны заклікаў суайчыннікаў спакойна ўспрымаць вынікі выбарчаў.

Сам жа Мадура прыняў правал на выбарах варта, афіцыйна прызнаўшы перамогу апанентаў з апазіцыйнай кааліцыі «Круглы стол дэмакратычнага адзінства» (MUD). Аднак капітуляваць ні ён, ні праўладны лагер не збіраюцца. Наадварот, грамадству прапанаваны тэзіс пра тое, што халодны душ на выбарах 6 снежня дазволіць чавістам самкнуць свае шэрагі і працягнуць «балівійскі працэс». На фоне новай маштабнай прапагандысцкай кампаніі ў краіне пачалася мабілізацыя актыву прыхільнікаў рэжыму.

Перш за ўсё, адбыліся тэрміновыя сходы ўсіх мясцовых структур урадавай Аб'яднанай сацыялістычнай партыі Венесуэлы (PSUV) і лаяльных да ўлады грамадскіх арганізацый. Чакаюцца гучныя адстаўкі ўнутры ўрадавага апарату, якія павінны палепшыць яго імідж.

Што тычыцца афіцыйнай прапаганды, то яна ахвотна гуляе на тым факце, што перамога апазіцыі не скараціла дэфіцыт прадуктаў у камерцыйных крамах — менавіта вырашыць прадуктовы крызіс і прыпыніць інфляцыю абяцала апазіцыя ў выпадку перамогі. Такім чынам, урад намагаецца перакласці адказнасць за недахоп тавараў на паліцах крамаў часткова на апазіцыю, якая цяпер у вачах грамадства — складнік улады. Гэта вельмі балючая тэма для чавесафобаў, паколькі, як сведчыць сацыялогія, за кандыдатаў MUD часта галасавалі не па ідэалагічных прычынах, а, як гаворыцца, страўнікам.

Мусіруецца тэма пра тое, што ў апазіцыі існуе план подкупу нейтральных дэпутатаў для фармавання большасці, неабходнай для пачатку працэсу адстаўкі Мадуры. Такім чынам ствараецца глеба для магчымага роспуску Нацыянальнай асамблеі на выпадак росту сярод дэпутатаў апазіцыйных настрояў.

Прасоўваецца думка пра тое, што перамога апазіцыі адкіне краіну на 20 гадоў назад. Перад прыходам Чавеса да ўлады ў Венесуэле існавала тыповая для Трэцяга свету мадэль, калі на выбары ішлі карумпаваныя палітыкі, якія па сутнасці імітавалі нейкую барацьбу.

У палацы Мірафлорэс — рэзідэнцыі венесуэльскага прэзідэнта — з надзеяй сочаць за ўнутранымі разборкамі ўнутры MUD. Гэта структура складаецца з 21 партыі, частка з якіх незадаволеныя памяркоўнымі лозунгамі Энрыке Капрылеса, лідара аб'яднання.

Стаўка ў барацьбе паміж Мадурам і Капрылесам вельмі вялікая. Фіяска Мадуры ў Венесуэле закладзе міну пад гегемонію левых партый ва ўсім рэгіёне, дзе яны дамінуюць з пачатку стагоддзя. Праўда, пакуль альтэрнатыўная правая мадэль малазразумелая. Напрыклад, абраны ў лістападзе на пасаду прэзідэнта Аргенціны правы пераніст Маўрысіа Макры ўжо агучыў план жорсткай эканоміі, які не выклікаў энтузіязму ў грамадстве. У тым лік таму, што краіна дасюль узгадвае дэфолт 2001 года, які быў следствам падобнай спробы вырашаць праблемы знешніх пазык.

З іншага боку, рэгіянальны левы праект таксама, як той вожык у тумане. Левыя рэжымы эканамічна былі завязаныя на кітайскі рынак, куды праз дзяржаўныя, часам нацыяналізаваныя кампаніі прадавалася сыравіна. Прыбыткі дазвалялі развіваць сацыяльную сферу. Фондавы крызіс у Кітаі і падзенне сусветных коштаў на нафту ставяць пад пытанне такую формулу. Не кажучы пра тое, што вялікая роля дзяржавы ў гэтай схеме садзейнічае росту карупцыі. Стаўка на нафтадолары не дазваляе развіваць айчынную вытворчасць.

Пакуль палітолагі спрачаюцца наконт таго, якім шляхам пойдзе Лацінская Амерыка, у Каракасе рыхтуюцца да 6 студзеня. У гэты дзень павінна пачацца першая сесія новаабранай Нацыянальнай асамблеі, якая пагражае перарасці ў адкрыты канфлікт у парламенцкай зале. Эмоцыі будуць панаваць і на вуліцы. Як апазіцыя, так і ўлада збіраюцца прывесці да будынку парламента сваіх прыхільнікаў з усімі наступствамі для грамадскай бяспекі.

# Адкуль бяруцца лідары нацыі?

Алег НОВІКАЎ

**Таджыкскі парламент аднагалосна надаў прэзідэнту Эмамалі Рахмону тытул «Лідар нацыі». Гэта ўжо чацвёрты лідар нацыі ў гісторыі постсавецкіх дзяржаў. Таму паспрабуем прааналізаваць дадзены феномен.**


Фота www.youtube.com

Натуральна, першапраходцам у гэтай галіне стаў былы першы сакратар кампартыі Туркменістана, а пасля яе прэзідэнт Сапармурат Ніязаў. У кастрычніку 1993 года на сесіі парламента Ніязаву былі афіцыйна прысвоены тытул «Туркменбашы», што перакладаецца як правадыр, або лідар усіх туркменаў.

Калі верыць апазіцыйным туркменскім СМІ, гэтаму папярэднічала абсалютна вар'яцкая гісторыя. Справа ў тым, што тады ў Ніязава ў прэс-сакратарах хадзіў нехта Курбанаў, які меў вельмі лісліві характар. Неяк ён угаварыў боса пачаць называць сябе на публіцы Туркменбашы. Маўляў, кіраўнік першай у сучаснай гісторыі незалежнай туркменскай дзяржавы будзе выяўляцца ў дадатак «лідарам усіх туркменаў», які такім чынам у сваёй асобе сімвалічна аб'ядноўвае ўсіх прадстаўнікоў гэтага старажытнага народа, што раскіданы па свеце.

Прагны на лісьлівасць Сапармурат пагадзіўся. Хутка ён не толькі называў сябе Туркменбашы, аднак і падобным чынам падпісваў дакументы. Апошняе загнала юрыстаў у ступар. У органах запісу актаў грамадзянскага стану не было дакументаў пра змену прозвішча грамадзянінам Ніязавым Сапармуратам, якога народ Туркменістана выбраў сваім прэзідэнтам у 1991 годзе. Паўставала заканамернае пытанне — што за чалавек падпісвае ўказы ад імя прэзідэнта?

Давялося хутка збіраць туркменскі парламент, які і пастанавіў надаць Ніязаву тытул Туркменбашы. Трошкі пазней дэпутаты дазволілі Ніязаву кіраваць да канца жыцця, а сам тытул падкарэктавалі — проста Туркменбашы стаў Вялікім Туркменбашы.

Цікава, што ў Туркменістане не было спецыяльнага юрыдычнага дакумента пра правы і абавязкі Туркменбашы. Аднак пры гэтым, як прызнаюць спецыялісты, феномен міфалагізаванай асобы Туркменбашы аказаў на працэсы дзяржаўнага будаўніцтва ў сучасным Туркменістане больш моцнае ўздзеянне, чым фармальныя інстытуты ўлады. Магчыма таму пасля смерці Ніязава наступны прэзідэнт краіны таксама пачаў насіць тытул. Гурбангулы Бердымухамедава ў прэсе называюць Аркадаг («Заступнік»), хаця фармальнага рашэння парламент краіны на гэты конт не прымаў.

**У гэтым годзе дайшла чарга да Таджыкістана, дзе прыняты Закон «Аб гаранце міру і нацыянальнага адзінства — лідары нацыі», якім, натуральна, стаў Эмамалі Рахмон**

Наступнай краінай СНД, дзе з'явіўся лідар нацыі, стаў Казахстан. Тут 2010 годзе быў прыняты закон аб наданні Назарбаеву тытула Елбасы (Лідар нацыі). На той час у зводзе казахскіх законаў ужо быў Закон пра першага прэзідэнта Казахстана, што надаваў Назарбаеву шмат прывілеяў. Як следства, электарат ідэю з законам пра Елбасы не зразумеў. Былі папулярныя дзве версіі: Назарбаеву вырашылі зрабіць падарунак на 70-годдзе, і прэзідэнт перапужаўся чарговага дзяржпераваротy ў суседнім Кыргызстане і вырашыў падстрахавацца на выпадак, калі ён па нейкіх прычынах будзе вымушаны пакінуць пасаду.

Хутчэй за ўсё, рацыю маюць аматары другой версіі. Аўтары закону пра Елбасы дэталёва прапісалі розныя аспекты вечнага прававога імунітэту Назарбаева і яго сям'і. Так, напрыклад, лідар нацыі не можа быць затрыманы, арыштаваны, прыцягнуты да крымінальнай ці адміністратыўнай адказнасці за дзеянні, здзейсненыя ім у перыяд выканання паўнамоцтваў прэзідэнта. Узняўшы статус Назарбаева да амаль сакральнага, рэжым таксама атрымаў апраўданне для ўзмацнення рэпрэсій супраць сваіх крытыкаў аж да таго, што тым жа самым законам уводзілася адказнасць за «апаганьванне вобраза першага прэзідэнта Рэспублікі Казахстан». За гэта, дарэчы, казахская Феміда можа выпісаць да трох гадоў турмы.

Нарэшце, у гэтым годзе дайшла чарга да Таджыкістана, дзе прыняты Закон «Аб гаранце міру і нацыянальнага адзінства — лідары нацыі», якім, натуральна, стаў дзеючы прэзідэнт Эмамалі Рахмон. Аналіз тэксту гэтага закону дазваляе лёгка зразумець, нашто Рахмону патрэбна такая заканадаўчая норма. Гэта дазволіць прэзідэнту Таджыкістана адыгрываць дамінуючую ролю ў вызначэнні ўнутранай і знешняй палітыкі краіны пасля спынення прэзідэнцкіх паўнамоцтваў у 2020 годзе. У адпаведнасці з гэтым законам, «выкананне ўсіх рэкамендацый «лідара нацыі» абавязковае для ўсіх дзяржаўных структур». Акрамя таго «важныя палітычныя ўнутраныя і замежныя праблемы» будуць вырашацца па ўзгадненні з ім.

Застаецца сказаць, што пакуль галоўным кандыдатам у пераемнікі Эмамалі Рахмона лічыцца яго сын Рустам, аднак з улікам складанай міжнароднай сітуацыі і, адпаведна, інтарэсу вялікіх дзяржаў да рэгіёну не выключаюцца і іншыя варыянты. З улікам непапулярнасці Рахмона, Масква па дамоўленасці з Вашынгтонам можа зрабіць стаўку на іншага палітыка.

Не трэба быць вялікім юрыстам, каб зразумець, што ўсе законы, што ствараюць такі суб'ект права, як Лідар нацыі, нелегітымныя. Яны адкрыта супярэчаць існуючым канстытуцыям, паколькі ў асноўным дзеючым законе пазначаны іншыя паўнамоцтвы прэзідэнта, у тым ліку пасля завяршэння тэрміну дзеяння. Тое, што пра такі момант заканадаўцы думаюць постфактум, дазваляе казаць пра ролю кан'юнктуры падчас распрацоўкі законапраектаў пра лідараў нацыі.

З іншага боку, у гэтым ёсць і своеасаблівы глабальны падтэкст. Практычна ўсе аўтары законаў пра «лідараў нацыі» спасылаюцца на вопыт іншых краін рэгіёну. Напрыклад, для палітычнай стабільнасці Турцыі, Пакістана, Ірана важная спадчына палітыкаў, якія яшчэ пры жыцці ўспрымаліся як бясспрэчныя лідары. Некаторыя таджыкскія дэпутаты адкрытым тэкстам кажуць, што без фігуры моцнага палітыка, які мае неабмежаваныя паўнамоцтвы, функцыянаванне дзяржаўнага апарату немагчыма. У такім разе за з'явай «лідара нацыі» ў краінах Сярэдняй Азіі можа стаяць чарговая фаза працэсу ломкі мадэлі палітычнай культуры, якая існавала тут пасля развалу СССР.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ільхам Аліеў



Калі верыць заявам сілавікоў, прэзідэнт Азербайджана знішчыў цэлы халіфат. Халіфат знаходзіўся ўсяго ў 25 кіламетрах ад Баку, у мястэчку Нардаран. Тут, па словах дырэктара МУС Азербайджана, была спроба стварыць тэакратычную дзяржаву, якую на пачатку снежня ўдалося прыпыніць. Самае цікавае, што, паводле МУС, супрацьстаянне з ісламістамі ў Нардаране працягвалася з 2005 года. За гэты час Нардаран цалкам выйшаў з-пад кантролю цэнтральнай улады, пра што сведчаць рэгулярныя забойствы паліцэйскіх. У выніку мястэчка фактычна стала анклавам ісламістаў, якія падпарадкавалі сабе ўсе адукацыйныя ўстановы і ўвялі свае падаткі. Толькі зараз улада вырашыла разабрацца з экстрэмістамі за кошт татальнай блакады і зачысткі, падчас якой 7 чалавек былі забітыя. Паралельна спецаперацыі парламент прыняў закон «Аб барацьбе з рэлігійным экстрэмізмам». Ён рэгламентуе правядзенне спецаперацый, у прыватнасці, прадугледжвае прыпыненне камунальных і тэлекамунікацыйных паслуг у зоне аперацыі. Цікава, што ў суседнім Іране падзеі ў Нардаране ўспрынялі як замах на правы мусульман. «Калі Баку не спыніць рэпрэсій супраць шыітаў у Нардаране, адносіны Ірана з Азербайджанам будуць перагледжаны. Падзеі ў азербайджанскім пасёлку Нардаран — гэта рэвалюцыйны рух», — заявіў прадстаўнік Тэгерану.

### Віктар Орбан



Прэм'ер Венгрыі пераабраны на пасаду старшыні ўрадавай партыі «Fidesz». За гэта прагаласавала 1774 з 1777 дэлегатаў партыйнага з'езда. Такім чынам Орбан не толькі застаецца на пасадзе лідара партыі, якой кіруе з 1993 года, аднак атрымлівае шанс балатавацца ў прэм'еры ў 2018-м. Пераабранне Орбана можна лічыць выклікам Еўрасаюзу, які даўно крытыкуе Будапешт за ціск на прэсу і апазіцыю, нацыяналізм і ксенафобію на афіцыйным узроўні. У прынцыпе, Орбан гэтага і не хаваў, заклікаўшы на партыйным з'ездзе пакончыць з лібералізмам. Больш таго, венгерская мадэль становіцца прыкладам для ўсіх кансерватараў Усходняй Еўропы. Не дарма 13 снежня ўдзельнікі дэмакратычнай маніфестацыі ў польскай сталіцы скандавалі: «Варшава — не Будапешт!». Не выключана, што падчас новай кадэнцыі Орбана Будапешт таксама будзе ўцягнуты ва ўкраінскі крызіс. Стала вядома, што 13 снежня ва ўкраінскім Закарпацці дэлегаты 114 венгерскіх вёсак патрабавалі ад Кіева стварыць асобную аўтаномію для венграў. Кіеўская прэса піша, што наўрад ці такі дэмарш мог адбыцца без сігналу з Будапешту, дзе Орбан публічна называе сябе прэзідэнтам венгерскай дыяспары. Застаецца дадаць, што за спіс «Fidesz» хоць зараз гатовы галасаваць 51 працэнт венгерскіх выбаршчыкаў.

### Барак Абама



Прэзідэнт ЗША выказаў надзею паспець наведаць Гавану да заканчэння сваёй кадэнцыі. Такі крок мог бы спрыяць працэсу нармалізацыі амерыкана-кубінскіх адносін. Аднак для прэсы значна большым сюрпрызам аказалася тое, што ЗША дабіліся, каб Куба пагадзілася пачаць перамовы па кампенсацыі амерыканскім фірмам стратаў, якія яны панеслі ў выніку нацыяналізацыі. Як вядома, у 1960 годзе Фідэль Кастра, які толькі прыйшоў да ўлады, канфіскаваў амерыканскіх актываў амаль на 2 мільярды долараў. Па сутнасці, менавіта гэта і дала старт канфлікту з ЗША, якія раней нават сімпатызавалі Фідэлю, мяркуючы, што дыктатара Батыста так ці інакш трэба мяняць. Цяпер тэма былой нацыяналізацыі на Кубе зноў становіцца актуальнай. Калі верыць чуткам, Гавана, быццам, не супраць прызнаць доўг, аднак патрабуе, каб янкі кампенсавалі страты за шкоду, якую нанеслі краіне ўзброеныя за кошт ЗША контррэвалюцыянеры (а гэта прыкладна мільярд). Прэса піша, што наўрад ці перамовы закончацца раней за 2017 год, аднак тое, што Гавана ўвогуле пагадзілася абмяркоўваць згаданую праблему, — вялікі поспех адміністрацыі Абамы.

18 снежня 2015 | № 48 (465) Новы час

# Прозвішча ў лёсе:

Сяргей ГВАЗДЗЁЎ

**20 снежня спаўняецца 175 гадоў ад нараджэння выдатнага мастака культурнага «памежжа», удзельніка паўстання 1863 года, беларуса Казіміра Альхімовіча. Падстава дастатковая, каб прайсціся яго сцежкамі.**


Казімір Альхімовіч

Магчыма, ягонае прозвішча ўтварылася ад сярэднявечнай навукі — «алхіміі», што ўзыходзіла да арабскага — al-kimija і перакладалася як «філасофскі камень». Яму ж да спадобы было дзіцяча-фантастычнае тлумачэнне, якое наўпрост ніталася са зразумелым жыццём наваколля ды таямнічым светам старажытных кельтаў, якія не ведалі Збавіцеля і маліліся дрэвам. У ірландскай «Песні лясных дрэваў» алешына («альха») — самая ваяўнічая чарадзейка, самая гарачая ў двубоях. Свяшчэнная алешына моцна шанавалася, ёю гацілі непралазныя балоты, на ёй ставілі самыя старажытныя еўрапейскія будыніны. Шмат яшчэ забабонаў злітавана з гэтым дрэвам.

Галоўнае ж — з яго мажліва было здабыць фарбы: чырвоную, бы агонь, — з кары, зялёную — з кветак, а рудую — з маладых галінак…

## Ад калыскі

Нарадзіўся Казімір Альхімовіч напярэдадні Калядаў у мястэчку Дубрава на Лідчыне (цяпер Шчучынскі раён). Калі ў аднадваровага шляхціца Альхімовіча з'явіўся першынец, у мястэчку было 150 двароў, вуччальня, касцёл, праваслаўная царква, некалькі крамак ды карчма. Спрактыкаваны бацька Дамінік не пашкадаваў грошай на навучэнне сыноў у Вільні.

Заснавальнікаў ліцвінскага мастацтва — Францішка Смуглевіча (1745–1807), Яна Дамеля (1780–1840) ды Яна Рустэма (1762–1835) Казік ведаў з маленства. Але гонар мастацкай Вільні рабіла майстэрня Рафаіла Слізеня (1803–1881) з Бартнікаў (цяпер вёска Вольна пад Баранавічамі) ды прыватныя студыі «прафесараў»: паўстанца Вікенція Дмахоўскага (1807–1862), Караля Рыпінскага і іншых. Водгук у сэрцы Казіміра і ягонага брата Гіяцынта знаходзілі жывыя пабытавыя сцэнкі Канстанціна Кукевіча (1810–1842) ды жывапісныя палотны Канута Русецкага (1801–1860), які трапна выбраў галоўнага героя — працаўніка зямлі, працягнуўшы цікаўнасць філаматаў да народнага жыцця. Казіміру дужа падабаліся абразы «Літоўка з вербамі» ды «Жняя».

Альхімовічы, пэўна, вучыліся ў гімназіі, што месцілася ў мурах зачыненага ўніверсітэта. Малюнак, верагодна, у іх выкладаў Мацей Пржыбыльскі (1794–1867), асісціраваў яму другі гадаванец славутай установы — Антон Валасевіч. Вынікам сталася тое, што абодва браты па заканчэнні навучэння прыстойна валодалі пэндзлем. Сцвярджаюць, што «Казімір пэўны час працаваў эканомам у маёнтках пад Кіевам» і нібыта там паспрабаваў сябе ў публіцыстыцы.

Быў і кароткі глыток свабоды — 1863 год. Паўстанне. Суд. Выгнанне ва Уральскі Кунгур, «слаўны сваімі цэрквамі, кабакамі ды брудам». Пасяленне ў яшчэ драбнейшым малавядомым Верхатур'і.

## Варшава

У Варшаве атабарылася большасць амніставаных інсургентаў, хоць «жандараў на вуліцах было больш, чым ліхтароў». Казімір прыехаў сюды вучыцца. Дарэчным стаўся досвед малявання, атрыманы ў Віленскай гімназіі ды самастойныя штудыі на выгнанні, якія давалі невялічкі прыбытак. (Некаторыя знаўцы мастацтва лічаць яго алоўкавы аўтапартрэт 1864 года лепшай выявай). На пракорм Казімір падрабляў рамесніцкім роспісам парцаляны ды фаянсу на прыватных мануфактурках. Раз-пораз кантактаваў з перыёдыкамі Вільні, Варшавы, Львова. Як асоба цікаўная ды прагная да нязведанага, не абмінуў лепку з гліны ды тэракоты, плоскую і аб'ёмную разьбу па дрэве.

Найпапулярнейшай вучэльняй краю была «Школа малюнка», якую ачольваў карэнны варшавяк, рэаліст Войцех Герсан (1831–1901). Сюды і трапіў Альхімовіч.

Штудыі (1871–1873) праляцелі для Казіміра хутка: дзякуючы прыязна-сяброўскай і творчай атмасферы, якая панавала ў школе, дзе атрымоўвалі адукацыю шмат юнакоў з беларускіх абшараў. Са школай у Казіміра былі злітаваныя і першыя прафесійныя дасягненні, калі ён браў удзел у выставе Пецярбургскай Акадэміі Мастацтваў, двойчы быў узнагароджаны срэбным медалём за настраёва-тэматычныя карціны.


Казімір Альхімовіч. Аўтапартрэт

Аднакашнік і інсургент Юзаф Хельманоўскі (партрэт яго Казімір напіша ў 1902 годзе) казаў, што Альхімовіча пан Войцех вылучаў з першага года навучання. Ён сябраваў з дачкой мэтра — пісьменніцай Марыяй Герсан-Дамброўскай. Ёй імпанавала, што крыху дзікаваты мастак паўсюдна гаварыў на «вясковай лідскай» гаворцы.

Калі ў 1896 годзе з ласкі сябра па Імператарскай Акадэміі мастацтваў жывапісца-акадэміка Семірадскага (1843–1902) Войцех Герсан атрымаў замову на роспіс купала і нефа святыні Расіі — Пецярбургскага касцёла Св. Кацярыны, то, не вагаючыся, разам з Тадэвушам Попелем ды Антоніем Піятроўскім запрасіў да ўдзелу ў працы і Казіміра Альхімовіча.

Сакральная тэма была пажыццёвай у творчасці Альхімовіча. (Назавём абраз «Прасвятая Панна Марыя» для царквы ў Закапанэ, роспіс Свята-Троіцкага сабора ў Любліне, а таксама моцную манахромную кампазіцыю ў змешанай тэхніцы «Божае нараджэнне» ды інш.).

Аднак, закончыўшы навучанне, Казімір Альхімовіч, развітаўшыся з калегамі і сябрамі, зноў апынуўся на ростанях.

## Мюнхен. Атмасфера і норавы

Мастак рушыў у сталіцу Баварыі — «Нямецкія Афіны». Імпазантны Мюнхен меў Акадэмію мастацтваў ад 1770 года, а з XIX стагоддзя да яе дадаўся шэраг прыватных школак. Мюнхен стаў калыскай авангардызму.

Выбар Альхімовіча не быў стыхійным, калі ён спыніўся на класе Аляксандра фон Вагнера (1838–1919). Мэтр, амаль пагодка Казіміра, гадаванец Венскай акадэміі і прафесар гісторыі мастацтваў Каралеўскай акадэміі, быў эрудытам і ў творчасці аддаваў перавагу гістарычным сюжэтам ды жанравым выявам з венгерскага жыцця. Не толькі неабходнасць прафесійнага ўдасканалення падштурхоўвала «герсанца», але і прага да «новага гістарызму».

Маятнік жыцця «студыёзусаў» гойдаўся між майстэрняй і кавярняй. Кавярні мелі профільны падзел, абавязкова прапаноўвалі піва, каву, більярд і газеты. Абавязковымі былі і заляцанні да «сваёй дзявулькі» (панначкі, кадэткі і г.д.), якая магла быць і кельнершай, і мадысткай. Маці, з ліку былых «дзявулек», падахвочвалі нягеглых дачок хоць трапна палявацы на будучых аліментшчыкаў. Плёнымі былі карнавалы, пасля якіх мюнхенскае народанасельніцтва прыбывала.

Жанчыны — «кветкі жыцця» — хвалявалі душу мастака. Але ён быў каталік… Сакральныя мастацтва ў яго цнатлівай душы ахоўвалі паненкі-зямлячкі: дачка паўстанца з Баландычаў, што пад Гродна — Марыя Магдалена Бутаўт Анджэйкавіч (1852–1933) ды Марыя Гажыч (1860–1935).

Але маладосць брала сваё. Відаць, у той час нарадзілася жаданне ўвекавечыць ліцвінскую багіню Мілду. Не маці Сусвету — стваральніцу ўсяго — Жэміне (Зямлю), а «распусніцу» Мілду, якая апякуецца тымі, хто пакутуе ад адзінотнасці, дорыць вясновы прамень сонца. Яшчэ ў гімназічныя часы Казімір слухаў паданні пра яе капішча дзесь на падэшве Гедыміна (збоку трохкрыжовай гары). Быў зачараваны расповедамі пра яе храм, што існаваў у мясціне зліцця Нёмана і Нярыс у Коўне. Ён прагнуў кахання і маліўся душой старалітоўскай багіні, суродзічцы Афрадыты ды Венеры.

Палатно Альхімовіча «Мілда» стала самараскрыццём беларуса, а палагоджванне-сінтэз супрацьстаяння між фізічнай жарсцю і рэлігійнай маральнасцю, зямнога, рэальнага існавання і боска-сакральнага, касмічнага паклікання перадвызначыла рамантычны накірунак мастакоўскага стылю.

## Францыя

Авіньён і Фантэнбло (1876) сталіся для мастака мажлівасцю суаднесці Мюнхенскія набыткі з шырэйшым кантэкстам. Гіпнатычныя мроі тых, хто спыніўся-заседзеўся, варта падварушваць, і таму досвед іншай школы неабходны.

Звесткі пра французскае падарожжа нашага Альхімовіча сціплыя. Там ён сустрэўся з братам, Гіяцынтам Альхімовічам (1841–1897), які пасля разгрому паўстання Каліноўскага выслізнуў з хіжых лапаў улады і апынуўся ў Перпіньяні. Папрацаваўшы чарцёжнікам, інжынерам на будоўлі чыгункі, ён неўзабаве вярнуўся да мастацтва і адмысловую адукацыю атрымаў ужо ў выгнанні, а ў 1876 годзе сцвердзіўся ў якасці прафесара жывапісу. Калі Казімір упершыню наведаў Францыю, малодшы брат якраз перабраўся на сталае жытло ў Парыж, дзе ўжо пасябраваў з земляком-паўстанцам Міхаілам Андрыёлі (1832–1893.)

Пасля экспанавання ў 1881 годзе карцін Альхімовіча ў Салон-дэ-Пары рэцэнзент адзначыў: відаць, у краіне мастака няма «…нябеснага блакіту, празрыстага паветра, жывых сонечных промняў… мабыць, той край асуджаны на снежныя замецці, вільготную імглу, алавяны далягляд…»

Але ўсё ж быў жывапісны ўсплёск, які мастак перажыў дзякуючы Францыі. У Народным музеі Польшчы экспануецца работа «Дзяўчынка ў лесе», якую Аляхновіч напісаў у год узлёту мадэрну ў сэрцы Еўропы. Яна дэманструе зусім іншы, чым у большасці папярэдніх твораў, жывапіс. Артыстычна лёгкі і нязмушаны, натолены мноствам сонечных блікаў, выбеленых плямінаў на валасах і сукенцы гераіні. Дынамічна-экспрэсіўная праца пэндзля, асабліва ў перадачы паветранага фону…

У кампазіцыях захапляе багацце каляровай палітры, якая жыве і дыхае суладна сонечнаму святлу. Твор выкананы эскізна-лёгка, у згарманізаванай каларыстычнай манеры, дзе пяшчотна-тонкія срэбна-шэрыя, бэжавыя і бела-малочныя колеры далікатна спалучаюцца з амаль празрыстай зелянінай. Карціна — выбух чыстых (кантрасных) і сакавітых колераў пры падкрэслена ўраўнаважанай кампазіцыі: кідка-сонечныя і памаранчавыя колеры надзіва ўдала спалучаюцца з зялёнай лістотай і кармінавай шалькай юнай паненкі…

Па мастацкасці і ёмістасці абагульнення, філасафічнасці найзначным дасягненнем мастака можа лічыцца яго «Пастушка». Дзіця, прытуліўшыся да дрэва, назірае з пагорка, нібы яднае сабой зямное і нябеснае, высі — і ніжні абшар, парослы сакавітай травіцай, на якім пасецца статак.

Было ў гэтых творах штосьць нявыказанае…

## Вяртанне. Гады ўзлёту

Вярнуўшыся ў Варшаву ў 1880 годзе, Казімір Альхімовіч цалкам прысвяціў сябе творчасці. Уганараваны за мастацка-публіцыстычныя працы перасоўніцкага чыну («Смерць на этапе», «Пахаванне на Урале»),

# Казімір Альхімовіч

выявіўшы яшчэ недасканалую жывапісную кампазіцыю па біблейнай прыпавесці «Руф, якая бярэ проса» ды рэалістычна-пабытавую ідэю «Жніво» (1869), ён сцвердзіў новую для ліцвінска-беларускага мастацтва тэму вясковага жыцця і працы. І далей Альхімовіч будзе непахісна трымацца ідэі палагоджвання стасункаў між сялянамі і дробнай шляхтай, да якой належаў. «Наём работнікаў» (1893), «Вяртанне героя» (1902), «Шляхціц і селянін» (1908) — таму сведчанне.

Шматфігурная кампазіцыя — «Дажынкі», як і папярэднія рэчы, створаны на падвіленска-лідскім этнаграфічным і тапаграфічным матэрыяле. Постаць гаспадара з падкрэсленым сэнсавым цэнтрам, псіхалагічна-трапна абмаляваныя шараговыя сяляне-парабкі, гарэзлівая дзятва (не разбярэш, сяляне ці то «панічыкі») утвараюць дадатковыя мізансцэны.

Але прамоўленае не мела моцнага розгаласу.

У 1883 годзе Альхімовіч выставіў сваю рамантычную элегію «Пахаванне Гедыміна». Яна абляцела палову свету: ад Пецярбурга і Львова да Сан-Францыска і Варшаўскай Захэнты. У 1888 годзе была выстаўлена ў Нацыянальным музеі Кракава. Двойчы за гэты твор майстар быў узнагароджаны.

Перадаючы скрушную часіну хаўтурнай выправы, перапоўненую жальбай і веліччу развітання старадаўніх ліцвінаў са сваім князем, мастак ужывае шмат навацыяў. Элегічна-павольны рытм працэсіі, бы плынь магічнай ракі, па якой герой кіруе ў іншасвет, падтрымліваецца таямнічым настроем векавога гушчару. Ашчадна-думна ўжывае ён лакальныя колеры: чырвоны, сіні, белыя вопраткі вояў ды дудары ва ўльтрамарыне, што ачольваюць працэсію, нітуюцца з чорнай прагалай лесу. Дыяганальная рытміка кампазіцыйнай пабудовы палатна надае твору адчуванне руху. Спрадвечная надзея і зарука будучыні — панаванне чыстага і высокага неба...

Потым была нізка гістарычных кампазіцыйных партрэтаў стараліцвінскай тэматыкі. Напрыклад, «Сон Кейстута», у якім харызматычнага (мяркуючы па вопратцы — ледзь не «селяніна») уладара Жамойці, Трокаў, Гародні і Бярэсця ў часе кароткага адпачынку не пакідае клопат пра бяспеку сваіх земляў. Бо трызніцца яму мажлівая навала, якая гідка дыхае ў патыліцу.

У кампазіцыі «Вітаўт на магіле Кейстута» Вялікі (прыжыццёвае вызначэнне) Вітаўт (1350–1430) — у праваслаўі Юрый, у каталіцтве Аляксандр, адзін з сямі сыноў Кейстута, — у стане глыбокага роздуму і пошуку шляхоў краіны.

Работы са згаданай нізкі глядзяцца як патрыятычны мастацка-пластычны курс гісторыі, добраахвотная «сплата сыноўняй пазыкі». Але Радзіма пачынаецца для яго задоўга да нараджэння Збавіцеля і з'яўлення ВКЛ, у казачна-фантастычных часіны паганства. Створаныя ім партрэты-ўявы таму сведчаннем: «Паганскія вешчуны (ведуны-вайдэлоты)» — тыя, што бачаць і перадаюць свае веды людзям словамі, «Ліздзейка з дачкой на крушнях храма Перуна» — апавядае пра развітанне вешчуна з храмам паганскага Бога, які намовіў Гедыміна запачаткаваць на Тур'яй гары Вільню.

У сярэдзіне 1880-х Казімірам Альхімовічам былі напісаны творы з польскай гісторыі, такія, як «Абарона Ольштына (1587)» — палатно, якое ўслаўляе ахвярнасць у імя ратавання горада.

Адна з адметнасцяў творчасці мастака з-пад Ліды — цікаўнасць да чалавека ў драматычных, а то і трагічных момантах. Крытыка XIX стагоддзя назвала паказанае ў Пецярбурзе ў 1885 годзе палатно «Смерць Міхаіла Глінскага ў цямніцы» адным з лепшых у творчасці Альхімовіча.

А чаго варты жыццяпіс і пакаранне шляхціца Самуіла Збароўскага, палітычнага дзеяча і гетмана Запарожскага Войска (1581). Таленавітую рэч Альхімовіча не псуе ні разгорнутая літаратурнасць, ні традыцыйнасць пластычных сродкаў, ні пэўная дыдактычнасць. Скатаваны і ўланцужаны Збароўскі, непахісны ў перакананнях, мужна трымаецца веры ва ўласную праўду. Рашучы паварот галавы, пранізлівы пагляд, укамянелая варта... Фізічна-адчувальныя прамяні ўрываюцца ў закратаваны каземат і асвятляюць твар і руку зняволенага. Псіхалагічна завастраючы падзею, мастак прысачыняе дадатковага персанажа — ка́та з сякерай у руках.

Праца ў гістарычным рэчышчы вымагала ад Казіміра Альхімовіча не толькі напружання і творчых пакутаў, але і сур'ёзнага заглыблення ў навуковую літаратуру, хронікі ды аўтэнтычныя гравюры. У большасці твораў мастак праз заглаўнага героя даследуе пасіянарнасць народа.

Займеўшы выкладчыцкі досвед у студыях Францыі, Казімір Альхімовіч у 1890 годзе ўладкаваўся выкладчыкам малюнка ў прыватную школу Браніславы Посьвікавай. На Варшаўскай мастацкай выставе 1902 года ён не толькі прадставіў свае працы, але ўвайшоў у склад аргкамітэта і журы конкурсу.

### Туга па натуры

Для Альхімовіча краявід — толькі частка твора, антураж («Праз багну», «Стары млын»). Выключэнне ў шэрагу — «Краявід з буслом». Ён вельмі і вельмі маляўнічы пры ўсёй сваёй знешняй сціпласці. Палітра арганізоўваецца праз адценні зялёнага (толькі зарунелай, сонечна-пяшчотнай травы і амаль цёмных кронаў дрэў на другім плане). Натура абмалявана далікатна з усёй разнастайнасцю блакітна-смарагдавых водгукаў неба: малочна-рудаватага воблака, мышаста-шэрай хаціны і асляпляльна-бялюткага бусла над чорнай вадой балаціны. Мізансцэна суседства бусла над чорнай вадой надае краявіду драматызм і філасафічную задуменнасць.

Як патрыёт свайго краю, Альхімовіч не мог абмінуць увагай і постаць Адама Міцкевіча. Калі ў 1898 годзе шырокая грамадскасць (не толькі краёвая інтэлігенцыя) адзначала ўгодкі паэта, ён выставіў у «Захэнце» нізку з дванаццаці маляўнічых твораў паводле міцкевічаўскага «Пана Тадэвуша». Яны, на жаль, не захаваліся і слаба адзначаны польскімі крытыкамі. Хіба што за інтэрпрэтацыю «Свіцязянкі» «Tugodnik ilustrowany» ўганараваў Казіміра Альхімовіча ў 1898 годзе адмысловай прэміяй. «Зафіксавана» таксама пазнейшае палатно «Паляўнічы з рогам» (трапіла на аўкцыён).

Зрэшты, жывапіс Альхімовіча заўважны ў айчынным культурным жыцці. Вядомы малюнкі з выявамі дзеячаў мінулага: Паўла Яна Сапегі, Кшыштафа Радзівіла, ілюстрацыі да твораў Ю. Славацкага, Ю. Крашэўскага ды інш.

### Пад заслону

Еўрапейскае мастацтва ў XIX стагоддзі зрабіла рашучы крок да стылістыкі найноўшых накірункаў. Ліцвінска-беларускія творцы К. Альхімовіч, Г. Вейсенгоф, С. Богуш-Сестранцэвіч, пазней і Ф. Рушчыц ды С. Жукоўскі ўтваралі своеасаблівую апазіцыю як мадэрну, так і познеакадэмічнаму рэалізму, пераасэнсоўваючы яго ў плыні неарамантычных (у польскім ды рускім усведамленні — проста «рамантычных») тэндэнцый. Паўстанне 1863 года не толькі «паўплывала» на творцаў, якія жылі ў Варшаве. Ён, Казімір Альхімовіч, а таксама Максімільян Герымскі, Гіпаліт Дэбіцкі і Людамір Бенедыктавіч былі чыннымі ўдзельнікамі, іншыя спачувалі барацьбітам (Ян Матэйка), некаторыя ж проста памяталі і шанавалі тыя падзеі. Нават паветра ў Варшаве ў той час было «набрынялае ледзь улоўным, але шматабяцальным прысмакам духу ўзаемнасці» між мастакамі...

У 1906-м з нагоды святкавання 40-х угодкаў педагагічнай дзейнасці Аляксандра Вагнера на выставе, якая адчынілася ў «Захэнце», сярод твораў яго вучняў былі і працы Казіміра Альхімовіча. З 1874 па 1912 год ён паказаў у «Захэнце» больш за 100 сваіх твораў.

### Варшава (развітанне)

Пад заслону Каляднага тыдня 1916 года ў Шпіталі Немаўляці Езуса Казімір Альхімовіч адышоў у іншасвет і быў сціпла пахаваны на Паванзкоўскіх могілках Варшавы. У 1918-м грамада, ачоленая мастакамі-сябрамі, шэрагі якіх станавіліся ўсё радзейшымі, зладзіла ў «Захэнце» пасмяротную выставу Казіміра Альхімовіча.

Ужо ў нашы часы грамадска-патрыятычная арганізацыя «Беларуская нацыянальная памяць» пад бел-чырвона-белымі сцягамі на Дзяды наведала Паванзкоўскія могілкі і запаліла памінальныя свечкі, схіліўшы ў пашане галовы над магіламі сыноў і дачок Беларусі: Станіслава Манюшкі, каханай Кастуся Каліноўскага Марыі Ямант, выдатнага фатографіка Яна Булгака, літаратара Адама Плуга і таленавітага навукоўца, стваральніка фундаментальнай працы «Люд Беларускі» Міхала Федароўскага. Не абмінулі і магілу мастака-змагара Казіміра Альхімовіча.

Твораў Казіміра Альхімовіча ў дзяржаўных сховішчах Беларусі няма. Захоўваюцца яны ў сумежных краінах: Літве, Польшчы, Нямеччыне, Францыі і інш. Пра частку з іх выпадае гаварыць, абапіраючыся на рэпрадукцыі ды згадкі-апісанні ў перыядычным друку.

Але сапраўднае адкрыццё і ўшанаванне творцы, спадзяемся, яшчэ наперадзе...


Краявід з буслом


На этапе (1894)


Пахаванне Гедыміна (1888)

# Кнігавыданне: асноўныя тэндэнцыі 2015 года

Марына ВЕСЯЛУХА

**Нацыянальная кніжная палата Беларусі абвесціць асноўныя вынікі працы кнігавыдавецкай сістэмы краіны толькі напачатку 2016-га. Але ўжо сёння можна вызначыць адметнасці працы галіны.**

## Найлепшае — дзецям!

Сёлета выходзілі не толькі творы айчынных аўтараў для маленькіх чытачоў, але і пабачылі свет кнігі замежных творцаў па-беларуску. У прыярытэце — шведская літаратура з глыбокімі традыцыямі і асаблівымі метадамі працы з дзіцячай аўдыторыяй. Выйшлі кнігі Юі Вісландэр з серыі пра Маму Му, Сары Лундберг з цыклу пра Віту Белую Крэску, а зусім нядаўна па-беларуску загаварылі знакамітыя Пэтсан і Фіндус — героі казкі Свэна Нурдквіста.

Згадаю таксама папулярны вершаваны слоўнічак Алены Церашковай «Англійская мова: слова за словам», зборнік вершаў Андрэя Хадановіча «Нататкі таткі», зборнікі-забаўлянкі, укладзеныя Зосяй Куставай. І гэты спіс можна доўжыць! Пра неверагодны ўздым дзіцячай літаратуры сведчыць і той факт, што сёлета ў нашай краіне заснаваная прэмія імя Цёткі — за найлепшую кнігу для дзяцей. Дарэчы, узнагароджвацца ёй будзе не толькі пісьменнік, але і ілюстратар.

## У краіне паэтаў




Аглядаючы паліцы кніг, выдадзеных сёлета, чытач можа здзівіцца: сталыя пісьменнікі нас парадавалі менавіта вершаванымі зборнікамі. Людміла Рублеўская, Валянціна Аксак, Леанід Галубовіч, Святлана Варонік, Андрэй Хадановіч пасля досыць доўгага кніжна-паэтычнага маўчання прадставілі новыя работы. Гэтыя кнігі сталі не проста падсумаваннем зробленага за некалькі гадоў, але і даказалі: Беларусь — краіна паэтаў, як ні банальна гэта гучыць. Напэўна, толькі ў нас выдаўцы не баяцца выпускаць у свет паэтычныя зборнікі, і іх наклады не меншыя за тыражы раманаў.

У той жа час маладыя паэты сёлета крыху знізілі творчую актыўнасць і амаль не прадставілі новых кніг. У ліку самых яркіх работ прыгадаю хіба толькі «Сівер-Гару» Ігара Кулікова. Магчыма, цікавыя паэтычныя адкрыцці нас чакаюць у наступным годзе.

## Паўцарства — за пераклад!




Сёлета мы атрымалі неверагодна многа новых перакладаў. Так, па-беларуску можна прачытаць і «Лісты Круцяля» Клайва Льюіса (пераклад Францішка Корзуна), і польскі дэтэктыў Зігмунда Мілашэўскага «Доля праўды» (перакладчыца — Марына Казлоўская), і чэшскія сучасныя раманы «Жыткаўскія багіні» Катэржыны Тучкавай і «Рыбіна Кроў» Іржы Гайчака (перакладчыца — Святлана Рогач).

Той самай англійскай класікай сталі гісторыі пра Шэрлака Холмса (пераствораныя цэлым калектывам перакладчыкаў), нямецкім раманам — «Каала» Лукаса Бэрфуса (пераклад Ірыны Герасімовіч).

Дадалося некалькі выдатных кніг польскіх аўтараў, некалькі дзіцячых выданняў, і нават фінскі эпас «Калевала» дзякуючы выдатнай працы Якуба Лапаткі, цяпер можна прачытаць па-беларуску.

## Увага да традыцыйнай культуры

Палічка кніг, прысвечаных старажытным святам, абрадам, рамёствам, вераванням нашых продкаў, сёлета папоўнілася адразу некалькімі яркімі і адметнымі работамі. Выйшла работа Цімафея Авіліна «Паміж небам і зямлёй: Этнаастраномія», даследаванне Яўгена Сахуты «Беларускае народнае кавальства», фотаальбом Анатоля Клешчука «Карагод беларускіх абрадаў», праца Таццяны Валодзінай і Таццяны Кухаронак «Ядраное жыта гаспадара кліча»: каляндарны год у абрадах і звычаях».

Кожнае з гэтых выданняў змяшчае глыбокае даследаванне, разважанні, роздум пра тое, хто мы, беларусы, пошукі каранёў многіх сучасных святаў. Аўтары кніг упэўненыя: нашы традыцыі маюць багатую гісторыю, наш народ неверагодна мудры, а звесткі, што яшчэ захоўваюцца ў памяці старажылаў, — каштоўныя і вартыя занатавання. Адметна, што выданні падобнага кшталту карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў чытачоў, а выдаўцы з радасцю прымаюць такія работы з аглядкай на аўтарытэтнасць, вопыт і рэпутацыю аўтараў.

## Краўдфандынг — гэта знаёма




Ад выдаўцоў часам можна пачуць, што ўжо некалькі гадоў ляжыць выдатны рукапіс, але няма сродкаў на яго публікацыю. Цяпер выдавец можа сабраць неабходныя грошы на адмысловай пляцоўцы ў інтэрнэце. Ахвяраваць на выданне кнігі можа кожны, хто лічыць праект цікавым і неабходным. Гэта пэўнага кшталту і замова на кнігу, і праверка актуальнасці ідэі, і доказ даверу чытача выдаўцу. Практыка паказала, што сістэма працуе.

Сёлета некалькі выдавецкіх праектаў сталі магчымымі менавіта дзякуючы краўдфандынгу. Сабраныя сродкі на выданне дзявятага нумара часопіса беларускай прозы «Макулатура» (усе, хто ахвяраваў грошы, атрымаюць асобнік часопіса бескаштоўна), ужо ёсць неабходная сума для публікацыі зборніка «Нататкі пра Шэрлака Холмса» Артура Конан Дойла, а ў выдавецтве «Галіяфы» выйшла дзіцячая кніга Міхася Зізюка «Янка, Шмурдзік, Бухматка ды іншыя». Аказваецца, беларуская кніга запатрабаваная.

## Снежань — месяц прозы

Калі ў галіне паэзіі, дзіцячай літаратуры ці перакладу ўжо можна падводзіць пэўныя вынікі, то ў прозе нас сёлета яшчэ чакаюць новыя выданні. Анансавана адразу некалькі яркіх праектаў папулярных айчынных пісьменнікаў. Так, хутка выйдуць новыя кнігі Альгерда Бахарэвіча, Уладзіміра Арлова, Паўла Касцюкевіча, Адама Глобуса, Віктара Марціновіча, Андрэя Адамовіча. Магчыма, так уплывае на кніжны рынак Літаратурная прэмія імя Ежы Гедройца, і празаікі спяшаюцца прадставіць кнігі хаця б пад заслону года, каб стаць удзельнікамі новага гедройцаўскага сезона. А можа, проста абставіны так склаліся. Таму, безумоўна, чакаем!



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 625 57 51; +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81; novychas@gmail.com
**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1584

Падпісана да друку 18. 12.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.